ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 12 (2538)
ПЯТНІЦА
19
сакавіка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ВЯЛІКАЯ РАЗМОВА ПРА БЕЛАРУСКАЕ КІНО



У прэзідыуме III з'езда кінематаграфістаў Беларусі. Прывітанне ЦК КПБ з'езду зачытвае сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін.

## ТРЭЦЯМУ З'ЕЗДУ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ БССР

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі горача вітае трэці з'езд кінематаграфістаў БССР і жадае ўсім работнікам кінамастацтва рэспублікі новых поспехаў у іх высакароднай творчай дзейнасці, у стварэнні яркіх твораў, якія ўсталёўваюць веліч і прыгажосць неўміручых подзвігаў і працоўнага гераізму савецкіх людзей.

Камуністычная партыя заўсёды надавала і надае вялікае значэнне кіно як магутнаму сродку ідэйнага і эстэтычнага выхавання працоўных, як самаму масаваму з мастацтваў, якое адыгрывае велізарную ролю ў духоўным жыцці народа, у фарміраванні яго камуністычнага светапогляду.

Дзейнасць беларускіх кінематаграфістаў апошніх гадоў азнаменавана ўзрослай колькасцю выпускаемых мастацкіх, навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, выхадам на экраны раду твораў, якія атрымалі шырокае прызнанне гледача. У творчасці сцэнарыстаў і рэжысёраў, аператараў і артыстаў вызначылася імкненне больш актыўна ўдзельнічаць у вырашэнні задач, што стаяць перад партыяй і народам, няўхільна памнажаць свой уклад у камуністычнае выхаванне савецкіх людзей, у развіццё шматнацыянальнай савецкай культуры.

III з'езд кінематаграфістаў Беларусі праходзіць у знамянальны час, калі наша партыя, увесь савецкі народ рыхтуюцца да XXIV з'езда КПСС, які з'явіцца новай вяхой у будаўніцтве камунізма. Грандыёзныя перспектывы дзевятай пяцігодкі, маштабы будучых спраў і здзяйсненняў натхняюць савецкіх людзей на гераічную працу, смелыя парывы, наватарскі пошук. Тварыць для народа, які будуе камунізм, — вялікі гонар і вялікая адказнасць. Сёння нашы людзі, чый духоўны і эстэтычны ўзровень непамерна вырас, патрабуюць ад кінематаграфістаў усё больш глыбокіх па змесце і дасканалых па майстэрстве фільмаў, якія праўдзіва адлюстроўваюць жыццё ў яго рэвалюцыйным развіцці.

Выкарыстоўваючы багацейшы вопыт савецкай кінематаграфіі, дзеячы кінамастацтва Беларусі заклікаactive настойліва і ўсебакова распрацоўваць актуальныя тэмы сучаснасці. Галоўнае месца ў іх мастацкай творчасці павінны займаць велізарная стваральная і пераўтвараючая дзейнасць Камуністычнай партыі, рабочага класа, глыбокія змены ў жыцці калгаснага сялянства і савецкай інтэлігенцыі, паказ самаадданай працы, духоўнай высакароднасці, высокіх ідэалаў і імкненняў савецкіх людзей. Адной з важнейшых задач беларускага кіно з'яўляецца далейшая ўсебаковая распрацоўка героіка-патрыятычнай тэмы, высокамастацкае вырашэнне якой немагчыма без яркага паказу неўміручай велічы і гераізму савецкіх людзей, раскрыцця грандыёзных маштабаў барацьбы партыі і народа за ўмацаванне эканамічнай і палітычнай магутнасці нашай савецкай сацыялістычнай Радзімы.

Буйныя задачы заклікаты вырашаць кінадакументалісты. Высокае майстэрства і аператыўнасць, разуменне сутнасці праблем, што стаяць перад партыяй і народам, уменне бачыць у працоўных буднях рэспублікі ўсё сапраўды новае, прагрэсіўнае — гэтыя якасці неабходны сёння кожнаму работніку дакументальнага кіно, заклікананага ствараць яркі летапіс гераічных здзяйсненняў нашай эпохі.

Галоўная задача Саюза кінематаграфістаў рэспублікі — усямерна садзейнічаць умацаванню сувязей кінамастацтва з жыццём народа, накіроўваць творчую работу дзеячоў кіно на далейшае павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню ствараемых фільмаў, праўдзіва і па-высокамастацку паказваць багацце разнастайнасць нашай рэчаіснасці, цясней згуртоўваць кінематаграфістаў на прынцыпах партыйнасці, народнасці і сацыялістычнага рэалізму, выхоўваць у кожнага творчага работніка камуністычную перакананасць і прынцыповую патрабавальнасць да сваёй творчасці.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі выказвае цвёрдую ўпэўненасць у тым, што сцэнарысты і рэжысёры, аператары і акцёры, усе дзеячы кінамастацтва рэспублікі будуць і надалей ісці ў першых радах работнікаў ідэалагічнага фронту, прысвецяць свой талент і творчыя сілы стварэнню новых буйных па думцы і яркіх па форме твораў, якія ўсталёўвалі б вялікія ідэалы марксізма-ленінізма, ярка паказвалі б гераізм і натхнёную працу савецкага чалавека ў імя перамогі камунізма.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.**



У час перапынку паміж пасяджэннямі з'езда кінематаграфістаў. Народны артыст БССР С. Бірыла, народны артыст СССР А. Зархі і народны артыст СССР Ул. Корш-Саблін.



Аператар студыі «Беларусьфільм» Г. Удавенкаў, рэжысёр-аператар студыі «Беларусьфільм», заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Булінскі і рэжысёр студыі імя Даўжэнкі С. Науроцкі.

Фота Ул. КРУКА.





У гэтыя дні адбываюцца сустрэчы літаратараў і працаўнікоў мастацтваў з воінамі-пагранічнікамі, прысвечаныя XXIV з'езду КПСС. На заставах Заходняй граніцы выступаюць літаратары Беларусі, Украіны, Малдавіі, Літвы, Расійскай Федэрацыі.

На здымку злева — група беларускіх пісьменнікаў (злева направа) М. Рудкоўскі, А. Кулакоўскі, А. Авечкін і В. Шымук на адной з застаў Заходняй граніцы. На здымку справа — украінскія літаратары П. Усенка, П. Гурыненка і А. Кудзін на адной з застаў назіраюць за адпраўкай нарада на ахову дзяржаўнай граніцы.

Фота В. ГЕРМАНА. (БЕЛТА).

# БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫКА — НА БЕРАГАХ ДАЎГАВЫ

Як старых сяброў сустрэлі беларускіх музыкантаў меламаны Рыгі. Выканаўчае майстэрства беларусаў высока ацаніла грамадскасць і прыхільнікі сімфанічнай музыкі.

— Мы рады, што ў нас устанавіліся трывалыя творчыя кантакты з беларускімі выканаўцамі. Сумесныя выступленні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР і Дзяржаўнага акадэмічнага хору Латвіі ператвараюцца ў свята дружбы і братэрства нашых народаў, — сказала мастацкі кіраўнік Латвійскай філармоніі Інга Янаўна Каркліня. — Мы ўжо прывыклі да таго, што гастролі нашых гасцей пачынаюцца, як правіла, новым творам. І на гэты раз мы ўпершыню пачулі драматычную араторыю А. Анегера і П. Кладэля «Жанна д'Арк на вогнішчы». Работа заслужанага артыста БССР В. Катаева, як рэжысёра і дырыжора, а таксама выканаўцаў, заслугоўвае самай высокай ацэнкі.

— Цяжкую задачу паставіў перад сабой і выканаўцамі заслужаны артыст БССР В. Катаеў. Нягледзячы на тое, што сімфанічны аркестр, Дзяржаўны акадэмічны хор Латвіі і дзіцячы хор Палаца піянераў «Рыга» працавалі паасобку і для сумесных сцэнічных рэпетыцый было мала часу, дырыжор здолеў натхніць артыстаў на выкананне цяжкай і складанай араторыі, — гэтыя словы прафесара Латвійскай кансерваторыі Л. Красінскай падтрымала і народная артыстка Латвійскай ССР Э. Пакуль.

— Прыезд беларускіх музыкантаў заўсёды ўносіць ажыўленне ў культурнае жыццё Рыгі. Яркае і эмацыянальнае выкананне, высокі прафесіяналізм калектыву дае яму магчымасць выконваць фундаментальныя мастацкія палотны. Ёсць яшчэ адна выдатная традыцыя аркестра і дырыжораў В. Катаева і Ю. Яфімава. У час гастроляў у Латвіі яны заўсёды выконваюць творы беларускіх кампазітараў. Так, мы пазнаёміліся з творамі Г. Вагнера і Я. Глебава і іншых аўтараў, — сказаў пасля канцэрта народны артыст Латвійскай ССР, кампазітар А. Скултэ.

Пасля выступленняў у Латвіі Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР выступаў у Вільнюсе і Каўнасе.

Г. БАРЫСАЎ.

# III З'ЕЗД КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ БЕЛАРУСІ

**У Мінску 16—17 сакавіка працаваў III з'езд Саюза кінематаграфістаў Беларусі. Кароткім уступным словам з'езд адкрыў сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР Л. У. Голуб.**

**У прэзідыуме з'езда — кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР С. О. Прытыцкі, сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі П. П. Бляўскі, першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР У. У. Корш-Саблін, кінарэжысёр А. Г. Зархі, галоўны рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі студыі «Беларусьфільм» М. Лужанін, рэжысёр І. М. Дабралюбаў, сцэнарыст К. Л. Губарэвіч, кінааператар А. А. Булінскі, артысты кіно, прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў рэспублікі.**

**З вялікім уздымам дэлегаты выбралі ганаровы прэзідыум з'езда ў саставе Палітбюро ЦК КПСС.**

**Пасля выбрання рабочых органаў зацвярджаецца наступны парадак дня з'езда:**

**справаздача праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР;**

**справаздача рэвізійнай камісіі Саюза кінематаграфістаў БССР;**

**выбары праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР;**

**выбары рэвізійнай камісіі Саюза кінематаграфістаў БССР;**

**выбары дэлегатаў на II з'езд кінематаграфістаў СССР.**

**Сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін пад бурныя апладысменты дэлегатаў зачытаў прывітанне ЦК КПБ III з'езду кінематаграфістаў БССР.**

**Справаздачны даклад праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР зачытаў член прэзідыума праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР І. М. Дабралюбаў.**

**Справаздачу рэвізійнай камісіі Саюза кінематаграфістаў БССР зрабіў яе старшыня Г. Я. Удавенкаў.**

**Пасля дакладаў адбыліся спрэчкі.**

**З'езд выбраў новыя кіруючыя органы саюза і дэлегатаў на II з'езд кінематаграфістаў СССР.**

**З вялікім уздымам удзельнікі з'езда прынялі прывітанне Цэнтральнаму Камітэту КПСС.**

**Адбыўся арганізацыйны пленум праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР. Пленум выбраў першым сакратаром праўлення кінарэжысёра, народнага артыста СССР У. У. Корш-Сабліна. Сакратарамі выбраны А. Ф. Іваноў, І. М. Дабралюбаў і У. П. Цяслюк.**

**На пасяджэнні рэвізійнай камісіі Саюза кінематаграфістаў БССР старшынёй камісіі выбран Е. П. Сакалоў.**

**Даклад праўлення Саюза кінематаграфістаў з'езду друкуецца ў нашай газеце сёння. Справаздача аб спрэчках па дакладзе будзе змешчана ў наступным нумары.**

# ЗДЫМАЮЦЬ МІНЧАНЕ

Фотаклубу «Мінск» — дзесяць гадоў, і прыемна, што фотааматары горада адзначаюць гэты юбілей вялікай, прадстаўнічай выстаўкай у Палацы культуры прафсаюзаў.

Экспазіцыя, у якой работы больш дваццаці аўтараў, вызначаецца тэматычнай цэласнасцю. Яе галоўны герой чалавек. Яму, яго жыццю, працы, святам прысвечаны амаль усе работы.

Вось «1 Мая» А. Ерзянкова. Два дзявочыя твары, з ледзь прыкметнай усмешкай, святочныя. А побач партрэт «Рабочы чалавек». Жанчына ў гадах, у завязанай па-сялянску хустцы, з мудрым тварам, на якім і матчына дабрата, і адвечная жаночая гатоўнасць прыйсці на дапамогу.

Партрэт Юрыя Васільева з серыі «Твары», зроблены Я. Коктышам, іншага плана. Гэта хутчэй, сімвалічны вобраз паглыбленага ў свой роздум маладога чалавека. І зноў новая грань, новая тэма «галерэі вобразаў» — здымак Р. Крылова «Размова»: поўныя жывой мімікі, экспрэсіі, лёгкага гумару, жаночыя твары.

Цікавыя па каларыце работы У. Няхайчыка. «Раніца» — тыпова беларускі пейзаж: дзве хаты, расісты луг, сілуэт лесу, змякчаны добра перададзенай заслонай туману. У «Цішыні» У. Няхайчыка нібы чуваць ціхі плёскат ракі.

Своеасаблівыя работы Ю. Сапуна, А. Глінскага, М. Байцова, С. Левіха, В. Брадзіхіна, М. Моніча.

Ёсць у экспазіцыі і пралікі. Калі гэта выстаўка сталічных фотааматараў, хацелася б убачыць на ёй работы, прысвечаныя Мінску, а іх, на жаль, амаль няма.

П. ЛЕАНІДАЎ.

# РАЗАМ У АДКАЗЕ

## НАТАТКІ З СЕМІНАРА ТВОРЧЫХ РАБОТНІКАЎ СТАЛІЦЫ

«Нядаўна я глядзеў у купалаўцаў «Амністыю» па п'есе М. Матукоўскага. Не буду гаварыць пра ўсе аспекты спектакля, але сцэна пасяджэння таварыскага суда, дзе нахабніка Салавейчыка бяруць на парукі, вельмі жыццёвая. І людзі, якія дзеля абароны мундзіра, гатовы пакрыць злачынцу, у нас таксама не выведліся. Я маю на ўвазе персанаж, створаны ў спектаклі Зінаідай Іванаўнай Бравarскай, якая зараз сядзіць у гэтай зале...».

Мы прывялі ўрывак з выступлення пракурора Мінска Леаніда Лявонцевіча Дзядкова на семінары «Органы міліцыі і пракуратуры на ахове сацыялістычнай законнасці і парадку». Семінар гэты быў арганізаваны Мінскім гаркомам партыі для творчых работнікаў сталіцы.

І пракурор, і начальнік Упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома камісар міліцыі В. Піскароў, якія расказалі пра работу сіл аховы грамадскага парадку, пра барацьбу са злачыннасцю, падкрэслілі, што гэтая барацьба можа закончыцца поспехам толькі з дапамогай шырокай грамадскасці, што вялікая роля ў гэтым належыць работнікам літаратуры і мастацтва, якія сваімі творамі фарміруюць грамадскую думку, выхоўваюць новага чалавека.

В. Піскароў адзначыў, што за апошні час у міліцыі склаліся цесныя сувязі з Саюзам пісьменнікаў, з некаторымі іншымі творчымі саюзамі.

— І ўсё ж нам хацелася б — сказаў ён, — каб справа, якой мы займаемся, праблемы, якія мы вырашаем, знаходзілі больш поўнае адлюстраванне ў кнігах, спектаклях, у кіно, на мастацкіх палотнах. А што ў нас ёсць? З літаратурных твораў, непасрэдна прысвечаных барацьбе са злачынасцю, я магу назваць толькі аповесць «Лёнька Гром» Паўла Кавалёва. «Злодзей» Ільі Клаза, кнігу нарысаў пра міліцыю Аляксандра Міронава.

...Нават з таго абмежаванага жорсткімі рамкамі часу агляду, які быў зроблены на семінары, было ясна, што па-за нашым зрокам часам застаецца пэўны пласт жыцця, дзе кожны дзень ідзе барацьба за чалавека, за яго годнасць, за яго лёс.

Так, у нас няма арганізаванай злачыннасці, няма так званага злачыннага свету. Але некаторыя формы злачынства, на жаль, існуюць і часам заяўляюць пра сябе на поўны голас. Гэта хуліганства, раскраданне дзяржаўнай і прыватнай маёмасці, спекуляцыя, ашуканства.

Асаблівы неспакой выклікае злачыннасць сярод некаторай часткі падлеткаў, моладзі.

— 95 працэнтаў усіх хуліганскіх учынкаў адбываюцца на глебе п'янства, — адзначыў Л. Дзядкоў. — Мы апыталі 500 чалавек, якія трапілі ў выцвярэзнік. Выявілася, што сярод матываў для выпіўкі, галоўны — «проста захацелася выпіць».

— Чаму ж наогул не забараніць продаж спіртных напіткаў? — падаў рэпліку нехта з удзельнікаў семінара.

— «Сухі» закон, — адказаў пракурор, — не панацэя ад гэтай бяды. Усе ЧП на глебе п'янства — ад бескультурнасці, ад распусты, ад няўмення трымаць сябе ў рамках. Вінаватыя тут і сям'я, і школа, і грамадскія і культурныя арганізацыі.

На семінары шмат гаварылася аб прычынах з'яўлення праблемы «цяжкіх» падлеткаў. Як правіла, такія падлеткі бываюць у няўдалых сем'ях, дзе п'юць, лаюцца, б'юцца.

— Да нас паступае шмат заяў ад жонак, якія скардзяцца на невыносную абстаноўку ў сем'ях, на мужоў, якія сістэматычна п'юць, б'юць сямейнікаў, гаворыць В. Піскароў. — Усё гэта страшэнна агідна само па сабе, але часам мы забываем, што ўсё гэта адбываецца на вачах дзяцей, траўміруе іх. Ёсць сем'і, дзе дзеці адчуваюць сябе сіратамі пры жывых бацьках. Нядаўна ў Мінску адбыўся суд, дзе адных такіх бацькоў пазбавілі бацькоўскіх правоў. На гэтае судовае пасяджэнне мы запрасілі бацькоў, якія ў нас на заметцы і якія таксама з'яўляюцца кандыдатамі на пазбаўленне бацькоўскіх правоў. Мне здаецца, што судовае разбіральніцтва зрабіла на іх уражанне.

...Кажуць, што злачынцу няма сэнсу чытаць мараль. Натацыі на яго не ўплываюць. Але ж злачынцам не нараджаюцца, у жыцці кожнага праваарушальніка быў, мабыць, момант, калі можна было прадухіліць яго небяспечны крок па злачыннай сцежцы.

Мы ганарымся нашай грамадскай мараллю. Яна самая высокая ў свеце. Але часам за размовамі аб маралі мы ўпускаем галоўнае — яе канкрэтнае выяўленне, яе, калі можна так сказаць, прыкладное значэнне.

Рабочы вынес з цэха гайку. Паспрабуй, скажы яму, што ён злодзей. Пакрыўдзіцца да смерці. А між тым, якая розніца — украў чалавек на рубель, ці на сто. Юрыдычна — гэта, магчыма, не адно і тое ж, з пункту гледжання маралі — тое самае. Чаму ж мы не гаворым пра гэта на поўны голас, чаму часам ціхенька абыходзім маўчаннем?

А справа, магчыма, і не ў гайцы, справа ў благім прыкладзе, у спакусе ўзяць тое, што дрэнна ляжыць. Мы маем тут справу са своеасаблівай карозіяй маралі. І вінаватая ў гэтым не толькі дрэнная ахова (красці, відаць, лягчэй, чым ахоўваць) — адчуваць адказнасць павінны і людзі, якія фарміруюць грамадскую думку, стаяць на варце нашай маралі, г. зн. пісьменнікі і артысты, мастакі і дзеячы кіно...

Вось у такіх аспектах ішла гаворка на семінары. І, трэба спадзявацца, яна дала пэўны матэрыял для роздуму ўсім, хто на ім прысутнічаў.

М. ЗАМСКІ.

### У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выказваем сардэчную ўдзячнасць арганізацыям і асобам, якія раздзялілі з намі смутак з прычыны страты незабыўнага Івана Осіпавіча Ахрэмчыка.

Сям'я і блізкія І. О. АХРЭМЧЫКА.

# БЕЛАРУСКАЕ КІНАМАСТАЦТВА, СТАН І ЗАДАЧЫ

*Справаздачны даклад праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР*

## I.

III з'езд беларускіх кінематаграфістаў сабраўся ў знамянальныя дні, калі наша партыя і народ рыхтуюцца да XXIV з'езда КПСС. Абнародаваны праект Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане аднадушна ўспрыняты народам як велічная праграма, якая адкрывае шырокія перспектывы далейшага росквіту нашага грамадства. У кожным яго радку — мудрасць партыі, якая вядзе нас упэўненым ленінскім курсам да новых здзяйсненняў, да новых перамог у будаўніцтве камунізма.

«У мэтах больш поўнага задавальнення духоўных патрэб народа забяспечыць далейшае развіццё друку, тэлебачання, радыё, літаратуры і мастацтва, умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў культуры», — гаворыцца ў праекце Дырэктыў. Непасрэдна па кінематографе прадугледжваецца павелічэнне ў паўтара раза вытворчасці каляровых фільмаў, пашырэнне выпуску шырокаэкранных і шырокафарматных карцін, павелічэнне выпуску мастацкіх стужак для тэлебачання, далейшае развіццё сеткі кінатэатраў і кінаўстановак, укараненне ў кінапрамысловасць навейшага абсталявання і кінаплёнак. Зусім натуральна, што колькасны рост вытворчасці фільмаў прадвызначае рашучае павышэнне іх ідэйнай і мастацкай якасці. Партыя заклікае савецкіх кінематаграфістаў быць актыўнымі барацьбітамі за рэвалюцыйную перабудову свету, ва ўсёй прыгажосці паказваць мнагастайнасць нашай рэчаіснасці.

Чатыры гады мінула з часу апошняга рэспубліканскага кінематаграфічнага з'езда. Гэты перыяд быў адзначаны такімі выдатнымі падзеямі, як 50-годдзе Вялікага Кастрычніка, 50-годдзе БССР і Кампартыі Беларусі і 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна. Да гэтых гістарычных дат беларускія кінематаграфісты падрыхтавалі некалькі значных па змесце і форме мастацкіх і дакументальных карцін.

XXVII з'езд Камуністычнай партыі Беларусі, які нядаўна адбыўся, адкрыў перад намі велічную панараму стварэння і цудоўныя перспектывы развіцця нашай рэспублікі ў новай пяцігодцы. Гэта — крыніца натхнення для беларускіх кінематаграфістаў, помыслы, творчыя пошукі і планы якіх падначалены адзінай мэце — дапамагчы партыі ў яе барацьбе за шчасце народа.

## II.

За гады, якія мінулі пасля апошняга з'езда кінематаграфістаў рэспублікі, былі зроблены захады па арганізацыйна-творчай перабудове нашай кінематаграфіі: адбылося аб'яднанне студыі, створана аб'яднанне тэлевізійных фільмаў, рэзка павялічылася кінавытворчасць, колькасна вырас калектыў студыі, пераадолен шэраг складаных вытворчых і творчых праблем. І калі мы здзейснілі безумоўны колькасны скачок, мы яшчэ не вырашылі задачу па рэзкім павелічэнні якасці нашай работы, якая паўстала зараз ва ўсёй вастрыні.

Кінастудыя «Беларусьфільм» выпусціла на экран шэраг фільмаў, розных па жанравых і стылістычных адзнаках. Створаны гісторыка-рэвалюцыйныя карціны, творы, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны, фільмы аб сучаснасці. Ішла работа над кінафільмамі для дзіцячага гледача. Экранізаваліся творы літаратуры.

З буйных твораў на гісторыка-рэвалюцыйным матэрыяле перш за ўсё хочацца адзначыць пастаўленыя старэйшым рэжысёрам У. Корш-Сабліным фільмы «Запомнім гэты дзень» (сцэнарый А. Куляшова і М. Лужаніна) і «Крушэнне імперыі» (сцэнарый М. Блеймана і Н. Каварскага па аднайменным рамане М. Казакова). У гэтых фільмах рэжысёр зноў звярнуўся да будняў рэвалюцыі, да героікі і рамантыкі рэвалюцыйнага подзвігу, да расказу пра людзей — удзельнікаў і творцаў рэвалюцыі.

Прыемна адзначыць, што стваральнікі карціны «Крушэнне імперыі» беражліва і дакладна перадалі атмасферу таго незабыўнага часу. У дэкарацыях і натурных здымках, у касцюмах і ў дэталях быў пераканаўча ўзноўлены Петраград лютага 1917 года. Пастаўлены і зняты фільм глыбока, трывала, пераканаўча. Вялікая заслуга пастаноўшчыка ў тым, што ён сабраў у карціне цікавы ансамбль акцёраў. «Крушэнне імперыі» — першая карціна нашага кіно, якая ўзнаўляе на экране падзеі Лютаўскай рэвалюцыі. Яе ідэйна-мастацкая каштоўнасць несумненная.

Трэба таксама вітаць зварот нашых кінематаграфістаў да гісторыка-біяграфічнага жанру, у прыватнасці, да стварэння кінатвораў на матэрыяле далёкай гісторыі. Такія карціны ўжо даўно не ставіліся на «Беларусьфільме», а калі гаварыць дакладней, падобных фільмаў у нас, па сутнасці, і не было, апрача «Кастуся Каліноўскага», які зняты даўно, у першыя гады існавання беларускага кіно.

У фільме «Я, Францыск Скарына» (сцэнарый М. Садковіча, рэжысёр Б. Сцяпанаў) увасоблены вобраз вялікага сына беларускага народа, вучонага-гуманіста, асветніка. Беларускае кіно ўпершыню звярнулася да такой далёкай гісторыі свайго народа.

Стваральнікам фільма ў цэлым удалося данесці да гледача ідэйны сэнс твора, хоць у ім відавочныя і сур'ёзныя недахопы драматургіі: ілюстрацыйнасць некаторых эпізодаў, зададзенасць асобных вобразаў. Сюжэт фільма вырашаны ў традыцыях гістарычнай хронікі.

Героіка-патрыятычная тэма па-ранейшаму прыцягвае ўвагу майстроў нашага кіно. Менавіта ў вырашэнні гэтай тэмы «Беларусьфільм», як вядома, мае найбольшыя поспехі.

Як і раней, у апошнія гады беларускія кінематаграфісты працягвалі распрацоўку тэмы Вялікай Айчыннай вайны. Рэжысёр В. Тураў завяршыў экранізацыю раманаў А. Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой». Хоць стварэнне кінадылогіі і адбывалася ў складаных умовах, звязаных з пераакцэнтоўкай літаратурнай першаасновы і ўдакладненнем кінематаграфічных рашэнняў у паказе маштабу партызанскай барацьбы, рэжысёр В. Тураў і ў гэтай рабоце застаўся верным сваёй творчай манеры пільнай увагі да чалавека, да яго ўнутранага свету, праўдзівай інтанацыі ў раскрыцці людскіх лёсаў і акалічнасцей вайны.

Партызанская тэма чакае яшчэ свайго глыбокага маштабнага ўвасаблення на экране. Зусім заслужаны ў наш адрас папрок, выказаны на XXVII з'ездзе Кампартыі Беларусі П. М. Машэравым: «У апошні час студыя «Беларусьфільм» выпусціла некалькі карцін аб партызанскай барацьбе, але іх пастаноўшчыкі распрацоўвалі далёка не самыя важныя аспекты гэтай тэмы. Параўноўваючы перажытае савецкім народам з тым, што з'яўляецца на экранах, мы бачым, наколькі яшчэ далёкія нашы кінематаграфісты ад сапраўдных маштабаў падзей і вобразаў, герояў таго часу».

Мы абавязаны зрабіць глыбокія вывады з гэтай крытыкі і адказаць на яе стварэннем буйных твораў, вартых вялікага подзвігу беларускага народа ў гады Айчыннай вайны.

Да ваеннай тэматыкі звярнуліся і стваральнікі карціны «Годзен да нестраявой», вырашыўшы яе ў камедыйным ключы. Калі гледачы ў асноўным добразычліва сустрэлі гэту карціну, дык многа сур'ёзных нараканняў з іх боку выклікала карціна «Чакай мяне, Ганна».

Гэта, між іншым, адна з нешматлікіх карцін савецкага кіно, прысвечаная працаўнікам тылу. Нягледзячы на пераканаўчую літаратурную аснову сцэнарыя Ю. Нагібіна, фільм не дае правільнага ўяўлення аб суровых днях вайны. Прычына гэтага заключаецца перш за ўсё ў тым, што ў рэжысёрскай інтэрпрэтацыі адбылося пэўнае пераасэнсаванне матэрыялу, «пераацэнка каштоўнасцей». Тут яўна дала сябе адчуць тая тэндэнцыя творчасці рэжысёра В. Вінаградава, якая прывяла яго да сур'ёзных памылак у фільмах «Пісьмы да жывых» і, асабліва, «Усходні калідор». У фільме адчуваюцца рудыменты мінулых фармальных захапленняў рэжысёра, якія праяўляліся як у яго імкненні да знешняй прыгажосці, так і ў яго абвостранай увазе да натуралістычнага і алагічнага ў чалавеку. Усё гэта адбілася на трактоўцы вобраза галоўнай гераіні і ідэйна-мастацкай канцэпцыі фільма ў цэлым.

Кінастудыя «Беларусьфільм» даўно і пастаянна працягвае добрую традыцыю, ствараючы карціны для дзяцей і юнацтва. Вялікі поспех выпаў на долю дзіцячай карціны «Іван Макаравіч». Фільм удастоены міжнароднай прэміі ў Венецыі і некалькіх прызоў і дыпломаў, а яго стваральнікі сталі лаўрэатамі прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Плённа працягвае працаваць над дзіцячай тэматыкай старэйшы рэжысёр Л. Голуб. Яго карціна «Анюціна дарога», створаная па сцэнарыі К. Губарэвіча і прысвечаная лёсу маленькай дзяўчынкі на фоне падзей рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, выклікала цікавасць у дзіцячай аўдыторыі і адзначана дыпломам ЦК ВЛКСМ. За вялікую плённую работу па стварэнні фільмаў для дзяцей і юнацтва рэжысёр Л. Голуб і пісьменнік К. Губарэвіч атрымалі прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

З цікавасцю чакаем новую дзіцячую карціну Л. Голуба «Паланез Агінскага», работа над якой блізкая да завяршэння.

Сярод дзіцячых карцін, створаных на нашай студыі, мала задавальнення прынесла карціна «Мы з Вулканам», якую зрабіў рэжысёр-дэбютант В. Пяроў.

У сённяшняй размове аб творчым абліччы беларускага кінамастацтва асобую ўвагу хочацца аддаць самаму набалеламу і хвалюючаму пытанню, якое звязана з распрацоўкай сучаснай тэматыкі. Галоўнай тэмай савецкага кінамастацтва была і застаецца наша рэчаіснасць, гераічныя традыцыі нашага савецкага жыцця. Многа ўвагі і сіл аддалі гэтай тэме і беларускія кінематаграфісты. На жаль — аб гэтым трэба сказаць прама і адкрыта — у нас не было кінатвораў аб сучаснасці, якія можна было б аднесці да бясспрэчных удач.

Як вядома, паняцце сучаснасці мастацтва перш за ўсё звязана з адкрыццём і ўвасабленнем новых рысаў у сённяшнім жыцці, новага характару і звязаных з ім сацыяльных праблем. Калі, зыходзячы з гэтых палажэнняў, паглядзець на нашы фільмы, прысвечаныя сучаснасці, то вывады будуць вельмі несуцяшальныя. Ні адзін са створаных за справаздачны перыяд фільмаў — «Дзесятая частка шляху» (сцэнарый С. Кара, рэжысёр Ю. Дубровін), «Ствары бой» (сцэнарый Ю. Лакербая, рэжысёр М. Калінін), «І ніхто іншы» (сцэнарый С. Нагорнага, рэжысёр І. Шульман), «Шчаслівы чалавек» (сцэнарый Ф. Конева, рэжысёр І. Дабралюбаў), «Неспадзяванае каханне» (сцэнарый Г. Бекарэвіча, Ф. Конева, рэжысёр І. Шульман) — не прынёс творчай радасці іх аўтарам.

Канечне, названыя фільмы не раўназначныя па сваім ідэйна-мастацкім узроўні, але ў той жа час аб гэтых творах не скажаш, што яны самабытныя, што яны паставілі новыя праблемы.

Бяда карціны «Дзесятая частка шляху» (а ў ёй у большай ступені, чым у якім-небудзь іншым нашым фільме аб сучаснасці, сканцэнтраваны тыповыя недахопы такога роду твораў) не столькі ў тым, што драматургія яе традыцыйная, а ў тым, што вельмі знаёмыя, вельмі другарадныя яе героі і сітуацыі, у якія яны трапляюць.

Фільм «Дзесятая частка шляху» прысвечаны важнейшай тэме — тэме рабочага класа. У ім яўна адчуваецца прэтэнзія на грамадскую значнасць. Але ў фільме гэтай значнасці няма, таму што ў яго аснове ляжаць самыя павярхоўныя, самыя ходкія ўяўленні аб жыцці рабочага калектыву, аб праблемах, якія стаяць сёння перад людзьмі, што заняты ў прамысловасці. Жывыя, чалавечыя адносіны падменены панылай валтузнёй вакол станка.

Глыбокага даследавання характараў у фільме «Дзесятая частка шляху» не атрымалася, як не атрымалася такога ж даследавання і ў карціне «Ствары бой». У гэтым кінатворы, прысвечаным жыццю спартсменаў, характары асноўных герояў, як быццам на самай справе складаныя. На жаль, гэта ўскладнёнасць выглядае ў фільме штучнай, зададзенай з самага пачатку. Дэталёвы, глыбокі аналіз складаных чалавечых адносін, паказ дыялектыкі характараў, мастацкае даследаванне тонкасцей душэўных рухаў падменены ў фільме ілжывай шматзначнасцю. І хоць аўтары карціны «Ствары бой» зрабілі пакуль яшчэ рэдкую ў нашым кінематографе спробу пагаварыць аб спорце сур'ёзна, закрануць яго важныя маральныя праблемы, хоць фільму не адмовіш у прафесіянальнай культуры, — недахопы драматургіі перашкодзілі рэжысёру глыбока раскрыць тэму.

Ні ў адным кінатворы аб сучаснасці нашым кінематаграфістам не ўдалося стварыць па-сапраўднаму буйных яркіх вобразаў сучаснікаў. Няма такіх вобразаў і ў фільмах «І ніхто іншы», «Шчаслівы чалавек», «Неспадзяванае каханне».

Мы займаемся ў асноўным бытавымі гісторыямі, дробнымі, нязначнымі канфліктамі. А калі і спрабуем узнімаць сур'ёзныя тэмы, дык вырашаем іх часам павярхоўна, неглыбока. Прыклад гэтаму — карціна «Тысяча вокнаў» (сцэнарыст і рэжысёр А. Спешнеў), прысвечаная праблемам інтэрнацыяналізму, дружбе маладых людзей розных народаў. Карціна, нягледзячы на багацце антуражу, не змагла пераканаўча раскрыць пакладзеныя ў яе аснову праблемы.

Да ўдалых твораў аб сучаснасці можна аднесці публіцыстычную карціну А. Спешнева «Чорнае сонца», зробленую на зарубежным матэрыяле, — твор з ярка выяўленай палітычнай тэндэнцыяй. Жанр палітычнага фільма сёння, у перыяд вострай ідэалагічнай барацьбы, вельмі важны і неабходны для нашага кінематографа. Такой карцінай і з'яўляецца «Чорнае сонца», якая ўзнімае актуальную тэму барацьбы каланіяльных народаў за сваю свабоду і незалежнасць.

Цяжка, вельмі цяжка асвойваць сучасную тэму. Складанасці тут вельмі вялікія. Але яны не даюць права мастаку (калі ён сапраўдны мастак) адыходзіць ад праблем сённяшняга дня. Сучасная тэма павінна вызначаць генеральны накірунак у развіцці нашага кінамастацтва.

І вось тут асабліва непакоіць нас адна з самых нашых цяжкіх праблем — праблема кінадраматургіі.

## III.

Сцэнарнае пытанне заўсёды было вострым у рабоце нашай студыі. Сістэматычна не хапала і цяпер пакуль не хапае патрэбнай колькасці маштабных, цікавых па сваёй задуме і творчым вырашэнні сцэнарыяў.

Падрыхтоўка сцэнарыяў вялікага ідэйнага і мастацкага гучання стаіць на парадку дня і на гэта накіраваны асноўныя намаганні сцэнарнай рэдакцыйнай калегіі.

Як складваецца рэпертуар студыі ў 1971 годзе?

Па сцэнарыі Р. Шмырова рэжысёр Б. Сцяпанаў працуе над пастаноўкай карціны «Бацька», прататыпам галоўнага героя якой з'яўляецца праслаўлены партызан, Герой Савецкага Саюза Мінай Піліпавіч Шмыроў.

Пачата работа над каляровай шырокаэкраннай карцінай «Магіла льва» ў пастаноўцы маладога рэжысёра Валерыя Рубінчыка. Гэта будзе расказ аб правадыры сялянскага бунту Машэку. Асновай сцэнарыя з'яўляецца паэма Янкі Купалы «Магіла льва», заснаваная на беларускай легендзе.

Ідуць здымкі яшчэ адной гістарычнай карціны «Рудабельская рэспубліка». Падзеі яе адбываюцца на пачатку Савецкай улады. Сяляне маленькай Рудабелкі з радасцю прынялі Савецкую ўладу, адстаялі яе ў барацьбе з ворагамі. Гісторыя Рудабелкі знамянальная тым, што яна заставалася савецкай і ў гады грамадзянскай і ў гады Айчыннай войнаў.

Сучаснай тэме прысвечана і карціна «Свой хлопец», работу над якой завяршае рэжысёр Юрый Дубровін.

Такія справы з рэпертуарам 1971 года.

Чаго ж чакаем мы ад 1972 года?

Студыя ўжо даўно жыве жаданнем стварыць вялікае палатно аб партызанскай барацьбе дзе асабліва праявіўся гераізм беларускага народа.

Хацелася б убачыць партызанскі рух больш шырока, маштабна. Студыя спрабуе запоўніць гэты прабел. Група аўтараў працуе над сцэнарыем двухсерыйнай карціны «Полымя». Драматургія сцэнарыя заснавана на сапраўдных падзеях, якія мелі месца ў красавіку 1944 года.

(Працяг на 12-й стар.).

Друкуецца з некаторымі скарачэннямі.

# РАЗАМ З УСІМ НАРОДАМ

## *На партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

Выступаючы на сходзе ў спрэчках, Павел Кавалёў расказаў пра нядаўнія дні беларускай літаратуры на Магілёўшчыне і ўспомніў вельмі цікавую размову з дырэктарам Магілёўскага завода штучнага валакна. Дырэктар прыгадаў, як у пачатку 30-х гадоў на шаўковую фабрыку (так да вайны называлася гэтае прадпрыемства) прыязджала вялікая група беларускіх пісьменнікаў. Вынікам паездкі з'явілася кніга «Шоўк», якая ў тыя гады выклікала вялікі рэзананс. «Прыязджайце зараз да нас, — запрасіў дырэктар, — напішыце пра наш рабочы калектыў. Ён варты таго. А мы вам створым усе ўмовы для плённай работы».

Гэты факт з выступлення П. Кавалёва нібы праілюстраваў прыведзенае ва ўступным слове сакратара партбюро Аляксея Кулакоўскага тое месца з даклада П. М. Машэрава на XXVII з'ездзе Камуністычнай партыі Беларусі, у якім гаворыцца, што духоўны рост працоўных значна апярэджвае дасягненні літаратуры і мастацтва, што нашы пісьменнікі яшчэ не стварылі буйных яркіх твораў, у якіх праблемы заводскага калектыву і асобы рабочага атрымалі б глыбокае і ўсебаковае адлюстраванне.

Так, наша жыццё шпарка крочыць наперад. Агульнавядомыя глыбокія змены, што адбыліся літаральна ў апошнія гады ў сацыяльна-эканамічным абліччы Беларусі. Пра гэта яшчэ раз напомнілі лічбы і факты ў дакладзе, які зрабіў на сходзе намеснік старшыні Савета Міністраў БССР, Старшыня Дзяржплана рэспублікі Піліп Лаўрэнцевіч Коханаў.

За адно апошняе пяцігоддзе, да прамысловага патэнцыялу рэспублікі прыбавілася як бы амаль яшчэ адна індустрыяльная Беларусь. У восьмую пяцігодку атрымана прамысловай прадукцыі прыкладна столькі, колькі яе было атрымана ў рэспубліцы за дваццаць пасляваенных гадоў.

За гады пяцігодкі асвоена вытворчасць больш за пяцьсот новых вырабаў. Многія з іх вядомы далёка за межамі Беларусі. Напрыклад, станкі рэспубліка экспартуе ў 86 краін свету. Сёння на долю Беларусі прыпадае 18 працэнтаў усіх трактароў, якія выпускаюцца ў краіне, 6 працэнтаў грузавых аўтамабіляў, прычым гэта аўтамабілі высокай грузападымальнасці, 10 працэнтаў тэлевізараў. А электронна-вылічальныя прыборы, поліэтылен, лаўсан, капралактам, азотныя і фосфарныя ўгнаенні...

Вялікіх зрухаў дасягнула сельская гаспадарка. За пяцігоддзе збор збожжа павялічыўся на 53 працэнты, бульбы на 43, мяса на 73 і малака на 60 працэнтаў.

Эканамічны ўздым рэспублікі суправаджаўся няўхільным павышэннем жыццёвага ўзроўню працоўных. Рэальныя даходы ў разліку на душу насельніцтва павялічыліся на 37 працэнтаў. Шырока вялося жыллёвае і культурна-бытавое будаўніцтва.

— Гэта вышыня, — гаворыць П. Коханаў, — з якой адкрываюцца новыя далягляды. Рубяжы, намечаныя Дырэктывамі па пяцігадовым плане па кожнай галіне народнай гаспадаркі ўражваюць. Хто ўважліва чытаў Дырэктывы, той звярнуў увагу на адну акалічнасць. Упершыню аддаецца перавага не вытворчасці сродкаў вытворчасці, а вытворчасці прадметаў спажывання, якая ўзрасце на 44—48 працэнтаў.

Праектам Дырэктыў прадугледжваюцца высокія тэмпы развіцця прамысловасці Беларусі. Яе прадукцыя за пяцігоддзе павінна павялічыцца на 50—53 працэнты. Апераджальнае развіццё набудуць электронная, радыётэхнічная, электратэхнічная прамысловасць, прыборабудаванне і іншыя неметалаёмістыя галіны. Такія прадпрыемствы не патрабуюць вялікай колькасці рабочай сілы і могуць быць узведзены ў невялікіх гарадах, што ў сваю чаргу будзе садзейнічаць эканамічнаму і культурнаму росквіту гэтых гарадоў.

І зноў жа хімія. Вялікая хімія. Аб'ём вытворчасці прадукцыі хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці ў 1975 годзе павялічыцца ў два з палавінай раза ў параўнанні з 1970 годам.

Мы часта паўтараем слова «хімія», не ўяўляючы сабе канкрэтна яго важкасці. Дакладчык прывёў такі характэрны прыклад. Адна тона поліэтылену — яго выпускае Полацкі хімічны завод — пры вытворчасці труб замяняе 8 тон сталі.

На больш высокія рубяжы выходзіць і сельская гаспадарка рэспублікі. Да 1975 года валавы збор збожжа трэба будзе давесці да 7 мільёнаў тон пры сярэдняй ураджайнасці 27—28 цэнтнераў з гектара. Валавая вытворчасць мяса павялічыцца ў паўтара раза, малака ў 1,4 раза, яек у 1,8 раза.

Ставіцца задача забяспечыць новы істотны ўздым жыццёвага ўзроўню савецкіх людзей. Так, у прыватнасці, прадугледжваецца павялічыць сярэднюю заработную плату рабочых і служачых на 24 працэнты, аплату працы калгаснікаў — на 40 працэнтаў.

Гэта велічныя задачы і паспяхова рашыць іх можна пры максімальным напружанні ўсіх сіл і сродкаў.

— Пры ўсіх поспехах, якіх мы дамагліся, — гаворыць дакладчык, — мы не можам закрываць вочы на недахопы. Не сакрэт, што 7—10 працэнтаў нашых прадпрыемстваў не выконваюць даведзеных планаў. Ёсць хібы ў рабоце будаўнічых арганізацый, якія ў мінулай пяцігодцы не асвоілі каля 360 мільёнаў рублёў. Прычына? Нашы будаўнікі не былі гатовы да ўзвядзення буйных прадпрыемстваў.

У нас маглі быць лепшыя вынікі ў сельскай гаспадарцы. Побач з калгасамі і саўгасамі, якія за апошнія гады ўзнялі ўраджайнасць збожжавых да 25—35 цэнтнераў з гектара, ёсць і гаспадаркі, што атрымліваюць у два—тры разы менш.

— Абмеркаванне праекта Дырэктыў, — гаворыць ў спрэчках па дакладзе Ул. Мяжэвіч, — прадугледжвае перш за ўсё дзелавы падыход да справы. Сёння я буду гаварыць пра тое, што нам перашкаджае. На маю думку, трэба ўзмацніць кантроль за дзейнасцю гаспадарчых арганізацый. Прывяду прыклады. Мінскія будаўнічыя трэсты спісваюць у паўтара раза больш металу, чым дазваляюць нормы. Або вось яшчэ Рэспубліканская клінічная бальніца ў Бараўлянах будуецца ўжо сем гадоў, хаця па праекце яна павінна была быць пабудавана за два з палавінай гады. За гэты час сюды некалькі разоў завозілі абсталяванне. Завязуць партыю, яна пастаіць на складзе год — другі, маральна састарэе, тады вязуць новую. Ці падлічыў хто ў якую капеечку гэта абыходзіцца дзяржаве? Або возьмем ахову прыроды. Міністэрства лясной гаспадаркі штогод дае суцяшальныя дадзеныя аб павелічэнні лясоў у рэспубліцы. На самой справе, лес у многіх месцах, асабліва калгасны лес, вынішчаецца.

Авяр'ян Дзеружынскі таксама прывёў шматлікія факты гаспадарчай неашчаднасці.

— Тысячы рабочых, не шкадуючы сіл, здабываюць мінеральнае ўгнаенне, каб багацела наша зямля, каб лепей радзіла. А заедзьце на любую чыгуначную станцыю, і вы ўбачыце, як пад адкрытым небам, пад дажджом і снегам ляжаць і псуюцца горы гэтага ўгнаення. Трэба абавязкова паўсюдна будаваць сховішчы для ўгнаенняў. Ды і не толькі для ўгнаенняў, для гародніны і садавіны таксама, бо палавіна іх гіне і мы завозім тыя ж яблыкі ледзь не з заморскіх краін.

Мікола Ткачоў і Леанід Прокша адзначылі, што ў праекце Дырэктыў важнае месца надаецца паляпшэнню гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва. Пакуль што ў гэтай сферы ёсць шмат недаробак.

М. Ткачоў спыніўся таксама на некаторых пытаннях гаспадарчай дзейнасці Саюза пісьменнікаў. У гэтае пяцігоддзе беларускіх пісьменнікаў чакае наваселле. Будзе ўзведзены Дом літаратара, дзе размесцяцца Саюз пісьменнікаў і вялікі літаратурны музей. У Каралішчавічах рэканструецца Дом творчасці.

Слушныя прапановы былі выказаны ў выступленнях Еўдакіі Лось, Язэпа Семяжона і іншых.

П. Коханаў адказаў на шматлікія пытанні ўдзельнікаў сходу, а таксама на крытычныя заўвагі, выказаныя ў спрэчках.

Сход прыняў разгорнутую рэзалюцыю, якая горача ўхваляе праект Дырэктыў XXIV з'езда КПСС.

# ЗАВОД. ГОРАД. ЧАЛАВЕК

*«...расшырыць практыку будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў...»*

**З праекта Дырэктыў.**

Архітэктура ў сферы побыту і адпачынку блізкая і зразумелая кожнаму. Часта людзі горача спрачаюцца аб архітэктуры жылога раёна, вуліцы, дома, кінатэатра і г. д. Тут яна лёгка ацэньваецца і адчуваецца кожным у адпаведнасці з яго патрэбамі.

Аднак рэдка пачуеш падобныя спрэчкі аб задачах і праблемах прамысловай архітэктуры. Мабыць, шырокім колам насельніцтва яшчэ недастаткова зразумелыя яе прырода і сутнасць. У выніку прамысловую архітэктуру часта зводзяць або да утылітарызму і голай тэхнікі, або да тэхнічнай эстэтыкі, г. зн. мастацкага канструявання саміх станкоў, прамысловай прадукцыі і г. д. Недаацэнка ролі і няправільнае тлумачэнне сутнасці прамысловай архітэктуры наносіла ёй у мінулым, а іншы раз і цяпер прыкметныя страты.

Створана нямала сумных, непрывабных заводскіх карпусоў і інжынерных пабудоў. Так, у Гродне на адной з галоўных магістраляў горада — вуліцы Горкага вырасла бавоўняна-прадзільная фабрыка. Будынак — з сучасных матэрыялаў і прагрэсіўных канструкцыйных элементаў. Але архітэктурна-мастацкаму абліччу фабрыкі не ўдзелена патрэбнай увагі. І як вынік — сумны, невыразны будынак, які пагаршае выгляд гарадской магістралі.

У недалёкім мінулым ствараліся прамысловыя будынкі, у якіх унутраная прастора вырашалася без уліку яе мастацкага ўзроўню, без чоткай арганізацыі культурна-бытавога абслугоўвання рабочых. Кепская архітэктура ў заводскіх цэхах пагаршае ўмовы працы і — у выніку — зніжае прадукцыйнасць працы і якасць прадукцыі.

У апошні час увага да архітэктурных і эстэтычных праблем прамысловасці павысілася.

Праектуюцца і будуюцца прамысловыя прадпрыемствы, якія будуць служыць чалавеку і пры камунізме. У архітэктурным асяроддзі, якое ствараецца сёння на прамысловых прадпрыемствах, будуць працаваць і ўжо працуюць людзі, для якіх, як сказана ў Праграме КПСС, працоўная дзейнасць перастае быць толькі сродкам да жыцця і ператвараецца ў сапраўдную творчасць, крыніцу радасці.

Прамысловая архітэктура закліканa стварыць на вытворчасці матэрыяльна і эстэтычна арганізаванае асяроддзе, неабходнае не толькі для тэхналагічнага працэсу, але і, у першую чаргу, для чалавека. Бо ён кіруе гэтай самай тэхналогіяй. Бо ён, ствараючы дабрабыт грамадства, праводзіць на вытворчасці значную частку жыцця. Вось у чым сутнасць прамысловай архітэктуры!.. Акрамя таго, прамысловая архітэктура пастаянна ўздзейнічае на чалавека эмацыянальна. Яна яго, урэшце, выхоўвае.

Чалавек на вытворчасці пастаянна акружаны архітэктурай: і ў прахадной, і на заводскай тэрыторыі, і на сваім рабочым месцы. Архітэктура здольная не толькі стварыць добры настрой, зрабіць высокапрадукцыйнай працу, але і выхаваць у рабочым пачуццё гордасці за сваё прадпрыемства.

А якое значэнне прамысловай архітэктуры ў горадабудаўніцтве!.. Прамысловыя прадпрыемствы, як правіла,— горадаўтваральная аснова. Яны нярэдка займаюць 30—40 працэнтаў гарадской тэрыторыі. Архітэктура прамысловых прадпрыемстваў уплывае на воблік горада, яго плошчаў, вуліц, асобных раёнаў. Мінчанам і гасцям сталіцы рэспублікі добра вядома плошча імя Якуба Коласа. Архітэктурна-кампазіцыйным цэнтрам, які стварае вобраз гэтай плошчы, з'яўляецца комплекс прамысловых будынкаў паліграфічнага камбіната і завода імя Арджанікідзе. Гэты комплекс з добра прадуманай архітэктурай — асноўная дамінанта плошчы.

Другі прыклад. Комплекс дывановага камбіната і панчошнай фабрыкі ў Брэсце стварыў у раёне вуліцы Заводскай на стыку з мікрараёнам цікавую адміністрацыйна-вытворчую і культурна-бытавую зону.

У тым жа Брэсце, на асноўнай яго магістралі — вуліцы Маскоўскай, ствараецца комплекс шматпавярховых будынкаў адміністрацыйна-лабараторнага і культурна-бытавога прызначэння. У яго ўваходзяць інжынерны корпус завода вышынёй каля 50 метраў, карпусы бытавыя, грамадскага харчавання і грамадска-відовішчных прадпрыемстваў. Гэты комплекс разам з паркава-спартыўнай зонай, што па другі бок магістралі, арганізуе цэнтр усходняга раёна горада і ўнушальную забудову галоўнай магістралі. Тутэйшыя службы разлічаны на абслугоўванне як тых, хто працуе на прадпрыемстве, так і жыхароў бліжэйшых раёнаў. Падобныя комплексы ствараюцца і ў іншых гарадах рэспублікі.

Праекціроўшчыкі і будаўнікі нашай рэспублікі паспяхова супрацоўнічаюць, ствараючы прамысловыя будынкі і цэлыя комплексы, якія адпавядаюць сучасным патрабаванням. Спашлёмся, напрыклад, на зборачны корпус Мінскага гадзіннікавага завода, дывановы камбінат і панчошную фабрыку ў Брэсце.

На Брэсцкім дывановым камбінаце ўсе дапаможныя і асноўныя службы зблакіраваны ў адным будынку. Тут выразная архітэктура інтэр'ераў і экстэр'ераў. Асноўныя цэхі — у прасторных, па-сучаснаму аддзеланых залах, у якіх заўсёды пастаянная тэмпература і вільготнасць, максімальнае асвятленне, падвясная столь змяншае шум. Для рабочых — зручныя бытавыя памяшканні, медпункт, сталовая, спартыўная зала, зала сходаў.

Аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў у комплексы дазваляе каапераваць асноўныя і дапаможныя службы і службы інжынернага забеспячэння, што дае вялікі эканамічны эфект, і, гэта вельмі важна, дазваляе паспяхо-

**І. БОЎТ,**
**архітэктар.**

# НАСПЕЎ ЧАС

*«Звярнуць асаблівую ўвагу на ўдасканаленне сістэмы культурнага абслугоўвання насельніцтва...»*

**З праекта Дырэктыў.**

Цудоўныя дні перажывае краіна. Ідзе падрыхтоўка да XXIV з'езда партыі. Бібліятэчныя работнікі Мінска рыхтуюцца да яго таксама. Наладжваюць кніжныя выстаўкі, праводзяць сустрэчы сваіх чытачоў з наватарамі вытворчасці, ветэранамі вайны, дзеячамі літаратуры. Сустрэчы з пісьменнікамі сталі ў нашых бібліятэках даволі частымі з'явамі. Прыгадаем толькі апошні час: у рамесным вучылішчы № 38 выступалі беларускія пісьменнікі Мікола Хведаровіч, Аляксей Зарыцкі, Ільля Клаз, рабочыя Мінскага аўтобуснага парка сустрэліся з паэтам Міколам Аўрамчыкам і кінадраматургам Алесем Кучарам, на Мінскім трактарным і аўтамабільным заводах пабывалі Уладзімір Карпаў. Мікола Аўрамчык, Рыгор Барадулін, Іван Грамовіч, Алесь Ставер і іншыя паэты і празаікі. Многія масавыя бібліятэкі наведалі ўжо сёлета Іван Мележ і Іван Шамякін. Такія сустрэчы — гэта школа выхавання нашых чытачоў, павышэння іх культурнага ўзроўню. Але каб падобных сустрэч было больш, каб яны вы-



Праект інтэр'ера кавальскага цэха Жодзінскага завода цяжкіх кавальскіх штамповак.



Так выглядае вязальны цэх Брэсцкай панчошнай фабрыкі.



Комплекс заводаў галаўной часткі прамысловага вузла ў Брэсце.

ва вырашаць горадабудаўнічыя і архітэктурна-планіровачныя задачы. Гэта, канечне, патрабуе больш пільнай увагі праекціроўшчыкаў да архітэктурна-планіровачных, мастацкіх і інжынерных якасцяў забудовы, патрабуе ансамблевага яе вырашэння.

Добры ўзор аднаго з новых прамысловых вузлоў нашай рэспублікі — Брэсцкі-ўсходні. Генеральны план гэтага прамысловага вузла і праекты прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у яго, распрацаваны калектывам праектнага інстытута Белпрампраект.

Брэсцкі-ўсходні ўзводзіцца на тэрыторыі былых фортаў. У яго ўвайшлі некалькі прадпрыемстваў, але энергетычная, складская, транспартная гаспадарка і інжынерныя камунікацыі ў іх агульныя. Дзякуючы ўдаламу спалучэнню аднапавярховых карпусоў са шматпавярховымі інжынерна-лабараторнымі будынкамі і будынкамі бытавой абслугі, удалося стварыць выразныя архітэктурныя ансамблі. Яны арганізуюць на значнай адлегласці важныя гарадскія магістралі — вуліцы Маскоўскую, Заводскую і Піянерскую. Галоўная частка прамысловага вузла — комплекс шматпавярховых будынкаў культурна-бытавога і інжынерна-лабараторнага прызначэння. Яны разам з грамадска-гандлёвым цэнтрам будуць абслугоўваць як рабочых, што працуюць тут, так і жыхароў бліжэйшых раёнаў.

Будынкі, у якіх размешчаны дывановы камбінат і панчошная фабрыка таксама маюць усе характэрныя рысы будоўляў новага тыпу: дакладную форму плана, буйную сетку калон, добра прадуманую арганізацыю ўнутранай прасторы. Усе асноўныя, дапаможныя і адміністрацыйна-бытавыя службы і службы інжынернага забеспячэння зблакіраваны і маюць прадуманае заніраванне. Унутраная прастора — буйныя вытворчыя залы, аддзеленыя адна ад адной шклянымі перагародкамі з буйным ашкленнем, складаюць адзіную кампазіцыю.

У гэтых корпусах вы не ўбачыце вентыляцыйных корабаў і іншых тэхналагічных разводаў. Сантэхнічныя, энергетычныя і іншыя камунікацыі размешчаны ў міжфермавай прасторы і пад падлогай. Падвесная столь з люмінісцэнтнымі лямпамі, каляровая падлога ў спалучэнні з добра афарбаваным тэхналагічным абсталяваннем надаюць інтэр'еру ўтульнасць, святочнасць і паглынаюць шум. Штучнае святло забяспечвае раўнамернае асвятленне, а кандыцыянаванае паветра — пастаянны тэмпературна-вільготны рэжым у любы час года.

Цікавыя аб'ёмна-планіровачныя рашэнні і архітэктура будынкаў комплексу прадпрыемстваў аўтамабільнай прамысловасці, які ствараецца ў Жодзіне. Асноўныя прадпрыемствы гэтага комплексу — Беларускі аўтазавод, які рэканструецца, і завод цяжкіх кавальскіх штампаў.

Рэканструкцыя завода прадугледжвае значнае павелічэнне вытворчых плошчаў, новую арганізацыю тэхналагічнага працэсу і культурна-бытавой абслугі працуючых. Асноўны аб'ект новага будаўніцтва БелАЗа — блок вытворчых цэхаў № 2, у якім — усе асноўныя службы па вытворчасці вялікагрузных аўтамабіляў. Гэта сучасны прамысловы будынак з новымі аб'ёмна-планіровачнымі і канструкцыйнымі рашэннямі. Будынак у плане мае ўнушальныя памеры. Узбуйненая сетка калон дазваляе рацыянальна арганізаваць тэхналагічны працэс. У цэхах — натуральнае святло і кандыцыянаванае паветра, прадуманая схема ўнутраных транспартных магістраляў. Для змяншэння шуму вентыляцыйныя ўстаноўкі вынесены ў спецыяльныя галерэі на дах будынка.

Тут будуць працаваць тысячы чалавек. Культурна-бытавое забеспячэнне такой колькасці людзей — задача не простая. Архітэктары прапанавалі занальную схему культурна-бытавой абслугі, якая дазволіла наблізіць гэтыя службы да рабочых месц і палепшыць бытавую абслугу. Бытоўкі размешчаны ў 4-павярховых карпусах, выцягнутых па ўсёй даўжыні вытворчага корпуса, з боку яго галоўнага фасада. Яны звязаны паміж сабой пераходнай антрэсоляй. Чляненне даволі працяглай гарызантальнай плоскасці вытворчага корпуса 4-павярховымі бакавымі прыбудовамі дазволіла стварыць цікавую кампазіцыю галоўнага фасада. Цікава вырашаны інтэр'еры вытворчых цэхаў і бытавых памяшканняў, у якіх ужыты сучасныя аддзелачныя матэрыялы.

Не забыліся архітэктары і на добраўпарадкаванне і азеляненне заводскіх тэрыторый. Некаторыя нашы прадпрыемствы сталі заводамі-садамі. Гэта па душы рабочым. Вопыт паказвае, што на заводах з добраўпарадкаванай і азелянёнай тэрыторыяй пасля работы людзі не спяшаюцца дадому, а застаюцца некаторы час, адпачываюць у сваім калектыве.

Зразумела, у невялікім артыкуле немагчыма расказаць пра ўсе праблемы прамысловай архітэктуры, пра тое, як вырашаюцца яны беларускімі дойлідамі. Тым больш, што стварэнне сучасных прамысловых прадпрыемстваў — справа цяжкая, надзвычай адказная і ганаровая і поспех залежыць не толькі ад праекціроўшчыкаў, але і ад будаўнікоў, эксплуатацыйнікаў і іншых.

---

хоўвалі чытача і пісьменніка, трэба вырашыць многія праблемы нашай бібліятэчнай работы. Гаворка аб іх напрошваецца якраз цяпер, калі народ абмяркоўвае праект Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па дзевятым пяцігадовым плане.

Наспеў час весці гаворку аб будаўніцтве масавых бібліятэк па тыпавых праектах. Будуюцца тыпавыя магазіны, склады і г. д., і ў той жа час у Мінску няма ніводнага тыпавога будынка бібліятэкі. Памяшканні, у якіх яны размяшчаюцца, у свой час будаваліся пад магазіны, кватэры, і бібліятэкамі зрабіліся міжволі. Вядома, у такіх прыстасаваных памяшканнях няма кнігасховішчаў, добрых чытальняў і іншых зручнасцяў, часам вельмі неабходных. А між тым, кніжны фонд у бібліятэках увесь час расце.

Не менш важнае пытанне — правільнае размяшчэнне сеткі масавых бібліятэк. Наш Мінск за апошнія гады разросся, а многія яго вуліцы, нават цэлыя мікрараёны — Чыжоўка, Усход-1, Усход-2 і іншыя засталіся без бібліятэк. Як гэта здараецца? Чаму пры планаванні цэлага гарадскога раёна не ўлічваецца будаўніцтва бібліятэк?..

Ёсць яшчэ адна праблема: цэнтралізацыя бібліятэк. Шматгадовы вопыт бібліятэчнай справы паказвае, што кожны раён горада мае патрэбу ў цэнтральнай бібліятэцы, а каб астатнія бібліятэкі раёна былі ёй падначалены. Гэта было б вельмі зручна для чытача і разам з тым прадухіліла б распыленне сродкаў. Можна было б пазбегнуць таго становішча, калі адну кнігу чытач не можа знайсці ніяк, бегаючы па бібліятэках, а другая ляжыць, не чытаецца ва ўсіх бібліятэках. Так пакуль што бывае даволі часта.

Безумоўна, праблем у бібліятэчнай справе значна больш, але калі мы возьмемся за вырашэнне хоць найбольш кардынальных, бібліятэкі зробяць значны крок наперад ў паляпшэнні работы з чытачом, у абслугоўванні яго кнігай.

**Л. ФРЫД,**
**загадчык бібліятэкі № 11 г. Мінска.**

---

# ПОСПЕХ РАМАНІСТА

## ТВОРЧЫ ВЕЧАР МІКОЛЫ ЛОБАНА

**Цікава стала бываць на творчых вечарах, якія рэгулярна праводзяцца ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР. На гэты раз яго арганізатарамі былі Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР і секцыя прозы СП БССР.**

**Ва ўступным слове кандыдат філалагічных навук Дзмітрый Бугаёў адзначыў, што раманы Лобана занялі прыкметнае месца ў беларускай літаратуры. «Гарадок Устронь», на яго думку, раман больш дынамічны і востры ў пастаноўцы складаных сацыяльных праблем часу, чым раман «На парозе будучыні». Пісьменнік умее добра маляваць чалавечыя характары, псіхалагічна пераканальна і праўдзіва. Гэта можна сказаць і пра галоўнага героя рамана Андрэя Шэмета і пра эпізадычныя вобразы — усе яны непаўторныя, самабытныя.**

**Пасля выступіў аўтар, які раскрыў «сакрэты» сваёй творчай лабараторыі. Першапачатковая задума ў яго была напісаць раман пра вайну, бо было што расказаць пра гэты цяжкі для народа, поўны гераізму час. Ён сам удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, шмат бачыў і перадумаў.**

**— Але вось адбыўся XX з'езд партыі,— расказвае Мікалай Паўлавіч,— які многае змяніў у маіх уяўленнях і творчых планах. Давялося нанава ўсё перадумаць, пераглядзець. Пачаў шукаць новы сюжэт, у якім хацелася паказаць лёс майго пакалення праз самыя драматычныя падзеі нашай гісторыі — Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна, калектывізацыя, Вялікая Айчынная вайна...**

**Сюжэт рамана даваўся пакутліва, працаваў надзвычай доўга. Каб напісаць раман «Гарадок Устронь», перачытаў газеты з 1915 па 1921 год, склаў картатэку важнейшых падзей таго часу. Ёсць у мяне і другая картатэка — герояў, у якой дакладна вядзецца іх біяграфія. І яшчэ адна памочніца ў рабоце — картатэка сюжэта. Збіраючы матэрыял для рамана, давялося папрацаваць і ў партархіве. У сваёй працы імкнуся быць вельмі дакладным у дачыненні да факта, падзеі.**

**Міколу Лобану было зададзена многа пытанняў: як пісалася без рэальных прататыпаў, ці «слухаюцца» аўтара героі рамана, ці ўмесціцца назапашаны пісьменнікам матэрыял у трылогію і шмат іншых. На кожнае пытанне М. Лобан даў падрабязны адказ.**

**На вечары думкамі аб рамане «Гарадок Устронь» падзяліліся Юльян Пшыркоў, Марына Барсток, Міхась Мушынскі.**

**— У кожнага пісьменніка свая творчая лабараторыя,— гаворыць Аляксей Кулакоўскі.— Як вучоны, Мікола Лобан ідзе шляхам вывучэння, аналізу, супастаўлення. І гэта, як мы ўсе пераканаліся, дае станоўчыя вынікі.**

**Іван Мележ сказаў:**

**— Калі чытаў першы варыянт рамана (не апублікаваны), мяне ўразіла багатая фактычная выкладка. Сухія пратаколы, дакументы пісьменнік здолеў пераплавіць у мастацкі твор. Перажытае, убачанае — гэта вялікае багацце літаратара, якім ён не можа не падзяліцца. А жыццёвы вопыт, як вядома, першааснова сапраўднай літаратуры.**

**Янка Скрыган і Алесь Ставер спыніліся на арганізацыйных пытаннях. На творчых вечарах, якія цяпер часта наладжваюцца ў клубе Саюза пісьменнікаў, мала бывае празаікаў. Варта пашырыць аўдыторыю гэтых патрэбных і цікавых сустрэч.**

**Выказвалася прапанова наступныя творчыя вечары паспрабаваць правесці на прадпрыемстве ці ва універсітэце, у педагагічным інстытуце, у адной з бібліятэк Мінска.**

---

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*



**У Гомельскім абласным драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля па п'есе Анатоля Сафронава «Дзіўны доктар». Пастаноўку камедыі ажыццявіў галоўны рэжысёр тэатра народны артыст БССР І. Папоў, мастацкае афармленне спектакля А. Белазёрава. На здымку — сцэна са спектакля. У ролі доктара — Н. Дубенка, Рыгора Васілевіча — Е. Дашкоў.**

Фота У. ТКАЧЭНКІ.

Насустрач VI пісьменніцкаму

ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА

# ДЭВІЗ: УПОРАВЕНЬ З ЧАСАМ

## Юрка ГАЎРУК

## ПАГАВАРЫМ ПРА ЯКАСЦЬ



Мяне вельмі цікавіць паэзія маладых. Разгарнуўшы свежы нумар часопіса ці газеты, альбо першую кніжку вершаў невядомага мне аўтара, заўсёды шукаеш у гэтай пераклічцы галасоў нешта такое, што жывіць думку, кранае за сэрца і абуджае радасную надзею. І, трэба адзначыць, я не так ужо рэдка знаходжу тое, што шукаю: многае мне падабаецца.

Ёсць чытачы, якія не любяць вершаў, не ўспрымаюць спецыфікі паэтычнага мыслення, а ёсць настолькі перагружаныя ўсякай інфармацыяй, у тым ліку і паэтычнай, што праходзяць міма вартых увагі з'яў. Не будзем крыўдзіцца на чытачоў, чытачы бываюць розныя і ў іх ёсць свае правы.

Бурны рост культуры ў нашай краіне вымагае ўсё новых і новых пошукаў, патрабуе павышэння якасці як матэрыяльнай прадукцыі, так і творчасці духоўнай. Колькасны рост паэзіі ў нас бясспрэчны. Часам нават можна пачуць нараканне, што вершаў пішуць занадта многа, у часопісах чарга, насоўваецца пагроза чагосьці накшталт інфляцыі. Мне думаецца, страх гэты зусім дарэмны, але трэба тут унесці некаторую яснасць.

Інфляцыі паэзіі не можа быць, як не можа быць інфляцыі характва, дабра і іншых высокіх праяў чалавечага духу. А колькасны рост сведчыць аб тым, што не адзінкі, а ўвесь народ выйшаў на прасторы жыцця, што здзейсніліся запаветныя мары Купалы і Коласа: людзі становяцца людзьмі і талент сёння пазбаўлены горкага лёсу Сымона-музыкі.

Гэта добра, што пішуць многа, няхай сабе пішуць на здароўе, вось толькі друкаваць трэба з адборам, аддзяляючы сапраўдную паэзію ад рамесніцкага вырабу.

Мне думаецца, з кожным годам будзе ўзмацняцца роля рэдактуры ў нашых часопісах і выдавецтвах, і не толькі ў тым сэнсе, што рэдактура будзе займацца больш жорсткім прасейваннем, выбарам, — яна павінна стаць як бы школай, тым асяродзішчам, дзе рытмічна б'ецца творчы пульс. Важнае значэнне маюць таксама літкансультацыі пры Саюзе пісьменнікаў, праца секцый, творчыя вечары і аўтарскія справаздачы.

Строгая і прынцыповая крытыка, таварыская патрабавальнасць і добразычлівасць — вялікія сілы ў барацьбе за творчы рост нашай паэтычнай моладзі. Якім бы здольным ні быў той альбо іншы паэт, ён можа выявіцца як след не сам па сабе, а на людзях.

У 20-х гадах «маладняковец» Валерый Маракоў пісаў: «Толькі дайце гармонік на сто галасоў і прастор для размаху не цяжкі!» У наш час такі «гармонік» даецца многім, і не саматужна, а з дапамогай кваліфікаваных настаўнікаў моладзь вучыцца іграць на ім. Тэхнічнае майстэрства цяперашніх маладых паэтаў даволі высокае. Радуючыся ад душы іхнім удачам, я ўсё ж хачу выказаць і некаторыя свае трывогі.

Заўважаецца часам залішняя паспешнасць. Сырое, толькі з-пад пяра ці, дакладней, з-пад машынкі, а ўжо нясуць у друк. Пра паэта Пушкін сказаў: «Ты сам свой высший суд». Адсутнасць самакрытыкі, самаўпэўненасць, пераацэнка ўласнага таленту — вялікая небяспека для развіцця і ўдасканальвання творчасці. Так можна адцвісці, не расцвіўшы,ператварыцца ў калючы чартапалох.

У кнізе Б. Крамнёва пра Шуберта ёсць такія словы: «Майстэрства пачынаецца там, дзе канчаецца нястрымнасць (необузданность) і бярэ свае правы самаабмежаванне». Часам лёгкасць і хуткасць, з якой напісаны верш альбо паэма, прымаюцца аўтарам за доказ іх мастацкай вартасці. А між тым дайсці да перамогі рэдка ўдаецца шляхам найменшага супраціўлення.

Эксперыменты, пошукі, практыкаванні не варта выпускаць на публіку. Толькі вынашанае, усебакова праверанае, мастацкі дапрацаванае і дарагое паэту можа атрымаць належны водгук у грамадстве.

Вельмі шкодзіць ранняя прафесіяналізацыя. Уявіўшы сябе паэтам, чалавек працавіты і настойлівы прымушае сябе штодзённа пісаць вершы, хоць вельмі часта яму няма чаго сказаць. Вось тут і пачынаюцца шэрасць, банальнасць, нуднае гладкапісанне альбо танныя хітрыкі, на якія не ловіцца чулы чытач.

«Поэзия — езда в незнаемое», — сцвярджаў Маякоўскі. Развіваючы гэтую думку, Л. Касіль гаварыў студэнтам-літаратарам: «Пісаць можна ў двух выпадках: калі ты хочаш сказаць чытачу нешта новае, яму невядомае, альбо калі ты можаш па-новаму расказаць аб ужо вядомым». На мой погляд, парада вельмі слушная.

Барацьба за якасць паэзіі звязана перш за ўсё з аўтарскім сумленнем, з самакантролем. Калі сумленне спіць, крытычныя барабаны яго не разбудзяць. «Поэтам надо помогать, бездарности пробьются сами», — як з'едліва заўважаў Л. Озераў.

Яшчэ хацелася б падкрэсліць такую важную асаблівасць сапраўднага мастацтва: з бруднай душой і бруднымі рукамі да яго няма чаго лезці. У рамане «Цыклон» А. Гачар прыводзіць словы аднаго славутага спевака, народнага артыста: «Бываю нядобрым, бываю нават злым, дробязным, але перад выхадам на сцэну стараюся ачысціць душу ад усякай брыдоты, разбудзіць у сабе самае лепшае, самае чыстае... Толькі тады дойдзе да людзей мой спеў, гэта праверана на сабе». Гэта правільна і для музыкі, і для паэзіі. Верш не лес, у ім не схаваешся. І калі ў паэта душа брудная, не патрэбен ён са сваімі фальшывымі вершамі.

Небяспекай, на мой погляд, з'яўляецца і адрыў ад народных крыніц, пагарда да фальклору, празмерная кніжнасць, але гэтыя блуканні ў баку ад рэальнасці — хутчэй даніна мадэрновым плыням, чым арганічная патрэбнасць.

Да XXIV з'езда КПСС і пісьменніцкага з'езда мы прыходзім з немалымі паэтычнымі дасягненнямі. Павышэнне ідэйнай і мастацкай якасці і надалей застанецца асноўнай задачай нашай літаратуры.

## Пілiп ПЕСТРАК

## ТАК МЫ ЖЫВЁМ



Мы жывём у надзвычай інтэнсіўную эпоху — эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Гэтая рэвалюцыя можа быць і напэўна будзе ключом для разгляду ўсялякіх пытанняў, праблем грамадска - сацыяльнага, палітычна-псіхалагічнага характару.

Вышка, як бачна, высокая, і нам, літаратарам, трэба дасягаць гэтай вышкі. Пытанне ўпіраецца ў светапогляд пісьменніка, мастака, публіцыста, даследчыка і г. д. Перадавы светапогляд і ёсць тая найвышэйшая вышка, з якой далёка відны гарызонты жыцця. Наш светапогляд — марксізм-ленінізм.

Калі вось з такімі меркамі падыдзем да сённяшняга дня нашай рэспублікі, то ўбачым, што поступ яе за гады рэвалюцыйнай перабудовы вызначыўся, як індустрыяльны. Узмужнеў і паступова папаўняецца рабочы клас. Гэта і ёсць тая якасна-гістарычная з'ява, якая карэнным чынам пераўтварыла жыццё краіны, дала ёй іншы рытм, іншую перспектыву.

Пераход людзей з вёскі ў горад — гэта не просты працэс. Ён у галоўным сваім аспекце звязаны з псіхалогіяй асобы — з набытымі навыкамі працы на полі, з усім укладам сялянскага

---

## Уладзімір ЮРЭВІЧ

# ЧАЛАВЕК З ПРАЦЫ ПАЧЫНАЕЦЦА

### АДКАЗ МАЙМУ АПАНЕНТУ

Спрачацца пра густы — занятак малаплённы. Маё вока некалі цешыла тое, як гаспадыня, беручыся пячы хлеб, надзявала белы фартух, павязвала на галаву белую хустку і чаравала над дзяжой. Майму апаненту Віктару Дайліду яшчэ сёння «прыемна глядзець, як валакуць мужчыны шырокіх, асмаленых жоўтых вепрукоў у хаты свежаваць...» Мне чамусьці прыгадваецца жніво, калі «хлеб дыхае жарам, звініць у прасторы» і «гул малацілак на таках». А вось В. Дайліда любіць тую пару, «калі на дварах вішчаць вепрукі і гудуць паяльныя лямпы». Каму сніцца хлеб, а каму сала. Зноў кажу — пра густы не спрачаюцца.

Але пра што ж тады спрачаецца В. Дайліда, узяўшы ў апаненты не аднаго мяне? Ды, уласна кажучы, ён і не спрачаецца. Аўтар артыкула «Вось так мы і жывём»... («Літаратура і мастацтва», 15 і 22 студзеня 1971 г.) кідае папрокі некаторым пісьменнікам у няведанні жыцця сучаснай вёскі.

Не будзем высвятляць, хто лепш ведае вёску з яе вялікімі і малымі сённяшнімі турботамі. Бо ўрэшце і сам В. Дайліда не проста так заўважае: «ўсё залежыць не ад месца жыхарства, а ў першую чаргу ад таленту пісьменніка, ад таго, што і як яго ўсхвалявала, чым ён жыве». Не будзем спыняцца на тых супярэчлівых разважаннях, якіх шмат у аўтара артыкула. Пагаворым лепш пра ўспрыманне напісанага і спрэчак.

Не прымаючы катэгарычна маю рэцэнзію («Літаратура і мастацтва», 18.IX.70) на нарыс Янкі Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму», В. Дайліда выстаўляе мяне гэтакім рэтраградам, гальванізатарам каменнага малатка і першабытнай дубіны. Ды і самога Я. Сіпакова папракае за чыстыя пачуцці да роднай яму вёскі Зубрэвічы, калі кідае гэтак бестактоўна: «І чаго па тых Зубрэвічах **зачуханых** сумаваць?» (падкрэслена мною. — **У. Ю.**).

Кожны, хто ўважліва чытаў мой артыкул «Хаўрус з зямлёй» («Літаратура і мастацтва», 31.8.70), мабыць памятае мае развагі пра тое, каб, сціраючы грані між горадам і вёскай, не сцерці і некаторыя перавагі сельскага побыту, каб з прыходам горада на вёску засталася ўсё ж пэўная спецыфіка вёскі. Я так і пісаў, што «задумацца над тым, каб распрацаваць электрычныя ці газавыя пліты ў варыянтах, зручных для вёскі, мабыць, трэба, бо гэта будучыня яе. Будучыня павінна абапірацца на традыцыі вясковага ўкладу і варта было б знайсці магчымасці для сельпо мець у вёсках невялікую (можа, газавую ці электрычную) пякарню, каб лунаў у наваколлі водар свежага хлеба»... А вось В. Дайліда гэтыя мае развагі абмінае. Ухапіўшыся адно за дзяжу, носіць яе па ўсім артыкуле.

Не пра дзяжу, шаноўны мой Віктар Браніслававіч, быў мой клопат, як не пра хлеўчукі турбаваўся А. Кулакоўскі ў сваім артыкуле. Пра нешта большае. Пра тое, каб усцерагчы людзей, асабліва маладых, ад спажывецкіх адносін да зямлі і вярнуць спрадвечную пашану да яе. Зрабіць гэта ў новых умовах, калі моладзь захапляецца тэхнікай, куды цяжэй і не так проста, як вам думаецца — варта толькі ўзняць агульную культуру сяла. А ці яна, агульная культура, не ўключае і любоў да працы, пашану да хлеба?

Лад жыцця чалавека з працы пачынаецца. Нават падвышэнне культуры на вёсцы нельга здзейсніць, пагарджаючы працай. А Вы, мой апанент, усё ківаеце, што «Слуцкі аддзел культуры не прымае ніякіх захадаў, каб дапамагчы клубам арганізаваць работу», каб былі кінамеханікі, што і дырэктар саўгаса павінен бы гаспадарскім вокам зірнуць як след на клубы... Адным словам, «калі б яны», «калі б ён» — толькі **не мы.**

Вось так і ўсталёўваюцца ў моладзі спажывецкія адносіны да даброт жыцця. Нехта ўсё павінен прыгатаваць і паднесці на сподачку. Але ж і сярэдняя школа, дырэктарам якой Вы, Віктар Браніслававіч, не першы год, ой як шмат магла б зрабіць, каб у клубах саўгаса «Танежыцы» было цёпла, светла, утульна, каб былі там і кінамеханікі...

А калі я следам за Янкам Сіпаковым паўтараю, што варта пакланяцца «і закінутай некуды на гарышчы сяўні», і цэпу, і ступе, і жорнам, і дзяжы.., дык не дзеля адраджэння іх як прыладаў працы. Не. Пакланяцца дзеля таго, каб з малых год не адно песціць нашых дзяцей, але і прывучаць іх рабіць самую прымітыўную працу.

Вось Вы, Віктар Браніслававіч, пішаце, што «хлапчука адпасвіць чаргу не знойдзеш і днём з агнём». Яно сапраўды так. Нядаўна сустрэў я знаёмую цётку з маіх родных мясцін. Купляла на Камароўскім рынку бярозавы венік, каб везці за сорак кіламетраў з горада. Няма чым снег размесці. Пытаюся, што здарылася, бо ведаю — адзін яе сын у восьмы, другі ў дзесяты клас ходзіць. «А хіба іх цяпер дапросішся? Ды і не ўмеюць. Венік выразаць у школе ж не вучаць».

Ці ж і не мы, пісьменнікі, крыху вінны ў гэтым? Прапагандуем найвышэйшыя, найноўшыя дасягненні сённяшняга і заўтрашняга працэсу, а забываемся на іх першааснову, на той самы каменны малаток ды першабытную дубіну, якія зрабілі чалавека чалавекам. Памятаеце, як Энгельс разглядае працу ў якасці адной з самых характэрных адзнак самога чалавека. Сённяшнія даследчыкі космасу, мазгуючы пра тое, які сродак транспарту найлепшы для перасоўвання па Месяцы, вярнуліся да класічнай каляскі—першаасновы самых сучасных аўтамабіляў. Вядома, каляска тая выканана на сённяшнім узроўні тэхнікі.

У аснове самага найдасканалага механізму ляжыць, як правіла, звычайная, простая рэч — колца, трубка, гайка, якія трэба ўмець зрабіць. Хай сабе яе робяць аўтаматы, але ж ніводнае машынабудаўнічае прадпрыемства не абыходзіцца сёння і без залатых рук слесара-інструментальшчыка, зборшчыка, наладчыка. Як будоўля—без муляра або цеслі. Як хлебазавод-аўтамат без дзяжы, вядома, ў яе сучасным выкананні.

Не выкідаем мы яшчэ на сметнік ні зубіла, ні малатка, ні кельмы, ні сякеры, хоць маем на ўзбраенні электронныя прылады. І калі б мы з малых год выхоўвалі пашану да самых простых прылад працы, вучылі дзяцей самаму прымітыўнаму абавязку, а не спяшаліся ашчаджаць іх ад працоўнага высілку, маральны стан грамадства быў бы куды вышэйшы. Спячы сабе, калі не бохан хлеба, дык хоць бы аладку, змайстраваць, калі не лодку, дык хоць бы звычайную шпакоўню — не рэтраградства, не заклік да патрыярхальшчыны, да «мужыкавання», а адзіна правільны шлях прагрэсу чалавека і гэты накірунак выхавання не ўступае ў дысгармонію з рэальнымі крокамі і самымі дзёрзкімі імкненнямі нашага сучасніка.

Калі ж гаварыць пра тое, што падганяе «міграцыю» сельскай моладзі, дык не варта скідаць з рахунку і недахопы ў нашым планаванні. Плануючы

# ПА ЭТАПАХ КУЛЬТУРНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

ВЫЙШЛА ў свет кніга С. Ешына «Развіццё культуры ў БССР за гады Савецкай улады». Выданні такога характару—з'ява не частая, і таму можна адразу сказаць, што аўтар і выдавецтва «Вышэйшая школа» зрабілі добрую справу.

**У прадмове С. Ешын адзначае, што ён не ставіў перад сабой задачу шырокага асвятлення пытанняў культуры, а толькі імкнуўся паказаць ход змяненняў у жыцці і духоўным абліччы народа—як вынік і сутнасць культурнай рэвалюцыі.**
**Не будзем сцвярджаць, што С. Ешыну ўдалося пераадолець цяжкасці і напісаць даследаванне, якое пераконвае, як кажуць, па ўсіх пунктах. І ўсё ж многае ён даследаваў даволі грунтоўна.**

Перш чым павесці чытача па этапах культурнай рэвалюцыі ў БССР, аўтар спыняецца на агульных пытаннях культуры: яе вызначэнні, асаблівасцях і стане пры розных грамадскіх фармацыях, перш за ўсё пры сацыялістычнай. Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю аўтар разглядае як зыходны момант росквіту новай — сацыялістычнай па змесце і нацыянальнай па форме культуры.

Вядома, што і эканоміка і культура дакастрычніцкай Беларусі знаходзіліся на больш нізкім уроўні ў параўнанні нават з адсталай царскай Расіяй. Беларусь пазней іншых рэспублік была ачышчана ад інтэрвентаў. Усё гэта стварала дадатковыя цяжкасці эканамічнага і культурнага пераўтварэння. Аўтар даволі наглядна паказвае, як, пераадольваючы цяжкасці, разам з усёй Савецкай краінай Савецкая Беларусь узнімалася з цемры і невуцтва. Да 1932 года па ўсёй рэспубліцы было пакончана з непісьменнасцю, у гэты ж год было ўведзена абавязковае навучанне для малапісьменных ва ўзросце ад 16 да 50 гадоў.

**У іншых раздзелах першай часткі кнігі на канкрэтных фактах і лічбах паказваецца, як ішло ў рэспубліцы развіццё агульнай і спецыяльнай адукацыі, як узнікалі і пачыналі дзейнічаць шматлікія культурна-асветныя і мастацкія ўстановы, газеты і часопісы, выдавецтвы, радыёстанцыі. Адны факты аўтар толькі ўпамінае, падкрэсліваючы іх значэнне, на другіх спыняецца больш падрабязна. Пераканаўчасць розных старонак даследавання з гэтай прычыны не аднолькавая. Паглыбленне ў асобныя факты спрыяла б і большай навуковасці кнігі і адначасова большай яе запамінальнасці.**

Поспехі краіны ў сацыялістычным будаўніцтве абумовілі магутны культурны ўздым народа. У аснове культурнай рэвалюцыі, якая адбылася ў СССР у 30-я гады, ляжыць грамадска-палітычны і эканамічны фактары. Такі зыходны тэзіс другой часткі кнігі. У ёй на шматлікіх прыкладах паказана, што азначала культурная рэвалюцыя для Беларусі. Пасля вайны рэспубліка хутка аднавіла народную гаспадарку і пачала далейшае мірнае будаўніцтва. Аўтар узнаўляе важнейшыя моманты гэтага складанага працэсу, падкрэслівае важнасць канкрэтных мерапрыемстваў партыі і ўрада ў галіне культуры, дапамогу братніх рэспублік. За кароткі час былі створаны ўмовы для новага росквіту навукі, усіх галін мастацтва, народнай творчасці.

**З большай цікавасцю чытаюцца тыя старонкі, дзе С. Ешын разглядае асобныя галіны культуры. Як не парадавацца і не здзівіцца, чытаючы, скажам, пра тое, што «Беларуская ССР, як і СССР у цэлым, па насычанасці бібліятэкамі і велічыні кніжнага фонду ў іх стаіць наперадзе ўсіх краін свету»?! У нашай рэспубліцы, удакладняецца далей, 7,3 тыс. масавых бібліятэк з кніжным фондам каля 50 млн. экземпляраў (адна бібліятэка на 1100 чалавек, у той час, як у ЗША—на 22 тысячы жыхароў, а ў Англіі—на 72 тыс.). Гэтыя і многія іншыя звесткі —не новыя, але ў пэўным кантэксце яны набываюць як бы першародную выразнасць. Даволі падрабязна гаворыцца ў даследаванні пра няспынны рост і новыя формы работы культурна-асветных устаноў, якія прызначаны несці культуру ў самыя шырокія масы. Не абыдзены даследчыкам усе асноўныя віды самадзейнага мастацтва.**

Узровень культуры народа, сілу яе ўплыву на духоўны рост народа ў значнай ступені вызначае прафесіянальнае мастацтва. У кнізе мастацтва разглядаецца як дзейсны сродак камуністычнага выхавання. Партыя і Савецкі ўрад стварылі ўсе ўмовы для росквіту ў рэспубліцы багатага жанрамі і талентамі мастацтва. Многія назвы, факты і лічбы прыводзіць аўтар у пацвярджэнне гэтага. Разам з гэтым хацелася б, каб былі больш дакладна вызначаны і агульныя прынцыпы дзейнасці тэатральных калектываў і тое адметнае, што розніць іх адзін ад другога. Зрабіць такое падкрэсліванне варта было за лік скарачэння зноў-такі «голых» назваў, якія мала чым характарызуюць агульны стан тэатральнага мастацтва. Перанасычэнне «малаігральнымі» фактамі адчуваецца і на старонках, дзе гаворка ідзе аб выяўленчым і музычным мастацтве. Недахоп гэты датычыць усіх трох частак кнігі.

Не змог С. Ешын пераканаўча вызначыць асаблівасці развіцця такога складанага і важнага віду мастацтва, як кіно. Яму адведзена ўсяго некалькі старонак. І, на жаль, не самых пераканаўчых. Гэта адчуваеш з першага ж тэзісу, дзе гаворыцца аб ролі і значэнні кіно ў жыцці грамадства. У чым жа яго сіла? Чаму так па-рознаму скарыстоўваюць гэтае магутнае мастацтва капіталістычнае і сацыялістычнае грамадствы? Аўтар і не спрабуе адказаць на гэтыя пытанні. А што даюць чытачу такія, напрыклад, радкі: «У галіне тэматыкі ў нас адкрыта самая шырокая дарога актуальным тэмам сучаснасці. Таму і ўсё больш паяўляецца фільмаў, якія па сваім ідэйным і мастацкім гучанні адпавядаюць попыту нават самага патрабавальнага гледача?..» Хіба можна ў прэтэндуючай на сур'ёзнасць працы так недакладна гаварыць пра галоўную праблему савецкага кіно? Сёння яна яшчэ далёка не вырашана, а ў беларускім кіно тым больш. Даволі выпадковымі назвамі ілюструюцца пэўныя этапы развіцця беларускага кіно. Сярод лепшых фільмаў 30-х гадоў не знойдзем такіх, як «Першы ўзвод» і «Двойчы народжаны». Вядома, што першы прыкметны поспех беларускіх кінематаграфістаў у пасляваенны перыяд звязаны з фільмам «Канстанцін Заслонаў». А ён нават і не ўпамінаецца ў агульным спісе здабыткаў беларускага кіно. У ігравыя стужкі ўключаны чамусьці дакументальны нарыс «Ёсць такая зямля». А з дакументальных фільмаў у якасці лепшых названы зусім не лепшыя: «Беларусь — рэспубліка мая», «Цаліна—вуліца Мінская», «У дыме экстазу». Відаць, неяк трапілі яны пад руку аўтару, вось і ўставіў ён іх у радок, а там разбірайцеся...

Незаслужана мала старонак адведзена радыё і тэлебачанню. Аўтар абмяжоўваецца некаторымі лічбамі і «агульнымі вывадамі», мала гаворыць аб перспектывах тэлебачання. А ўздым жа яго—адна з умоў завяршэння культурнай рэвалюцыі ў нашай краіне.

**Трэцяя частка кнігі больш глыбокая ў тэарэтычных адносінах. Аўтар вызначае тут задачы, шляхі і прынцыпы культурнага будаўніцтва краіны і рэспублікі на новым этапе. Вывады грунтуюцца на адпаведных палажэннях марксісцка-ленінскага вучэння аб культуры пры камунізме, рашэннях партыі. Тут жа ўдакладняюцца задачы і сутнасць культурнай рэвалюцыі. Мне здаецца, што зрабіць гэта трэба было ў першай частцы кнігі—перад гаворкай аб канкрэтных з'явах культурнага будаўніцтва. Тады «састаўныя часткі» культурнай рэвалюцыі ўспрымаліся б як своеасаблівая вышыня, з якой разглядаюцца практычныя меры і крокі. Да пачатку кнігі больш стасуюцца і старонкі аб асаблівасцях умоў, у якіх пачыналася культурная рэвалюцыя ў БССР. А заключны раздзел мог бы змясціць у сабе больш грунтоўнае тлумачэнне некаторых складаных і спрэчных пытанняў, напрыклад, шляхоў збліжэння нацыянальных культур у будучым, спалучэння нацыянальнага і інтэрнацыянальнага і г. д.**

Шмат слушных заўваг, вывадаў, сцвярджэнняў змяшчаюць заключныя раздзелы кнігі. Яны скіроўваюць нашу ўвагу на важнейшыя моманты і ўмовы, пры якіх будуць дасягнуты новыя поспехі ва ўсіх галінах культуры. Дзенідзе аўтар залішне дэкларатыўны, дапускае паўторы, адстойвае агульнавядомыя ісціны. І ўсё ж закрываеш кнігу з удзячнасцю за багатую фактамі, патрэбную многім працу.

**Е. БОНДАРАВА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

С. Ешын. «Развіццё культуры ў БССР за гады Савецкай улады». Выдавецтва «Вышэйшая школа», Мінск, 1970.

# ДА НОВЫХ СУСТРЭЧ, ПАЛЕССЕ!

ВІТАЛЬ ВОЛЬСКІ займае віднае і адметнае месца ў сучаснай нашай дзіцячай літаратуры. Яго цікавыя прыродазнаўчыя кнігі «У лясах над Бярозай», «На бабровых азёрах», «Па лясных сцежках», «Месяц за месяцам», «Чайкі над Нараччу» і «Родны край» прынеслі пісьменніку шырокую вядомасць і папулярнасць.

У 1968 годзе выйшла ў свет кніга В. Вольскага «Падарожжа па краіне беларусаў», якая вызначыла сабой нібыта нейкі новы этап у творчасці пісьменніка. І не толькі сваім шырокім, калі можна так сказаць, тэрытарыяльным ахопам — ранейшыя яго кнігі былі прысвечаны, як правіла, пэўным куточкам роднай зямлі, а галоўнае, тым, што аўтар тут выступае не проста гідам-апавядальнікам, бязмежна ўлюбёным у прыроду роднага краю, але і яго дасведчаным гісторыкам, географам, этнографам, тапанімістам, зацікаўленым вучоным-эканамістам і г. д. Чытачы кнігі разам з аўтарам пабывалі ў захапляючай вандроўцы—у часе і прасторы—па шляхах і дарогах Беларусі, наведалі яе старажытныя і новыя гарады, пазнаёміліся з гісторыяй і сённяшняй явай роднага краю, з вялікімі пераўтварэннямі, якія адбыліся на нашай зямлі за гады Савецкай улады.

І вось — новае запрашэнне да падарожжа. На гэты раз у край дзівосных легенд і песень—Палессе.

В. Вольскі сваю новую кнігу, якая толькі што выйшла ў выдавецтве «Беларусь», так і назваў—«Палессе». Магчыма, назву можна было б пашукаць і больш удалую, бо кніга гэтая—не гісторыка-эканамічны нарыс пра Палессе, хоць гісторыі і эканоміцы ў ёй адведзена нямала месца. Ды, зрэшты, справа не ў назве.

«Палессе», як і ўсе ранейшыя кнігі пісьменніка, адрасавана дзецям—канкрэтней, дзецям так званага сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Але, мусіць, вартасці дзіцячай кнігі вызначаюцца не толькі тым, як яна ўспрымаецца самімі дзецьмі, але і дарослымі. Таму адразу ж хочацца адзначыць, што новую кнігу В. Вольскага з цікавасцю прачытаюць і дарослыя. Што ж датычыцца дзяцей, дык, несумненна, яна прынясе ім вялікую асалоду і карысць, намнога пашырыць іх веды аб прыродзе і геаграфічных асаблівасцях Палесся, пра звяроў і птушак, пра людзей і гарады, пра тое новае, што прыйшло і несупынна ідзе ў жыццё раней заняпалага і адсталага краю.

Кніга «Палессе» вылучаецца сярод іншых твораў пісьменніка. Яе нельга параўнаць нават і з «Падарожжам па краіне беларусаў». У апошняй сваёй кнізе В. Вольскі адмовіўся ад элементаў белетрызацыі, якія давалі сябе адчуваць у ранейшых яго кнігах, ад спроб ствараць ці прыдумваць нейкі сюжэт апавядання. «Палессе» — гэта звычайны дарожны дзённік, паслядоўны запіс убачанага і пачутага за час падарожжа. А поруч з гэтым—роздум над тым, што давялося пабачыць і пачуць. І ад гэтага «спрашчэння» кніга толькі выйграе—ты, чытач, заўсёды побач з аўтарам, побач з зусім пэўным, канкрэтным чалавекам. Гартаючы старонкі кнігі, ты не ўяўна падарожнічаеш па Палессі (такое адчуванне ўяўнасці нене, ды і паяўлялася, напрыклад, у часе «Падарожжа па краіне беларусаў»), а плывеш у чоўне па Піне і Гарыні, прабіраешся разам з аўтарам праз чарацяныя гушчары па пінскіх балотах, слухаеш спеў балотных птушак, назіраеш за лебедзямі-шыпунамі на запаведным Выганаўскім возеры, бачыш ляся, што схаваўся па вушы ў вадзе ад надакучлівай заедзі, ходзіш ціхімі вулкамі старажытнага Давыд-Гарадка і Кажан-Гарадка, знаёмішся са сталіцай «беларускага поўдня» Мазыром...

Гэтае падарожжа ад Пінска да Мазыра па-сапраўднаму цікавае і захапляючае. А цікавае яно таму, паўторым, што побач з табой неадлучна цікавы і дасведчаны субяседнік—аўтар. І хоць у пачатку кнігі ён прызнаецца, што да гэтага часу Палессе і палешукоў ён ведаў мала, верыць гэтаму неяк не хочацца. Бо варта толькі паслухаць яго расказы пра Пінск, пра гісторыю асушэння пінскіх балот, пра зямных і вадзяных насельнікаў Палескага краю, пра Лунінец і сяло Дастоева, Лахву і Ястрабень, пра Замкавую гару ў Давыд-Гарадку, базарную плошчу ў Мазыры, Пхоўскі порт і завод меліярацыйных машын, пра будучыню горада на Прыпяці,—варта паслухаць, каб пераканацца, як глыбока ведае ён гэты куток роднай зямлі, каб падзівіцца багатай эрудыцыі аўтара.

Да лепшых старонак кніжкі належаць і старонкі пра людзей новага Палесся, з якімі сустракаўся аўтар у час падарожжа. Дастаткова тут прыгадаць хоць бы старога пінчука дзядзьку Зыгмуся — працавітага, спакойна-разважлівага, мудрага, улюбёнага ў родную зямлю чалавека. Вось адно разважанне старога палешука: «Без патрэбы, мой пане, нічога няма на свеце. Кожная рэч мае сваё прызначэнне, як у добрай гаспадарцы. Усё ў прыродзе на сваім месцы. Усё звязана адно з адным у моцны вузел. Усяго адмерана і вызначана колькі трэба. Крані адно, а яно зачэпіць другое, а другое яшчэ і трэцяе нешта за сабой пацягне. Асушка балот, скажу я вам, добрая справа, патрэбная, ніхто не адмовіць. Паглядзіце, якія новыя калгасныя ды саўгасныя сядзібы з'явіліся там, дзе была нядаўна яшчэ дрыгва, якія нівы закаласіліся на асушаных участках, але ж ці варта праводзіць асушку ўсюды, суцэльна? І ці варта ўжо так спяшацца? Ці не лепш, як кажуць, сем разоў адмераць, перш чым адрэзаць?»

І ўслед за ім аўтар таксама гаворыць нам: «Стары Зыгмусь, відаць, мае рацыю. Сапраўды, у прыродзе ўсё знаходзіцца ва ўзаемадзеянні, у беспыннай і непарыўнай узаемасувязі. Настолькі часам складаная гэтая сувязь, настолькі шматбаковая, што мы не заўсёды яе заўважаем, не заўсёды разумеем. Асушэнне балот выклікае вялікія змены і ў клімаце, і ў глебе, і ў характары мясцовасці, і ў жывёльным і раслінным свеце. Змены часам непрадбачаныя і нават непажаданыя... І пра гэта, сапраўды, як кажа Зыгмусь, трэба добра і добра падумаць».

З такім заклапочаным роздумам аўтара страчаешся ў кнізе даволі часта.

В. Вольскі канчае кнігу абяцаннем напісаць у хуткім часе новы твор пра гэты абноўлены савецкай явай край. Што ж, скажам разам з аўтарам:

**— Да новых сустрэч, Палессе!**

**М. ГІЛЬ.**

Віталь Вольскі. «Палессе». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ



Малюнкі мастака Я. Куліка да кнігі «Сонечны клубочак» В. Зуёнка, якая рыхтуецца выдавецтвам «Беларусь».

Фота Ул. КРУКА.

ЛіМ

У МАЙСТЭРНЯХ МАСТАКОЎ

# НА ПАЧАТКУ

У МАЙСТЭРНІ мастака Яўгена Ждана мне кінулася ў вочы адна работа—нацюрморт. На плоскасці стала — часопісы, манаграфіі: «Творчество», «Курьер ЮНЕСКО», «Картинная галлерея», «Андрей Рублёв». Спачатку работа мяне насцярожыла, вельмі ж лабавым здавалася рашэнне. Але чым больш мы гутарылі, тым больш я пераконвалася — для Яўгена гэтая карціна не выпадковасць. Кожны элемент яе пасвойму расказвае пра мастака, пра яго ўнутраны свет. «Творчество»— гэта сувязь з сучасным мастацтвам, «Курьер ЮНЕСКО» — пашырэнне кругагляду, жаданне не адрывацца ад надзённых сусветных праблем, «Андрей Рублёв» — сувязь з мінулым, з адвечнымі прынцыпамі рускага мастацтва.

Сабраўшы гэтыя часопісы для нацюрморта, Я. Ждан расказаў аб разнастайнасці ўнутранага свету сучаснага чалавека, шырыні яго кругагляду. Мастак выказаў сваё стаўленне да пазнання свету, імкнуўся знайсці нейкую інтымную ноту ў агульнай тэме. У гэтай рабоце Яўген паказаў сваё ўменне скампанаваць і згарманізаваць у адзінае цэлае розныя па рытме і колеры дэкаратыўныя моманты.

Па прафесіі Яўген — мастак - дэкаратар. Ён закончыў Беларускі тэатральна - мастацкі інстытут і адразу трапіў у буйны тэатр — Беларускі тэатр оперы і балета. Выбар быў не выпадковы. Ужо ў інстытуце Яўген зрабіў эскізы да спектакляў «Аіда», «Князь Ігар», якія сталі яго дыпломнай работай. Дарэчы, эскізы да «Аіды», вельмі цікава вырашаныя вобразна, у сваёй манеры, ужо тады выстаўляліся на Усесаюзнай выстаўцы тэатральнага мастацтва ў Маскве. У эскізах праявілася здольнасць маладога мастака даваць цікавае канструктыўнае вырашэнне спектакля, ствараючы пры гэтым адзіны эмацыянальны вобраз.



Працягвалася работа і над «Князем Ігарам». Спектакль быў ужо аформлены галоўным мастаком тэатра Я. Чамадуравым. Таму Яўген выканаў плакат да спектакля. Плакат перадае магутнасць рускага народа, вельмі цікава, па-новаму скампанаваны.

Яшчэ адзін плакат зрабіў мастак у тэатры—да оперы Мусаргскага «Хаваншчына». Плакат драматычна насычаны — лобнае месца на фоне царкоўных купалаў. У абедзвюх работах зусім выразна праступаюць прынцыпы мастака, аб якіх я гаварыла ў пачатку. Ён чэрпае натхненне ў лепшых узорах вялікага рускага мастацтва.

І, нарэшце, доўгачаканы свой спектакль — балет на музыку кампазітара Г. Вагнера «Пасля балю». Работа над спектаклем яшчэ не завершана, але мне хочацца адзначыць цікавае рашэнне мастаком некаторых сцэн. У прыватнасці, першай сцэны, калі герой знаходзіцца ў стане трызнення. Сцэна вырашана з вялікай экспрэсіяй, паказаны ўзрушаны свет героя. З густам стылізаваны і касцюмы да гэтага спектакля.

Усё новыя і новыя работы паказвае мастак. Побач з плакатам тэатральным — агітплакат, вырашаны зусім у іншай манеры, іншымі сродкамі. Гэта маці з дзіцем, якія стаяць на зямным шары. У рабоце цікава спалучаюцца фатаграфія з малюнкам — увесь зямны шар выкананы з фотаздымкаў розных дэманстрацый, забастовак. І людзі на фатаграфіях як бы падтрымліваюць на сваіх плячах маці з дзіцем. Вобраз маці абагульнена - манументальны, сімвалічны.

Яўгена вабяць маштабныя характары, вобразы-сімвалы. У гэтым яго прынцып — пастаянна быць у коле сусветных падзей, не замыкацца ў сваім свеце, памятаць аб тым, што сваёй творчасцю ты адказны перад людзьмі.

У той жа сімвалічнай манеры вырашана і станковая карціна «Чырвоныя рыцары». Ці вось работа, выкананая да юбілею камсамола рэспублікі — тры беларускія дзяўчыны ў полі. Работа светлая, чыстая па колеры.

І яшчэ адна карціна вельмі запомнілася. Яна называецца «Гутарка». Сярэдніх гадоў мужчына і стары, белы, як лунь. Яны сядзяць пад яблыняй, якая толькі-толькі пачынае цвісці, і паціху гутараць аб нечым важным, галоўным для іх. Мне спадабалася мудрая сузіральнасць старога і спакойная ўпэўненасць мужчыны. Гэта работа вельмі чалавечная, глыбокая. У ёй прыкметнае жаданне мастака максімальна выказаць сябе, свае адносіны да свету, да людзей свайго часу.

Спрабуе сябе Яўген і ў пейзажы. Не заўсёды ўдала. Але адна работа мне запомнілася. Гэта зімовы пейзаж. Ён вельмі прыгожы па настроі, у ім адчуваецца і звонкі мароз, які нараджае бадзёрасць, і пранізлівая далеч цудоўнага зімовага дня.

Працуе Яўген і над манументальным роспісам. Удваіх з графікам І. Немагаем яны выканалі манументальны роспіс у кафэ політэхнічнага інстытута. Гэта яркі, радасны роспіс па беларускіх матывах.

Малады мастак спрабуе выказаць сваё светаўспрыняцце ўсімі даступнымі яму сродкамі, заўсёды застаючыся самім сабой, імкнецца да вялікіх сацыяльных абагульненняў.

**Л. ТАРАСАВА,**
рэжысёр тэатра юнага гледача.

## Паэтычная паверка



### Віктар РАКАЎ

●

Вялы цень мой у вадзе
няшустрай,
Кладка гойдаецца і трава.
Нада мной і пада мной, бы
ў люстры,
Зыбкая, крутая сінява.

Нейкая пакутлівая скруха
Да зямлі ніжэй мяне гняце,
Нейкую няўцешнасць ловіць
вуха —
Усё роўна на якой вярсце.

Не кувай, зязюля,
ў свет відушчы
Не звядзе мяне тваё «ку-ку»,
Не згадаць табе, жыхарка
пушчы,
Колькі жыць мне на сваім вяку.

Ты ж маніла,—колькім,
не палічыш—
Усім тым пра доўгія гады,
Чые ледзьве ўлоўныя аблічы
Сёння ў абліччах маладых.

Позна пазнаю я гора бабкі,
Што змірыцца з весткай
не магла:
Сынавы кашулю, шалік, шапку
Аж да скону ў кубле берагла.

Не хацела паміраць бабуля
Ні зімой, ні летам,
а тады,
Калі ў лесе шэрая зязюля
Лічыць па вясне чыесь гады.

Ведала: адна-адной звякуе,
І журыцца некаму па ёй, —
Хай жа хоць зязюлька адкукуе
Пасля смерці над яе трунай...

Зношаны даўно кашуля, шапка.
Зыбаецца кладка у вадзе...
І я зноўку бачу: ціха бабка
Мяне ў лес па ягады вядзе...

●

Яму — руку на развітанне,
А свой агністы позірк — мне.
Саромелася мо мяне,
Што свой агністы позірк—мне,
Яму — руку на развітанне.

Панёс я беражна, тужліва,
Крадком той кінуты пагляд.
Няхай мільёны раз падрад
Ён вернецца ў мой лістапад,
Куды іду я так тужліва.

І ўсё лаўлю твае далоні,
Каб да ўсяго — і поціск рук.
Праз вёсны звоніць хай
жаўрук,
Што я шукаю тваіх рук,
Лаўлю, лаўлю твае далоні...

●

Галубы на карнізе тваім,
Шызы дым у вачах маіх
дымных.
Ці не рана яшчэ нам дваім
Успамінаць, як былі маладымі?

Пра бяду мне сваю не кажы,
Нам аб ёй нашумяць баравіны.
Пабяжым, пабяжым, пабяжым
За вясною сваёй жураўлінай.

Будзе кветка, над ёю пчала,
Будзе пах збажыны і лілеі.
Ручаінка свой бег пачала
Ды і наша з табой не мялее...

Галубы на карнізе тваім
Штось пра нашае ціха
вуркочуць.
...Растае, растае шызы дым,
Б'ецца птушкаю вечнасць у
вочы.

# ЭКСПАНУЕЦЦА ВЯСЁЛКА

*НА ВЫСТАЎЦЫ ФІНСКАЙ УПАКОЎКІ*

ХТО НЕ БАЧЫЎ на прылаўках нашых магазінаў цыгарэты «Сталічныя», адэкалон «Чырвоны мак» ці пральны парашок «Сумгаіт» у прыгожых стракатых карабках? Яны ўжо, мабыць, прымільгаліся, як старыя знаёмыя. Але айчынныя па сваім змесце, гэтыя тавары — іншаземцы па вонкавым афармленні. Ужо шмат гадоў упаковачныя карабкі для іх (і для многіх іншых тавараў) выпускаюць фінскія фабрыкі, якія апрацоўваюць паперу і кардон. Пра гэта вы даведаецеся, калі паглядзіце «Выстаўку фінскай упакоўкі-71», размешчаную ў залах Беларускага аддзялення Усесаюзнай гандлёвай палаты.

Трапіўшы сюды, вы крыху губляецеся ад феерверка фарбаў усіх колераў вясёлкі.

Арганізаваная Аб'яднаннем фінскай упакоўкі, выстаўка прадстаўляе прадукцыю шаснаццаці буйнейшых фірм, якія пастаўляюць на экспарт разнастайныя віды ўпаковак. Ад цукерачных паперак да кардонных кантэйнераў для аддзення, неабходных на выпадак, калі вы захочаце, скажам, перавезці свой гардэроб, не пакамечыўшы яго. Акрамя вырабаў з традыцыйных матэрыялаў, такіх, як шкло, папера, кардон, тут прадстаўлена ўпакоўка з алюмініевай фальгі, цэлюлознага ацэтату і разнастайных відаў пластмасы: поліэтылену, поліпрапілену і іншых. Фінская папераапрацоўчая прамысловасць выпускае розныя віды ламініраванай (шматслойнай) паперы, для якой выкарыстоўваецца бітум, воск, клей, лак, парафін.

Асабліва шмат вырабаў з пластмасы. Сумкі з пластмасы, мяшкі з пластмасы, бутэлькі і скрынкі з пластмасы. Адзін з рэкламных праспектаў нават запэўняе: «Мы будзем гатаваць ежу, піць і есці ў пластмасавым посудзе. Мы будзем жыць у век пластмасы».

Другая фірма прапануе нам усё з паперы: шклянкі, талеркі, бутэлькі для віна, посуд для мёду, сіропу, праставашы для аднаразовага ўжывання. Такі посуд вельмі зручны там, дзе трэба абслугоўваць шмат людзей — на спартыўных спаборніцтвах, кірмашах, выстаўках. А вось мяшэчак з паперы, якая ламінірвана фальгой — мара гаспадыні. Купіўшы ў ім кураня, можна абысціся нават без патэльні, варта толькі разам з упакоўкай пасадзіць яго ў духоўку.



У адной з залаў выстаўкі «Фінская ўпакоўка—71».

Вас напэўна зацікавіць і стэнд з бляшаным посудам. Вёдры, слоікі, банкі для фарбаў, алею, кансерваў. Лёгкія, са зручнымі накрыўкамі, яны вабяць вока чатырохколернымі фарбамі трывалага афсетнага друку. І вельмі выгадна адрозніваюцца ад сумных шэрых бляшанак, што запаўняюць прылаўкі нашых гаспадарчых магазінаў.

На пытанне, колькі ўсяго экспанатаў дэманструецца на гэтай выстаўцы, адзін з працаўнікоў фірмы адказаў — мільён. Паспрабуйце падлічыць, калі не лянуецеся...

І яшчэ варта сказаць пра тое, што кожная рэч нясе на сабе адбітак творчай думкі мастака-дызайнера, які абавязкова прымае ўдзел у канструяванні кожнага новага віду ўпакоўкі. Яна і ў форме, і ў каляровым вырашэнні. Правільны выбар колеру для ўпакоўкі — зарука таго, што тавар абавязкова захочацца купіць.

Упаковачная прамысловасць — адна з тых галін, якія ў апошні час развіваюцца надзвычай хутка. І стымулам да гэтага з'яўляецца не толькі павелічэнне тавараў, але і новыя формы гандлю, такія, скажам, як самаабслугоўванне. А таксама ўзросшыя запатрабаванні людзей да гігіены, зручнасці і прыгажосці.

Хацелася б спадзявацца, што фінская выстаўка будзе ўспрынята не толькі як маляўнічае відовішча, і што людзі, якія маюць дачыненне да выпуску разнастайнай прадукцыі ў нас на Беларусі, зробяць для сябе практычныя вывады. Бо тут ёсць чаму павучыцца.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

# СТАГОДДЗЕ ПАРЫЖСКАЙ КАМУНЫ

**«Справа Камуны—гэта справа сацыяльнай рэвалюцыі, справа поўнага палітычнага і эканамічнага вызвалення працоўных, гэта справа ўсясветнага пралетарыяту. І ў гэтым сэнсе яна бяссмяротная».**

**Ул. І. ЛЕНІН.**

# ПАЭЗІЯ ПАКУТ І ПАЎСТАННЯЎ ПРАЛЕТАРЫЯТУ...

*У Парыжскай камуны былі не толькі свае дзеячы-рэвалюцыянеры, свае палітыкі і палкаводцы. У яе былі і свае песняры.*

*Рэвалюцыянерам, барыкадным байцом, непрымірымым ворагам капіталізму і трыбунам будучага камуністычнага грамадства да апошніх сваіх дзён быў паэт-песеннік Эжэн Пацье. Гэта ён, уцалеўшы ад расправы рэакцыі ў майскі «крывавы тыдзень» і знаходзячыся ў падполлі, у чэрвені 1871 года стварыў гімн рэвалюцыйнага рабочага класа «Інтэрнацыянал». Жарэс пісаў у 1887 годзе ў некралогу, прысвечаным памяці свайго паплечніка па барацьбе: «Ён быў адным з самых таленавітых паэтаў, якія праславілі Парыжскую камуну, непараўнальным песняром пакут і паўстанняў пралетарыяту».*

*Побач з выдатнымі французскімі паэтамі-камунарамі — Клеманам, Шатленам, Рэмбо і іншымі, нашаму чытачу наймення вядома імя Лешамбадзі. А між тым П'ер Лешамбадзі (1806—1872) таксама папулярны паэт французскай рэвалюцыі 1848 года. Сваімі сатырычнымі байкамі ён актыўна змагаўся з ворагамі дэмакратыі, з буржуазнымі норавамі ў галіне палітыкі, культуры і маралі. Пасля манархічнага перавароту 2 снежня 1851 года Лешамбадзі падвяргаўся ганенню, а яго байкі былі забаронены. Нягледзячы на рэпрэсіі, ён адкрыта гаварыў і пісаў аб сваіх камуністычных пераконаннях. У 1871 годзе, ужо будучы старым і хворым чалавекам, П'ер Лешамбадзі ў апошніх сваіх творах вітаў перамогу Парыжскай камуны.*

*Прапаную ўвазе чытачоў некалькі вершаў абодвух паэтаў у сваіх перакладах з французскай мовы.*

**Язэп СЕМЯЖОН.**

Эжэн ПАЦЬЕ

## ДОН-КІХОТ

Праз стэп насустрач Дон-Кіхоту
Нявольных гналі на работу.
Высакародны рыцар з ходу
Пусціўся ў наступ, каб свабоду
Вярнуць рабам. Разбіў ахову
І ўжо з нявольнікаў аковы
Здымае. А саратнік Санча—
У крык: «Ох, рыцар мой з Ламанча,
Здымаць аковы! Гэта ж жах!
Пакіньце іх у кайданах!»

Як раззлуецца Дон-Кіхот:
«Ты, мілы мой, дурны, як бот.
Па-твоему вось гэты раб,
Што ў ланцугах паўзе, як рак,
Тып сацыяльна небяспечны!
Лухта! З яго бесчалавечна
Ліхая прагнасць капітала
І кроў, і сілу сасмактала.
А той — сваё: «Ах, рыцар, ах!
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Мы вызвалім, і без прынукі,
Вунь і таго раба навукі,
Што ўвесь свой век, як дрэваед,
У кнігах точыцца, а бед
Людскіх не ведае, пустэльня,
Бо галава ж яго — патэльня,
І схаластычны ў ёй гарох.
А Санча зноў і «ах» і «ох»:
«Што ж вы надумаліся! Жах!..
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Гэй, раб казармы, ты — свабодны!
Няхай жа ні мяшок паходны,
Ні твой мушкет, ні ківер твой
Не служаць болей галавой
Табе, сляпой прыладзе войнаў,
У нашым свеце неспакойным.
Ты будзь, салдацік алавяны,
Слугой адданым Марыяны».*
А Санча зноў канючыць: «Ах!
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Ты, раб царквы і цемрашалаў,
Кінь манастыр! Ці ж цемры мала!
Зрачыся сана і без страхаў
Пашлі да д'ябла ўсіх манахаў.
Перад народам урачыста
Стань ваяўнічым атэістам,
Даводзь, што цэрквы і сіноды
Прыдумаў для сваёй выгоды
Пан Капітал». А Санча: «Ах!
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Для Дульцынеі ж чорнакосай,
Што трапіла па волі лёсу
Да веліканаў-душагубаў,
Я патрабую волі шлюбу.
Чароўны вобраз дамы сэрца
У рашучы час і ў паняверцы
Я зберагаў цнатліва, строга».
А Санча зноў з перасцярогай:
«Ах, мой сеньёр! Не трэба, ах!
Пакіньце даму ў кайданах!»

Вялікі праўдалюб з Ламанча,
Не слухай баязліўца Санча!
Калі, сячы іх, басурманаў,
Злых чарадзеяў-веліканаў.
Сваёю бласлаўлёнай шпагай
І з доблеснай сваёй адвагай
Ратуй з няволі Дульцынею
І гэтым скончыш эпапею.
А Санча будзе енчыць: «Ах,
Пакіньце волю ў кайданах!»

* Марыяна — сімвал Францыі.

## ДА ГАДАВІНЫ 18 САКАВІКА 1871

На зло бядзе—усе на пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў, песняй,
шклянкай —
У гэты дзень вялікай гадавіны.

Рыхтуючы паўстанне, на зары
Парыж раскрыў, што вораг у засадах.
І па трывозе брук і ліхтары —
Усё пад лом, усё — на барыкадах.
Хто ацалеў, той і дасюль збярог
У памяці ўсю радасць і трывогі—
Якім ён быў той дзень і той Пралог
Нязнанай у гісторыі эпохі.

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

Адзіны выхад бачыў федэрат —
Прыкончыць змову з штабам
і палкамі,
І ён паўстаў,
і стаў каля гармат,
Каб бой пачаць не з голымі рукамі.
Урад уцёк з Парыжа ў паласу
Надвор'я, дзе не прыпякала жарам,
І абвясціў вайну. Мы —
«трыццаць су» —
Прынялі бой, гатовыя к ахвярам.

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

Са ўсіх саслоўяў блузных і плямён
Спяшаўся к нам народ, худы, убогі—
Дыктатары ў рыззі, чыіх імён
Не чулі мы да нашай перамогі.
Але адзначым — тут не без «але»,
Што пралетарыі на Сходзе гэтым —
Парламенце, стаялі на чале,
Кіруючы Цэнтральным Камітэтам.

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

З прылівам радаснага пачуцця
Парыж — у Ратушу, заняў трыбуну.
Вясёлы, неўгамонны, як дзіця,
Ён там пад песні абвясціў Камуну.
Світала, і салют апавясціў:
Буржуям крах! Разбілі іх апору.
На плошчах — гоман, гумар травесці.
Паэзія і Перамога — поруч!

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

Шчаслівы дзень! З-за непагадзі хмар
Ён зыркім сонцам і сваім гарэннем
Надзею нёс, і азараўся твар
Шахцёраў па глыбокім сутарэнні.
Свой першы запавет Парыж
здзяйсняў,
І сцяг, крылом абняўшы ўсю
планету, —
Чырвоны сцяг Камуны асяняў
Шлях перамогі ўсім народам свету.

На зло бядзе—усе на пагулянкі!
Таварышы, мы сёння ўсе павінны
З'яднацца марай сэрцаў, песняй,
шклянкай —
У гэты дзень вялікай гадавіны.

Парыж, 18 сакавіка 1887.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## ВОЛЬНАСЦЬ І БРАЦТВА, ГЕНЕРАЛ!..

ЧАЛАВЕК нараджаецца двойчы: першы раз—фізічна, другі раз духоўна. Другі раз яго нараджае час. «Эпоха мае патрэбу ў волатах, эпоха нараджае іх...».

Той волат, пра якога пойдзе гутарка, быў народжаны сваёй эпохай. І калі прырода дала яму магутнае атлетычнае здароўе, калі фізічна ён быў, як сведчаць сучаснікі, складзены, як Апалон, то эпоха, са свайго боку, не пашкадавала для яго магутнага духу. Адно адпавядала другому. Эпоха знала, на каго рабіць стаўку, і яна не памылілася: выбраннік аказаўся дастойным яе. Ён ніколі не траціў прысутнасці духу. А ён быў не з тых, хто стаіць убаку ад вялікага жыцця, ад барацьбы, хто пазбягае выпрабаванняў і небяспек. У такім разе лёгка не траціць прысутнасць духу. Не, ён быў «чалавекам дзеяння». Так яго назваў Маркс. І ў сваёй «споведзі», у сваіх адказах на анкету дачок Маркса, сказаў, што вышэй за ўсе вартасці цэніць у мужчыне актыўнасць, што ўяўляе шчасце як палымянае пекла і што любімы занятак для яго — ісці супраць ветру. Гэта было сказана ў 1872 годзе. А раней, у 1863 годзе, ён сказаў сваім таварышам па паўстанні: «Узяўшы ў рукі зброю, мы павінны перамагчы, а калі хто-небудзь прымусіць нас яе скласці, то толькі разам з жыццём».

Нязменная прысутнасць духу, вялікая сіла волі — яго вызначальная якасць.

Другая яго характэрная рыса — гарманічнасць, шматграннасць. Ён быў не проста актыўным, дзейным чалавекам, але і чалавекам яснага практычнага розуму, чалавекам, які ведае, што ён робіць, ведае сваю справу. Ён быў не толькі рашучым, але і быў, па словах жонкі Маркса, «геніяльнай галавой і сумленнейшым чалавекам». Ён быў не толькі храбрым, але і быў чалавекам, які, па словах аднаго камунара, «выконвае свой абавязак». Ён быў мудрым у маладосці і маладым у старасці. Ён праявіў як бліжэйшы паплечнік Каліноўскага ў свае дваццаць сем гадоў цуды мудрасці, распарадчасці і рэвалюцыйна-ваеннай дзелавітасці. Ён разумеў, што нельга прыцягнуць сялян на бок паўстання, не надзяляючы іх зямлёй і не гаворачы з імі на іх мове, зарэкамендаваў сябе адразу як тонкі палітык. І ён у той жа час умеў смела павесці ў атаку касіньераў (г. зн. паўстанцаў, узброеных косамі), а ў адступленні разгарнуць са сваімі коннікамі выдатную тыральерскую лінію. А ў старым узросце ён заставаўся рамантыкам і паэтам і марыў пра тое, «як ён, выздаравеўшы, сядзе на каня і, праязджаючы праз Германію, дакажа цудоўным нямецкім грэтхен, што можа атрымліваць перамогі не толькі над ворагам».

Дэмакрат, — як ён гаварыў сам пра сябе,— па перакананні, па духу і па крыві, па сваім мінулым, па сваёй дзейнасці, ён разумеў мову беларускага мужыка і французскага пралетарыя, і ў той жа час ён знаходзіў агульную мову са сваімі вялікімі сучаснікамі — з Дэлеклюзам і Гюго, з Марксам і Энгельсам, з Лаўровым і Судзілоўскім, з Гершынскім і Жалябавым. Ён любіў жыццё, але яшчэ больш ён любіў людзей, яшчэ больш любіў праўду і свабоду. І ён быў другам усіх сяброў народа і чалавецтва, і быў ворагам усіх ворагаў роду чалавечага.

Ён мог жыць у нястачы, аскетычна адмаўляючы сабе ў самым неабходным, і ў той жа час, калі ў яго з'яўляліся сродкі, ён мог быць надзвычай шчодрым, жыццярадасным і мог гасцінна частаваць сваіх сяброў, жартуючы: «Трэба ўсё самае лепшае з'есці і выпіць, каб нічога буржуям не засталося».

Ён меў, па словах Энгельса, «упарты і хваравіта горды характар», ён быў суровым рыгарыстам, і ў той жа час, асабліва ў адносінах са сваімі таварышамі-аднадумцамі, праяўляў незвычайную чуласць, сардэчнасць і далікатнасць.

Яго двойчы прыгаворвалі да пакарання смерцю. Першы раз гэта зрабіў Мураўёў-вешацель, другі раз — версальскі суд. У студзені 1864 года ён быў цяжка паранены ў сутычцы з царскімі казакамі, і застаўся жыць толькі таму, што карнікі палічылі яго мёртвым. У 1865 годзе ён стаў у Парыжы ахвярай эпідэміі воспы, якая тады панавала ў Еўропе, і выжыў дзякуючы толькі той жа стойкасці духу (ён адмовіўся легчы ў перапоўненую бальніцу, дзе паміралі, як мухі, і змагаўся з хваробай дома ў ложку, харчуючыся адным цёплым чаем). Калі ён жыў у эміграцыі, на яго быў арганізаваны бандыцкі налёт. Але ён вынес і гэтае выпрабаванне. І ён памёр тады, калі прыйшоў яго смяротны час, ва ўзросце 72 гадоў. Ён заўсёды пакідаў апошнім поле бою, прыкрываючы баявых таварышаў. І жыццё ён пакідаў, як поле бою, адным з самых апошніх, выканаўшы да канца свой салдацкі і грамадзянскі абавязак.

Так, ён двойчы цярпеў паражэнне, у 1863—64 і ў 1871 гадах, дакладней, паўстанні, у якіх ён прымаў удзел, цярпелі паражэнне. Але пераможаным ён сябе не лічыў і такім са-

П'ер ЛЕШАМБАДЗІ

## НАЧНІЦЫ І СОНЦА

*(Байка)*

У радавым сваім гняздзе-палацы
Кароль Пугач, не меўшы іншай
працы,
Збіраў пад раніцу каля дупла
Савет начніц. А ўсё ж яны святла,
Баяцца, як чорт ладану.

На сход
Зляцеўся ў момант з лесу і з балот,
Бы чорныя начныя здані,
Увесь злавесны клір яго ўладанняў:
Бяльматая Сава, сівы Бугай,

праўды не быў. Ён мог паўтарыць словы свайго саратніка па парыжскіх барыкадах, камунара Дэлеклюза, які сказаў: «Паражэнне ў сто разоў лепш, чым бяздзейнасць; нават пакуты лепш за пошлы дабрабыт, бескарыснае існаванне».

ХТО ЁН такі — гэты волат з племя братоў Атланта і Праметэя? Няцяжка здагадацца, што гутарка ідзе аб нашым слаўным земляку Валерыі Урублеўскім, генерале Парыжскай камуны, 100-годдзе якой мы адзначаем.

Пра Урублеўскага ўжо шмат напісана. На жаль, мы, беларусы, не ўнеслі ў гэтую справу належную лепту, і тут вінаваты як гісторыкі, так і літаратары. Я асабіста, прынамсі, адчуваю такую «запазычанасць» і ўвасабленне вобраза Урублеўскага разглядаю як адну з сваіх важнейшых творчых задач. Не ведаю, у якой форме выльецца тэма, як яе ўдасца вырашыць. Але яна мяне захапіла, і я працую над ёю, збіраю матэрыял. У дадзеным жа выпадку я проста хачу нагадаць пра дзейнасць Валерыя Урублеўскага ў дні Парыжскай камуны.

Сто гадоў назад, 29 сакавіка 1871 года, «Афіцыйная газета» Парыжскай камуны пісала: «Усякі палітычны рух, які не носіць у сабе самім новай плённай і творчай ідэі, або, валодаючы такой ідэяй, не вылучае тут жа людзей, здольных праводзіць і адстойваць яе, асуджаны на вартую жалю няўдачу, хаця б ён і пачаўся з бліскучага трыумфу і дэманстрацыі сілы.

Людзі глыбокай думкі і рашучых дзеянняў аказаліся гатовымі ў першыя ж дні 1789 года. У стыхійны, бязладны рух яны ўдыхнулі жыццё, свядомасць і думку. Яны зрабілі гэты рух чалавечным, асэнсаваным, так сказаць, філасофскім, і за некалькі месяцаў натоўп, які кіраваўся інстынктам, ператварыўся ў вялікі свядомы народ, народ рэвалюцыі.

Якраз так жа і рэвалюцыя 18 сакавіка не мае недахопу ў Сакратах, успрыемніках ідэй».

У ТОЙ СВЕТЛАЙ плеядзе «людзей глыбокай думкі і рашучых дзеянняў» займае дастойнае месца і наш зямляк, адзін з лепшых ваенных кіраўнікоў Парыжскай камуны Валерый Урублеўскі.

Удзел Урублеўскага ў падзеях вялікай рэвалюцыі быў, як мы бачылі, невыпадковым. Рыцар ідэі, «дэмакрат па перакананні, па духу і па крыві», ужо вопытны паўстанцкі камандзір, В. Урублеўскі рашуча становіцца ў рады камунараў. Ведаючы яго мінулае, і яго погляды, кіраўнікі Камуны давяраюць яму важны ваенны пост. Спачатку яго прызначаюць генералам і начальнікам кавалерыі на левым беразе Сены, а потым — камандуючым левым флангам. На пасяджэнні Камуны ад 1 мая адзін з яе членаў заяўляе: «Генерал Урублеўскі знайшоў усе фарты пакінутымі на волю лёсу; зараз яны могуць абараняцца». Праз два дні, 3 мая, камандуючы левым флангам, Урублеўскі паведамляе ваеннаму дэлегату ў сваім дакладзе аб становішчы на паўднёвым фронце: «Грамадзянін міністр! Настойваючы на атрыманні падмацаванняў як артылерыяй, так і пяхотай і кавалерыяй, я меў намер не толькі працягваць абарону, каб захаваць свае пазіцыі, але і перайсці ва ўдалы момант у наступленне.

Я з радасцю канстатую, што ўсюды пачынае аднаўляцца парадак, што спынілася п'янства, і ў рады нацыянальных гвардзейцаў паступова ўкараняецца дысцыпліна. Словам, чым больш я разбіраюся ў гэтым, тым больш прыходжу да пераканання, што ўсё зло і дэзарганізацыя ў радах грамадзянскай міліцыі мелі сваёй прычынай няздатнасць начальнікаў, падаваемыя імі дрэнныя прыклады і нярэдка іх дробныя інтрыгі».

Камуна ліквідавала армію як адвечны сродак падаўлення і дэспатызму. Армія была заменена нацыянальнай гвардыяй, якую складаюць усе грамадзяне, здольныя насіць зброю, і якая грунтуецца на свядомай дысцыпліне і дэмакратычнай роўнасці. Урублеўскі гэта бачыць і разумее, яму імпануюць такія салдаты. І ён у сваю чаргу імпануе ім, яны пранікаюцца да яго павагай і даверам. Яны ведаюць, што ён адмовіўся ад генеральскага жалавання і згадзіўся ўзяць толькі каня, што ён не пажадаў сяліцца ў прадастаўленым яму Елісейскім палацы, адказаўшы, што «месца генерала — толькі сярод салдат».

Такім чынам, як невыпадковым быў прыход Урублеўскага ў рады камунараў, так і невыпадковым была тая вялікая роля, якую ён адыгрывае ў абароне Парыжа. Ён ведае, за што ён змагаецца, яго вера і мужнасць перадаюцца федэратам. І ён ведае, як трэба змагацца. Удзельнікі Камуны і потым яе гісторыкі Дзюбрэйль і Лісагарэ даюць самую высокую ацэнку палкаводчай дзейнасці Урублеўскага. «Новыя камандзіры,— піша Дзюбрэйль, маючы на ўвазе Дамброўскага і Урублеўскага,— умеюць прадбачыць небяспеку, камбінуюць, манеўруюць, самі вядуць у наступленне...»

«Адзіны поспех,— расказвае Лісагарэ,— абарона мела на Бют-О-Кай. Тут, дзякуючы энергіі Урублеўскага, абарона перайшла ў наступленне...» І далей: «Версальцы не асмельваліся праследаваць Урублеўскага».

Як вядома, апошні ваенны дэлегат Камуны Дэлеклюз прапанаваў Урублеўскаму за некалькі гадзін да трагічнай развязкі ўзяць на сябе галоўнае камандаванне. І той з уласцівай яму яснасцю погляду і цвёрдасцю духу спытаўся: «Ці ёсць у вас хоць некалькі тысяч рашучых чалавек?» «Самае большае — некалькі сотняў», — адказаў Дэлеклюз. Пры такіх умовах Урублеўскі не мог прыняць на сябе адказнага камандавання і працягваў змагацца як просты салдат. І змагаўся да апошняй магчымасці...

ІДУЦЬ ПАЛОМНІКІ да парыжскіх могілак Пер-Лашэз, да той сцяны, дзе версальскія каты расстрэльвалі камунараў і пад якой спачывае прах нашага слаўнага земляка. І я таксама раблю сваё паломніцтва, выходжу з аўтобуса ў Жалудку, дзе прайшло дзяцінства Урублеўскага. Аўтобус спыняецца якраз на той самай плошчы, якую ўспамінае біёграф знакамітага генерала. Ва ўсе бакі ад плошчы разбягаюцца мястэчковыя вуліцы, і на адной з іх я чытаю: «Імя Урублеўскага». Праходжу, туды і назад па гэтай вуліцы, перасякаю плошчу, выходжу на супрацьлеглую вуліцу. Па правы бок ад яе віднеецца школа, насустрач мне ідзе хлопчык ў вялікай, не па росце, цёмна-сіняй шапцы. На шапцы—эмблема лесніка... Можа, і ляснічы Антоній Урублеўскі насіў падобную шапку і даваў пахадзіць у ёй свайму малодшаму, свайму Валерыю? Ах, як паслядоўна працягваецца жыццё — і ў сваёй галоўнай сутнасці, і ў сваіх знешніх праявах!

Заходжу ў школу. Дырэктар, Аляксей Аляксеевіч Дрык, вядзе мяне ў школьны музей. Тут ёсць і куток, прысвечаны Валерыю Урублеўскаму. Фотапартрэт 1864 года, дзе Урублеўскі зняты ў форме паўстанцкага палкоўніка. Пад партрэтам — фотакопія афішы, якая аб'яўляе парыжанам аб тым, што пад кіраўніцтвам генерала Урублеўскага ствараецца кавалерыя, і запрашае добраахвотнікаў запісвацца...

На той жа вуліцы, крыху далей, знаходзіцца касцёл. У касцёльным архіве знаходжу, з дапамогай самога пана пробашча, кнігу-спіс насельніцтва Жалудоцкай парафіі за 1843 год. На адной з яе старонак каліграфічным почыркам касцельнага пісара выведзена:

**Двор Жалудок**
*Антоній Урублеўскі, скарбнік, 48 год,*
*жонка Разалія (з Юроўскіх), 31 год,*
*дачка Аляксандра, 8 год,*
*сын Станіслаў, 7 год,*
*сын Валерыян, 5 год.*

Значыць, так яно і ёсць. Што напісана пяром... Цяпер я не толькі пераконваюся яшчэ раз у тым, што было вядома з прачытанага. Цяпер я яшчэ ведаю, кім працаваў у апошнія гады свайго жыцця старэйшы Урублеўскі (працу ляснічага ён чамусьці змяніў на пасаду скарбніка. Магчыма, гэта было павышэнне, а, магчыма, ён не мог больш працаваць ляснічым па стане здароўя, бо неўзабаве ж памёр). І цяпер я ведаю, дзе жыў з

**(Заканчэнне на 15-й стар.).**

Аляксей ЗАРЫЦКІ

# КАЛЯ СЦЯНЫ КАМУНАРАЎ

Вясна ўладарыла ў Парыжы. Неба
Над ім сінела гэтак свежа, як
Нясмелая наіўная пралеска.
Яно сваім вясеннім хараством,
Здавалася, хацела ўшанаваць
Дзень памяці герояў-камунараў,
Што ў бітвах палі з марай аб
вясне,
Крылатай сонечнай вясне
Свабоды.
Сваіх сыноў вялікіх не забыў
Вялікі горад. Да мясцін
свяшчэнных
Рабочы люд ішоў, ішоў, ішоў...
Там быў і Ленін. Доўга ён стаяў
З сябрамі прад Сцяною
Камунараў,
На расстраляных камянях якой
Змаганцаў цені выступалі. Ленін
Стаяў задуманы. З пакутай ён
Успамінаў далёкую Расію,
Дзе першай рэвалюцыі грамы
Грымелі так нядаўна. Ён сваіх
Саратнікаў успамінаў, што ўчора
Загінулі на барыкадах. Прэсні,
Лодзі,
Палеглі ў Краснаярску, у Чыце.
Як музыка жалобная гучалі
Імёны іх у памяці, але
Як музыка жалобная, ў якой
З глыбіняў невымерных смутку
раптам
На волю прарываецца Жыццё
І Перамогі неадольны голас.
Спачатку ціхі, ён з хвілінай
кожнай
Становіцца ўсё больш і больш
уладным
І пасвятлелі вочы ў Ільіча:
Наступных пераможных
рэвалюцый
Ён музыку магутную пачуў...
А люд рабочы ўсё ішоў, ішоў,
І постаці бяссмертных камунараў
На расстраляных камянях Сцяны
Ужо зусім выразна выступалі.

4. I. 1971

Абскубены Ляляк і з сутарэння
Кажан—усе бяссонныя стварэнні,
Што будзяць скогатам і лес, і гай.
Адперхаўшы макроту ў гарляку,
Знямоглы ад падагры і ангіны,
Пугач усеўся на сухім суку
І прахрыпеў:
«Я вас не без прычыны
Сабраў. Вунь Новая Зара ўзышла.
І што ні дзень, то Час для нас
не лепшы
Між тым, і ад ранейшага святла
І я, і вы сядзім зусім аслепшы.
А чалавек смялее нам на зло.
Цяпер і ў гушчары старога лесу
То Сонца, то электрыкі святло —
Мы ўсе, усе загінем ад Прагрэсу!
Дык што ж — чакаць канца
і галасіць!
О не! Ніхто з нас гібелі не хоча.
Каб нам услодыч жыць у змроку
ночы,
Нам трэба Сонца пагасіць!»

І толькі скончыў, як з ялін, і з дуба,
З вершалін хвой улёт, што мелі сілы,
Разняўшы кіпцюры, раскрыўшы
дзюбы,
Начніцы шуганулі на Свяціла,
А Сонца каб змаргнула. Як свяціла,
Так свеціць.
І начніцы ўжо з гары
Ляцяць асмаленыя ўсе, без крылаў —
І вобзем цемры ўладары.

□

Усякі раз,
Калі на нас Агіда
Збіраецца ў паход крыжовы,
Мне хочацца спытаць у Пугачоў
і Соваў:
А вы ці заказалі ж паніхіду!



# ВЕЧНАСЦЬ ВЯЛІКАЙ ТЭМЫ

ГЭТЫ БАРЭЛЬЕФ для кулуараў Дома ўрада ў Мінску, прысвечаны Парыжскай камуне, мы зрабілі разам са скульптарам В. Рытарам у 1932 г. А задумалі яго, калі я быў яшчэ студэнтам Ленінградскага мастацкага інстытута, у 1931 годзе. Тады якраз святкаваўся 60-гадовы юбілей гэтай вялікай падзеі ў гісторыі барацьбы пралетарыяту.

І калі нам была прапанавана для рэльефу тэма барацьбы парыжскіх камунараў, мы вельмі ўзрадаваліся — здзяйснялася студэнцкая мара.

Кампазіцыю даўжынёй каля васьмі метраў мы падзялілі на тры часткі — гэтага патрабаваў архітэктурны лад інтэр'ера. У першай частцы расказалі пра паўстанне парыжскага пралетарыяту і захоп улады Цэнтральным Камітэтам Нацыянальнай Гвардыі, у другой—пра абвяшчэнне Парыжскай камуны, у трэцяй—пра цяжкую барацьбу пралетарыяту Парыжа і апошнія, майскія дні Камуны.

Кампазіцыя мае некалькі партрэтных фігур, у якіх пазнаюцца адзін з правадыроў Камуны, дэлегат па ваенных справах Шарль Дэлеклюз і генерал Дамброўскі.

Калі сёння, у дні святкавання 100-годдзя Парыжскай камуны, я ўглядаюся ў свой твор, зроблены сорак гадоў назад, то, зразумела, знаходжу і недахопы, і памылкі. І калі б мне давялося зноў звяртацца да тэмы Парыжскай камуны, то я б вырашыў яе, відаць, інакш. І, канечне ж, абавязкова звязаў бы яе з тэмай перамог Вялікага Кастрычніка, бо абедзьве гэтыя рэвалюцыі — звенні аднаго ланцуга...

Між іншым, тэма велічы подзвігу парыжскіх камунараў, іх кроўнага адзінства з камунарамі расійскімі, яшчэ не знайшла адпаведнага ўвасаблення ў манументальным мастацтве. «Найбольш велічны прыклад найбольш велічнага пралетарскага руху XIX стагоддзя», як назваў Камуну У. І. Ленін, яшчэ чакае мастака, які ўвасобіў бы яго ў бронзе і камені.

Хочацца спадзявацца, што недзе ўжо нараджаецца ідэя велічнага помніка парыжскім камунарам...

А. БЕМБЕЛЬ,
народны мастак БССР.

НА ЗДЫМКУ—ФРАГМЕНТ БАРЭЛЬЕФА, ПРА ЯКІ РАСКАЗВАЕ А. БЕМБЕЛЬ.

# БЕЛАРУСКАЕ КІНАМАСТАЦТВА, СТАН І ЗАДАЧЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

У плане 1972 года стаіць фільм сумеснай вытворчасці са славацкімі кінематаграфістамі — «Капітан Налепка», які раскажа пра слаўнага сына славацкага народа, Героя Савецкага Саюза Яна Налепку, што ў цяжкіх умовах устанаўлівае кантакт з беларускімі партызанамі, супрацоўнічае з імі, а пазней пераходзіць на іх бок.

Ленінскую тэму распрацоўвае пісьменнік Іван Шамякін у сцэнарыі «36 вагонаў».

Аўтар Мікалай Фігуроўскі і рэжысёр Мікалай Калінін зноў вернуцца да гісторыі Рудабелкі. Толькі цяпер яны ўжо закранаюць падзеі Вялікай Айчыннай вайны.

Сучасная тэма прадстаўлена двума сцэнарыямі: «Залаты ганак» С. Палякова і «Хроніка ночы» А. Спешнева. Героі першага — сучасныя маладыя людзі Мінска, рабочыя, вучоныя, учарашнія студэнты. Другі сцэнарый расказвае аб выпадку, які адбыўся ў самалёце. Тут сутыкаюцца людзі розных перакананняў. Перад намі прадстае свет гвалту, войнаў і грабяжу. У цэнтры апавядання — наш савецкі ўрач.

Так, прыкладна, выглядае план 1972 года. Прыкладна таму, што ў рабоце — яшчэ цэлы рад сцэнарыяў, і калі сярод іх своечасова з'явіцца больш значны і цікавы, не выключана магчымасць нейкай частковай замены. У перспектыўным плане стаяць экранізацыі твораў Якуба Коласа, Бядулі і інш. Піша сцэнарый Андрэй Макаёнак. Заказаны два сцэнарыі пра будаўнікоў новых гарадоў і буйнейшых заводаў Беларусі. Вядзецца работа над сцэнарыямі «Змена майстра Клімава», «Зямныя браты», «Воблакі», «Млечны шлях». Іх пішуць маладыя драматургі Галаванаў, Касцюкоўскі, Лабкоў, Тулушаў.

Усе названыя сцэнарыі прысвечаны справам сучаснікаў.

На першы погляд, пералічаныя назвы сцэнарыяў і карцін могуць стварыць уражанне нібы ўсё добра. Але на самай справе гэта далёка не так.

Калі ў мінулым годзе ў сцэнарным партфелі да гэтага часу былі гатовы і зацверджаны ўсе сцэнарыі будучага года, дык цяпер пакуль зацверджаны толькі адзін сцэнарый, і то ён мае патрэбу ў дапрацоўцы. Такім чынам, зноў і зноў даводзіцца канстатаваць, што студыя не мае неабходных сцэнарных рэзерваў, а гэта стварае пагрозу рытмічнаму запуску фільмаў у вытворчасць. Апрача таго, мы не маем магчымасці для выбару і таму ў вытворчасць можа пайсці сцэнарый, з якім у іншых умовах можна было б і пачакаць.

І, нарэшце, наша хранічная хвароба: мы запускаем у рэжысёрскую распрацоўку сцэнарыі, да канца недапрацаваныя і не цалкам завершаныя, і таму на наступных этапах даводзіцца займацца бясконцым унясеннем паправак, што ў выніку несумненна адбіваецца на якасці фільма. З гэтым звязаны ўсё яшчэ не ліквідаваныя недахопы ў тэматычным планаванні. Асноўная бяда ў тым, што план студыі нараджаецца не ў выніку прадуманага, мэтанакіраванага пачатку і цеснага яднання ў гэтай справе сцэнарнай рэдакцыйнай калегіі, рэжысёраў і аўтараў.

Часта сцэнарый заказваецца без уліку таго, які рэжысёр будзе яго ставіць, і таму ў тэматычным плане ўзнікаюць «белыя плямы»: у яго ўключаюцца заяўкі і сцэнарыі, не падмацаваныя канкрэтнымі кандыдатурамі рэжысёраў.

Узнікае настойлівая неабходнасць рашучага паляпшэння работы сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі ў справе падрыхтоўкі сцэнарыяў.

Гаворка ідзе аб павелічэнні сцэнарных заказаў, пра больш шырокае прыцягненне беларускіх пісьменнікаў у кінадраматургію.

Многія нашы аўтары маюць патрэбу ў прафесіянальнай дапамозе. З гэтай мэтай была створана сцэнарная майстэрня, але з-за хваробы аднаго з кіраўнікоў майстэрня перастала функцыянаваць. У бліжэйшы час яна зноў пачне працаваць.

Падрыхтоўка аўтарскіх кадраў — гэта клопат не толькі студыі, але і Саюза кінематаграфістаў, Саюза пісьменнікаў, Камітэта па кінематаграфіі. Зараз рыхтуецца на студыі цэлая група маладых людзей для паступлення ва Усесаюзны інстытут кінематаграфіі. Неабходна абавязкова пасылаць на вучобу і на Вышэйшыя сцэнарныя курсы. Мы не выкарыстоўваем прадстаўленыя для рэспублікі месцы.

## IV.

За мінулыя чатыры гады на экраны рэспублікі і краіны выйшла 236 кінафільмаў, створаных у творчым аб'яднанні «Летапіс». Гэта вельмі розныя фільмы і па тэмах, і па жанрах, і па мастацкіх вартасцях.

Мы не паграшым супраць ісціны, калі ў ліку лепшых работ нашых дакументалістаў назавем такія фільмы апошніх гадоў, як «Генерал Пушча», «Пакараны смерцю ў 41-м», «Першыя ноты», «Паляванне са старым сабакам», «Штрыхі да партрэта», «Бронзавы салдат», «У агні жыцця», «Боль мой, Хатынь», «Ставіцца ў абавязак», «Цару ўезд забаронены» і многа іншых карцін, якія яшчэ і яшчэ раз пераконваюць нас у тым, што дакументальнае кіно — мастацтва высокае і складанае, мастацтва, якое патрабуе ад мастака глыбокага асэнсавання матэрыялу, пошуку пэўных выразных сродкаў для дасягнення арганічнага зліцця дакументальнай і мастацкай асноў. І толькі тады, калі мастак-дакументаліст знаходзіць тое непаўторнае, галоўнае, што адрозівае сапраўднае мастацтва ад падробкі, да яго прыходзіць поспех.

У 1968 годзе стваральнікам фільма «Генерал Пушча» (аўтар сцэнарыя А. Вялюгін, рэжысёр І. Вейняровіч) была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР; дыпломамі і прызамі кінафестываляў адзначаны дакументальныя фільмы: «Пакараны смерцю ў 41-м», «Першыя ноты», «Боль мой, Хатынь», «Штрыхі да партрэта», «У агні жыцця», навукова-папулярныя і вучэбныя фільмы «Здзіўленне», «Хірургія на ферме», «Трактары «Беларусь», «Сапрапель».

За апошнія чатыры гады аб'яднанне выпусціла на экраны серыю кінапартрэтаў нашых сучаснікаў, такіх, як «Партытура жыцця», «Дзевяць мінут», «Першыя 30 гадоў», «Мужнасць», «Сямёнаўскі гарадок», «Пастух», «Дні Івана Нікалаева», «Актрыса — мая прафесія», «Мне хацелася расказаць».

Большасць гэтых фільмаў адначасткавыя. Наогул арыентацыя аб'яднання «Летапіс» на аднасткавыя, ёмістыя фільмы-партрэты заслугоўвае ўсялякага заахвочвання. Аднак трэба заўважыць, што не заўсёды такія кароткаметражныя фільмы можна назваць паўнацэннымі творамі. Не-не, ды і з'явіцца на экране гэтакі лірычны эцюд, знешне мудрагелістая замалёўка-пустышка, у якой замест аналізу падзеі або з'явы — пасіўная сузіральнасць, замест руху аўтарскай думкі ўглыб — бяздумнае слізганне па паверхні. Прыкладам таму можа быць фільм Ул. Стральцова «Першы партрэт» або фільм рэжысёра Ю. Лысятава «Паездка ў Кіршы».

Зараз ужо спрачаюцца не аб тым, ці патрэбны сцэнарый у дакументальным кіно, ці не, пытанне зараз стаіць так: які менавіта патрэбен сцэнарый?

Неабходнасць першапачатковага адбору і асэнсавання фактаў рэчаіснасці неаспрэчная, як неаспрэчны той факт, што сцэнарый у кінапубліцыстыцы — гэта перш за ўсё думка, яе рух і вобразнае раскрыццё.

Ус. Вішнеўскі, які, як вядома, паспяхова працаваў у якасці аўтара і ў ігравым, і ў дакументальным кіно, пісаў, што «сцэнарная фраза павінна быць праверана з усіх бакоў: трэба ўсведаміць сабе яе месца ў агульнай кампазіцыі, усведаміць сабе сувязь і ўзаемаадносіны літаратурнай думкі і думкі кінапластычнай, бачнай і чутнай».

На жаль, далёка не ўсе нашы аўтары прытрымліваюцца гэтага добрага правіла. «Сцэнарная фраза» ў большасці сцэнарыяў дакументальных фільмаў не правяраецца «з усіх бакоў» перш, чым канчаткова легчы на чысты аркуш паперы. Яна ўзнікае часта потым, на здымках, у час мантажу і таніроўкі. Лёс фільма ў такім выпадку залежыць ад рэжысёра, якому няма калі ўносіць у сцэнарый карэктывы. Так пачынаецца адвольная інтэрпрэтацыя зададзенай тэмы.

Прыемна, што з нашымі дакументалістамі пастаянна працуе паэт Анатоль Вялюгін, па сцэнарыях якога пастаўлены такія фільмы, як «Генерал Пушча», «Там за ракой — Дзяржынава», «Адзін дзень у маі», «Тайна Івянецкай пушчы», «Кветкі ў снежні», «Колькі шчасцю гадоў».

Супрацоўнічаюць з намі пісьменнікі і журналісты Г. Колас, У. Машкоў, В. Марозаў, М. Вінагораў, Б. Бур'ян, Б. Казанаў, У. Мехаў, А. Адамовіч і многія іншыя, з якімі ахвотна працуюць рэжысёры і аператары аб'яднання.

Трэба зрабіць так, каб такіх аўтараў, якія актыўна працуюць, добра ведаюць спецыфіку дакументальнага кінематографа, было больш. У гэтым, нам здаецца, ключ да вырашэння сцэнарнай праблемы.

Пытанне аб прафесіянальным майстэрстве стаіць не толькі перад аўтарамі сцэнарыяў, але і перад тымі, хто ўвасабляе аўтарскія задумы на экране — перад рэжысёрамі, аператарамі, гукааператарамі.

Некаторыя творчыя работнікі «Летапісу» вельмі мала клапоцяцца аб гэтым баку справы. Яркі прыклад гэтаму фільм «Расказ пра адну дзяўчыну» (рэжысёр В. Сукманаў, аператар В. Арлоў). Знятыя і ўкладзеныя ў мантажны рад кадры выкананы не ў тым ключы, у якім напісаны і прачытаны дыктарскі тэкст.

Тое ж можна сказаць і пра фільмы «Імкненне» (рэжысёр Л. Мартынюк, аператар Ф. Осіпаў), «Жыццё пад лёдам» (рэжысёр Э. Каліноўскі, аператар Г. Лейбман), «Наш завод — наш дом» (рэжысёр В. Сямёнаў, аператар С. Пятроўскі).

І ўсё ж, калі паглядзець на работу аб'яднання «Летапіс» аб'ектыўна, дык, нягледзячы на недахопы, можна сказаць, што дакументалісты спрабуюць з рознай ступенню таленту быць не толькі інфарматарамі, але і даследавальнікамі, што за апошнія чатыры гады ў нашай беларускай кінапубліцыстыцы адбыўся прыкметны зрух у разуменні вялікіх і кардынальных праблем жыцця і чалавечых характараў.

На жаль, гэтага мы не можам сказаць аб нашай навукова-папулярнай кінематаграфіі. Апрача фільмаў «Здзіўленне», які атрымаў на Усесаюзным кінафестывалі ў Мінску дыплом за творчы пошук аператара, і «Сапрапель», што адзначаны сярэбраным медалем за аператарскую работу, у апошнія гады не было створана ні аднай колькі-небудзь значнай карціны.

Праўда, адставанне ў галіне навукова-папулярнай і вучэбнай кінематаграфіі студыя кампенсуе вялікай праграмай заказных фільмаў, многія з якіх выконваюцца на даволі высокім мастацкім і тэхнічным узроўні, але гэта не павінна нас заспакойваць.

Некалькі слоў пра кінаперыёдыку.

У кінахронікі свае пэўныя спецыфічныя задачы, галоўная з якіх, — аператыўная інфармацыя гледача аб бягучых падзеях. Але гэта зусім не азначае, што для кіначасопіса даволі выканаць толькі адну гэтую ўмову. Сюжэты ў сённяшняй кінахроніцы, у якой у адносінах аператыўнасці асвятлення бягучых падзей з'явіўся сур'ёзны канкурэнт — тэлебачанне, павінны быць яркімі, змястоўнымі.

На кінааператара ўскладаецца асаблівая адказнасць. У рабоце ад яго, апрача высокага прафесіяналізму, патрабуецца журналісцкая пільнасць, аўтарскае ўменне.

Не апошняе месца адведзена і рэдактару, ад якога залежыць тэматычнае планаванне, ідэйнасць і змястоўнасць сюжэтаў. На жаль, змест і мастацкая якасць кіначасопісаў не заўсёды адпавядае высокім патрабаванням, якія прад'яўляюцца да сучаснай кінаперыёдыкі.

## V.

У адрозненне ад папярэдняга з'езда, на якім амаль зусім не закраналіся праблемы тэлебачання, мы цяпер не маем права не аддаць увагі гэтаму пытанню. У перыяд паміж з'ездамі мы прынялі ў саюз вялікую групу творчых работнікаў Мінскай студыі тэлебачання, стварылі спецыяльную секцыю тэлебачання. У кінастудыі «Беларусьфільм» таксама працуе вялікі атрад кінематаграфістаў, якія перайшлі ў аб'яднанне тэлевізійных фільмаў.

Аб'яднанне тэлевізійных фільмаў пры кінастудыі «Беларусьфільм» было створана ў жніўні 1968 года. Некаторыя таварышы да гэтага часу задаюць пытанне: а навошта нам тэлевізійнае аб'яднанне? Ці не лепш перадаць яго тэлестудыі або даручыць заказы Цэнтральнага тэлебачання мастацкаму аб'яднанню? Нам думаецца, што такая пастаноўка пытання няправільная. Невыпадкова ж, што многія студыі краіны — «Масфільм», «Ленфільм», Кіеўская кінастудыя імя Даўжэнкі і іншыя — стварылі тэлеаб'яднанні. Відаць, справа тут не толькі ў фінансавых меркаваннях, а і ў творчых. Мы маем магчымасць на кароткіх тэлевізійных фільмах праверыць творчую моладзь і наогул папоўніць і пашырыць наш творчы рэзерв. Апрача таго, карысны і сам факт спаборніцтва тэлевізійнага аб'яднання і тэлестудыі.

За два з палавінай гады свайго існавання тэлеаб'яднанне нашай студыі стварыла 12 мастацкіх тэлевізійных фільмаў, у тым ліку 3-серыйную карціну «Белая зямля» рэжысёра А. Карпава. Паспяхова завершана работа над першымі чатырма серыямі сямісерыйнага фільма «Руіны страляюць» па сцэнарыі І. Новікава і І. Чыгрынава (рэжысёр В. Чацверыкоў).

У большасці ж выпадкаў у тэлеаб'яднанні дэбютуе моладзь. «Бераг прынцэсы Люські» — дыпломная работа В. Нікіфароўскага, «Драўляныя канікулы» — першы фільм В. Жарыкава. Аператар Ю. Цвяткоў дэбютаваў як рэжысёр у фільме «Беларусь мая сінявокая».

1970 год быў таксама годам дэбютаў: першую пастаноўку мастацкага фільма атрымала Д. Ніжнікоўская — маецца на ўвазе фільм «Дзень ды ноч». І. Калоўскі зняў тэлевізійны фільм «Сачыненне». Аператар А. Булінскі выступіў у ролі рэжысёра ў фільме «Домік на Волзе» — і дэбют яго, як нам думаецца, паспяховы.

Трэба прызнаць, што ўмовы вытворчасці фільмаў на тэлеаб'яднанні больш жорсткія: у два разы карацейшы тэрмін і менш асігнаванняў. Вось чаму тут узрастае значэнне прафесіянальнай падрыхтаванасці творчых кадраў.

Непакоіць недастатковы рэдактарскі кантроль і вытворчая неарганізаванасць у працэсе стварэння тэлефільмаў. У якасці прыкладаў можна прывесці гісторыю фільма «Яшка» («Сачыненне») І. Калоўскага. Карціна не раз атрымлівала пралангацыі і закончана з перавыдаткам у 14 тысяч рублёў, хоць яна складаецца ўсяго з трох частак.

Значную трансфармацыю перацярпелі тэлесцэнарыі ў фільмах «Дзень ды ноч» рэжысёра Д. Ніжнікоўскай і «Верыш, не верыш» рэжысёраў А. Дудорава і Я. Васільева.

Сёлета перад аб'яднаннем паўстане нямала творчых задач. Прадоўжыць работу над «Руінамі...» В. Чацверыкоў. Узяўся за экранізацыю «Запісак паляўнічага» Тургенева рэжысёр В. Тураў. Будуць пастаўлены таксама сучасныя кінастужкі: «Там, за ракой», «Машыніст», «Тыя, што ідуць за гарызонт». Будзе экранізавана п'еса «Факір на гадзіну». У сувязі з гэтым перад тэлеаб'яднаннем паўстае рад пытанняў: упарадкавання вытворчага працэсу, увагі да ідэйна-мастацкага ўзроўню карцін. Напэўна, гэтыя ж праблемы хвалююць і творчых работнікаў Мінскай студыі тэлебачання. Тут таксама многа нявырашаных творчых праблем.

Трэба прызнаць, што да гэтага часу мы не наладзілі паміж сабой цеснага творчага кантакту. Хоць у складзе Беларускага тэлебачання працуе немалая група членаў нашага саюза, яны нібы адарваліся ад саюза. Вінавата ў гэтым праўленне, якое сваю ўвагу да тэлебачання звяло толькі да прыняцця некаторай групы яго работнікаў у саюз. Яшчэ большая віна секцыі тэлебачання, якую ўзначальвае член прэзідыума Р. Глухоўскі.

Нам думаецца, што многім работам «Тэлефільма» не хапае сапраўднага прафесіяналізму і майстэрства. Адным словам, праблема якасці, павышэння прафесіянальнага майстэрства і, самае галоўнае, падрыхтоўка высокаякасных сцэнарыяў на сучасным матэрыяле — вось тыя пытанні, якія трэба вырашыць работнікам тэлебачання.

## VI.

У вырашэнні вялікіх задач, якія стаяць перад намі, важнае значэнне мае крытыка. Ніякае мастацтва не можа паспяхова развівацца без аба-

гульнення вопыту, аналізу практыкі сённяшняга дня, пастаноўкі праблем і асвятлення шляхоў руху наперад.

За апошнія гады ў рэспубліцы «крануўся лёд» з выданнем даследаванняў асобных праблем беларускага кіно. Сведчаннем гэтага з'яўляецца выхад у свет двухтомнай «Гісторыі беларускага кіно», падрыхтаванай калектывам супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У ёй прасочваюцца шляхі развіцця беларускага кіно на працягу 40-гадовай яго гісторыі.

Аўтары кнігі ў асноўным правільна тлумачаць цяжкасці, поспехі і недахопы нацыянальнай кінематаграфіі на розных этапах яе развіцця, адзначаюць непарыўную сувязь беларускага кіно з усім шматнацыянальным савецкім кінамастацтвам, аддаюць належнае тым з дзеячоў беларускага кіно, хто сваёй творчасцю ўнёс прыкметны ўклад у яго развіццё. Разам з тым, у выдадзеных кнігах ёсць шэраг пытанняў і праблем, якія аўтары толькі паставілі, але не вырашылі з глыбінёй і пераканаўчасцю, уласцівай навуковым даследаванням. Гэтыя кнігі пазбеглі б многіх недакладнасцей, калі б перад публікацыяй яны былі абмеркаваны з творчымі работнікамі кінематаграфіі.

Аб вартасцях і недахопах першага аб'ёмнага даследавання па гісторыі беларускага кіно не было дастаткова сур'ёзнай і прынцыповай гаворкі на старонках нашай прэсы. А яна неабходная як правільны арыенцір для новых даследаванняў.

Упушчэнні аўтараў «Гісторыі беларускага кіно» ў асвятленні кінадакументалістыкі ў пэўнай ступені дапаўняюць артыкулы ў зборніках і часопісах, якія з'явіліся за апошнія гады, а таксама кніга «Нарыс на экране», якую выпусціла выдавецтва Беларускага універсітэта. І ўсё ж сур'ёзнага навуковага даследавання такіх важных відаў кінематографа, як дакументальнае і навукова-папулярнае кіно, яшчэ няма. Што ж датычыць газетных публікацый, дык ім нярэдка не хапае строга аб'ектыўных крытэрыяў.

Абыходзяць мастацтвазнаўцы і крытыкі такую наспелую надзённую праблему, як тэлевізійныя фільмы. Пра іх пішуць вельмі рэдка і не на належным прафесіянальным узроўні. А ў рэспубліцы працуе ўжо два тэлевізійныя аб'яднанні, якія выпускаюць фільмы.

Сістэматычна асвятляе жыццё кінамастацтва рэспублікі газета «Літаратура і мастацтва». У поле яе зроку трапляюць многія з'явы нашага мастацтва: аналізуюцца новыя фільмы, публікуюцца творчыя партрэты кінамайстроў, праблемныя артыкулы. Аднак з-за яўнага суб'ектывізму, а часам і з-за няведання становішча спраў на студыі, мэты дасягаюць не ўсе гэтыя матэрыялы. У студзені бягучага года, напрыклад, газета ў трох сваіх нумарах апублікавала артыкул А. Гантмана і В. Нячай пад шматабяцаючай назвай «Беларусьфільм» учора, сёння, заўтра». У артыкулах робіцца спроба расказаць пра многае з таго, чым жыў калектыў кінастудыі ў апошняе дзесяцігоддзе, якія цяжкасці ён перажываў, чым не задаволіў гледачоў і грамадскасць. Але далей канстатацыі фактаў, якія ўжо вядомыя і не заўсёды аб'ектыўна ацэненыя, аўтары не ідуць. Глыбокі аналіз, роздум над прычынамі няўдач кінастудыі крытыкі падмянілі выкладаннем малацікавых для шырокага чытача пратаколаў пасяджэнняў і абмеркаванняў, вытрымак з рэцэнзій розных газет і сваіх беглых безапеляцыйных ацэнак. У гэтым пераліку недахопаў згубілася тое становучае, чаго дасягнуў калектыў за апошнія гады. Ці многа карысці ад такой крытыкі? У рабоце дапамагаюць тыя артыкулы і рэцэнзіі, аўтары якіх глыбока і аб'ектыўна, з добразычлівых пазіцый раскрываюць прычыны няўдач і шляхі іх ліквідацыі, не абыходзячы адначасова і тое становучае, што ёсць у многіх нашых фільмах.

Паколькі ў артыкуле, змешчаным у «ЛіМе», узнімаецца рад пытанняў (хоць адказы на іх і вывады вельмі спрэчныя і непераканаўчыя), мы лічым мэтазгодным сабрацца разам — творчым работнікам студыі, аўтарам артыкула, супрацоўнікам рэдакцыі і разабрацца, што ў артыкуле правільна — прыняць для выпраўлення наяўных памылак, а што няправільна — адвергнуць.

Больш паблажліва становіцца газета «ЛіМ» да нашага дакументальнага кіно. Яе рэцэнзенты больш станоўча ацэньваюць амаль усе работы аб'яднання «Летапіс», а іншыя з іх нават перахвальваюць.

Аўтар артыкула «У жанры дакументальным» С. Міхайлава (артыкул апублікаваны ў другім нумары часопіса «Маладосць» за 1971 год) па сутнасці апраўдвае фармальныя пошукі за кошт няўвагі стваральнікаў некаторых фільмаў да галоўнага аб'екту паказу — людзей, іх думак, спраў. Крытык не ўступае ў спрэчку з рэжысёрам Ю. Лысятавым за тое, што ў фільме «Паездка ў Кіршы» яго менш за ўсё цікавіць сама гераіня, што ў «цэнтры яго ўвагі — толькі падарожжа Вольгі Міхайлаўны ў свае родныя Кіршы...»

Не, не захапленні і захвальванні, не апраўданне любых «навацый» нам патрэбны і не безагаворачнае адмаўленне таго, што зроблена, а аб'ектыўная і прафесійная ацэнка, доказны і пераканаўчы аналіз, які правільна арыентуе аўтараў сцэнарыяў, рэжысёраў і аператараў у іх творчай рабоце.

Асаблівая адказнасць перад кіно ў маладзёжных газет. Бо кожны іх чытач — гэта адначасова і кінаглядач. Тады чаму ж нашы маладзёжныя газеты «Знамя юности» і «Чырвоная змена» так рэдка звяртаюцца да важнейшага з мастацтваў пры размове са сваімі чытачамі? З'яўляюцца на іх старонках час ад часу матэрыялы пра кіно, але ім бракуе вастрыні, кіназнаўчага прафесіяналізму.

Недастаткова багатая наша крытыка па жанрах. З яе практыкі зусім зніклі такія мабільныя жанры, як кінаагляд, палемічныя і дыскусійныя артыкулы. А рэцэнзіям нярэдка не хапае глыбіні, прафесійнага аналізу, доказнага разбору. У якасці рэцэнзентаў нярэдка прыцягваюцца малакампетэнтныя ў кінамастацтве людзі, размова іх аб фільме ў асноўным зводзіцца да пераказу зместу з ацэнкамі па прынцыпе: «гэта ўдала, а гэта няўдала». Час ужо нашай крытыцы ад густавых ацэнак перайсці да аналізу, да творчай павучальнай для кінематаграфістаў і кінагледачоў размовы.

# VII.

За перыяд паміж з'ездамі праўленне саюза ажыццявіла нямала цікавых, патрэбных і карысных творчых спраў, якія насілі канкрэтна практычны сэнс.

Трэба, напрыклад, станоўча ацаніць намаганні праўлення і кінастудыі па правядзенні перыядычных семінараў па кінадраматургіі, мэтай якіх было садзеянне паляпшэнню падрыхтоўкі сцэнарыяў, аказанне практычнай дапамогі аўтарам у афармленні сваіх творчых задум і рабоце над сцэнарыямі.

За справаздачны перыяд было праведзена тры семінары па мастацкай кінематаграфіі і два — па дакументальным кіно. Яны садзейнічалі прыцягненню новых пісьменніцкіх сіл у кіно, пашырэнню кола сцэнарыстаў, якія пішуць для студыі.

У выніку работы семінараў з'явілася некалькі мастацкіх фільмаў — у іх ліку «Іван Макаравіч» — і рад дакументальных стужак, якія апраўдваюць правядзенне падобных творчых мерапрыемстваў.

Трэба сказаць, што дзякуючы намаганням саюза, наша сувязь з дзеячамі агульнасаюзнай кінематаграфіі стала больш цеснай, плённай. Яна садзейнічае ідэйна-творчаму росту творчых работнікаў, удасканальванню іх прафесіянальнага майстэрства, узбагачае і прыносіць велізарную карысць. Неабходна, каб гэтая сувязь у далейшым яшчэ больш пашыралася, стала больш дзелавой і канкрэтнай.

Зразумела, усё гэта адзін з істотных бакоў дзейнасці нашага саюза, які, безумоўна, і патрэбны і карысны. Аднак, толькі да гэтага, відаць, не павінна зводзіцца разнастайная па сваім характары работа саюза. Тут трэба зрабіць папрок нашым творчым секцыям, якія найбольш захапляюцца культурна-асветнай дзейнасцю, займаюцца арганізацыяй лекцый, сустрэч, семінараў па гісторыі кіно, кінапрэм'ерамі і да т. п. Усё гэта, паўтараем, важная работа, але ж галоўная задача творчага саюза заключаецца перш за ўсё ў тым, каб садзейнічаць ідэйна-мастацкаму росту нашага кінамастацтва.

Прызнаючы, што робіцца у нас нямала, мы ў той жа час павінны сур'ёзна разабрацца ў ролі нашага саюза, у яго ўплыве на творчы працэс стварэння фільмаў. Ніхто не вызваляе саюз ад адказнасці за тое, у якой якасці прадстае творчасць кожнага з нас перад мільёнамі гледачоў.

Давайце прызнаемся: ці часта мы на пасяджэннях прэзідыума або творчых секцыях ставілі на абмеркаванне канкрэтную работу таго ці іншага рэжысёра, аператара або мастака, спрабавалі аналізаваць яго творчасць, разабрацца ў яго поспехах або хібах, перыпетыях яго творчага лёсу, раішалі, як яму дапамагчы?

За справаздачны перыяд былі дадзены творчыя камандзіроўкі 27 членам саюза. Але як яны рэалізуюцца, які яны далі творчы плён? Ці ведаем мы, які жыццёвы матэрыял спазнаў кінематаграфіст, пасланы на будоўлю, прадпрыемства або ў калгас? Ці быў ён там увогуле і чым узбагаціўся?

Мы не можам быць абыякавыя да пытанняў ідэйна-творчага выхавання і росту членаў нашага саюза, іх вучобы, пастаяннага павышэння майстэрства, бо гэтыя пытанні, у канчатковым выніку, непарыўна звязаны з якасцю нашай работы.

Адкуль жа ў асобных нашых таварышаў гэткі снабізм і зазнайства, павышаная задаволенасць сабой, самасупакоенасць, староння пазіцыя ў пытаннях творчых і грамадскіх? Як часта мы сутыкаемся з фактамі, калі, напрыклад, на творчых сустрэчах з майстрамі і спецыялістамі кіно не бачыш работнікаў вядучых прафесій студыі, калі на абмеркаванне фільма не прыходзяць таварышы, праяўляючы тым самым абыякавасць да працы свайго сабрата і калегі.

Ці не здараецца часта так таму, што работа над той або іншай карцінай застаецца толькі справай тых, хто непасрэдна ёю заняты, а другіх яно не турбуе? І ці не здараецца наадварот, — калі мастак, якому даручана карціна, лічыць, што з гэтага часу ніхто не мае права ўмешвацца ў яго справу, што яму не патрэбны ні парада, ні дапамога таварышаў, што ён, маўляў, усё ведае і ўмее сам? Як часам дорага абыходзіцца такая практыка, калі памылка таварыша замоўчваецца з-за боязі сапсаваць адносіны, калі ганарлівасць не сустракае рашучага адпору. Калектыўная зацікаўленасць павінна стаць вядучым прынцыпам нашай работы. Стварэнне атмасферы агульнай заклапочанасці і адказнасці за стан нашых творчых спраў з'яўляецца адной з галоўных задач нашага саюза.

Роля і аўтарытэт Саюза кінематаграфістаў могуць вырасці, калі яго дзейнасць будзе больш цесна звязана з праблемамі кінавытворчасці, з штодзённым жыццём студыі.

Вось ужо амаль тры гады, як работнікі мастацкай, дакументальнай і навукова-папулярнай кінематаграфіі аб'ядналіся ў адной студыі. Да іх дадалося аб'яднанне тэлевізійных фільмаў. Ужо можна абагуліць практыку работы студыі ў новых умовах, разабрацца ў дасягненнях і пралікax.

Мы не можам не сказаць аб адной важнай акалічнасці, якая недаравальна ігнаруецца: сабраныя ў адно творчыя сілы, на жаль, працуюць раз'яднана, не жывуць інтарэсамі адзін аднаго, не аказваюць адзін аднаму пасільнай дапамогі. Дакументалісты мала, напрыклад, інфармаваны аб справах мастацкага аб'яднання, работнікі мастацкага фільма мала цікавяцца работай хранікёраў і аб'яднання тэлевізійных фільмаў — і наадварот. А якой падмогай у барацьбе за якасць магла б стаць узаемападтрымка, глыбокая зацікаўленасць у рабоце адзін аднаго... Дзеля ж гэтага, а не толькі з эканамічных меркаванняў праводзілася аб'яднанне студыі. Чаму ж на ўсю сілу не выкарыстоўваецца саюзам такі важны фактар у нашай творчай справе?

Зусім відавочна, што жывы працэс развіцця нашай кінематаграфіі — гэта фільмы, за якімі стаяць канкрэтныя творчыя індывідуальнасці і асобы. Калі мы хочам, каб у нас былі добрыя фільмы, трэба, каб іх рабілі добрыя рэжысёры, добрыя аператары, добрыя артысты, а дрэнныя каб іх не рабілі.

У гэтым, напэўна, заключана зерне ісціны, якое мы шукаем, спрабуючы зразумець, чаму зноў і зноў выходзіць на экран паток шэрых, малавыразных слабых карцін, паток, які час ужо спыніць.

Дрэнная карціна — гэта перш за ўсё слабы сцэнарый, які ў спешцы прыняты і запушчаны ў вытворчасць, гэта рэжысёр, якому рана было даручаць пастаноўку, гэта і кампраміс у падборы выканаўцы на тую ці іншую ролю і многія іншыя кампрамісы, якія мы, на жаль, так церпім.

Шмат ужо гаварылася аб праблеме сцэнарыя. І гэта невыпадкова. Фільм пачынаецца з літаратуры. І першым у цітрах стаіць імя сцэнарыста. І ўсё ж у сучасным кінематографе рэжысёр, як і на пачатку кіно, па-ранейшаму вядучая фігура. І гэта зусім справядліва, таму што без рэжысёра няма фільма, якім бы ні быў добры сцэнарый.

Побач са сцэнарнай праблемай рэжысёрская праблема на сённяшні дзень застаецца адной з найбольш складаных у беларускай кінематаграфіі. Без яе вырашэння не можа быць і гутаркі аб далейшым нашым паспяховым руху наперад.

З якасцю рэжысуры цесна звязана і акцёрскае пытанне.

Колькі разоў гаварылі пра тое, што развіццё нацыянальнага кінамастацтва немагчыма без удзелу ў ім лепшых вопытных акцёраў беларускіх тэатраў. На жаль, у нашых фільмах мы іх бачым рэдка.

Зараз студыя прыняла шэраг мер, накіраваўшы вучыцца на акцёрскі факультэт Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі вялікую групу беларускай моладзі.

Гаворачы пра культуру нашай работы, нельга змоўчаць аб пытаннях вытворча-тэхнічных. Кіно ж — гэта не толькі мастацтва, але і складаны вытворчы працэс. Але чамусьці ад пастаяннага эканамічнага і арганізацыйнага ўдасканальвання, якое мы назіраем у народнай гаспадарцы краіны, у кінематографе ўсё змяняецца занадта марудна або наогул амаль нічога не змяняецца. Мы маем на ўвазе і тэхніку: кінакамеры, оптыку, плёнку, мікрафоны і г. д.

Здаўна ідзе ў нас размова пра так званае «сярэдняе звяно»: аб асістэнтах і памочніках рэжысёра і аператара, грымёрах, адміністратарах, рэквізітарах, касцюмёрах і цэлым шэрагу іншых прафесій, без якіх фільм стварыць нельга. На кожнай студыі іх падрыхтоўка праводзіцца саматужна.

Мы прывыклі перакладаць віну за малы поспех у гледачоў таго ці іншага фільма на дрэнную работу пракату, нівеліроўку рэкламы, адсутнасць клопатаў пра рух фільма да гледача і г. д. Сапраўды, мы можам прад'явіць прэтэнзіі да работнікаў пракату, у дзейнасці якіх нямала недахопаў, але ці не правільней будзе ў першую чаргу прад'явіць прэтэнзіі сабе і сур'ёзна задумацца над тым, чаму глядач не заўсёды ходзіць на нашыя фільмы?

Сённяшні глядач асабліва чуйны да праўды і хлусні, нецярпімы да шэрасці, нясмеласці і скаванасці думак, штампу і невыразнасці кінамовы. Больш глыбока, смела, разумна! — гэты заклік тычыцца ўсіх кампанентаў кінематографа: сцэнарыя, рэжысуры, выяўленчага рашэння.

Нельга не закрануць пытання аб нацыянальнай спецыфіцы і выразнасці нашага кінамастацтва. Глыбока няправільна было б фетышызаваць без разбору ўсякую праяву нацыянальнай своеасаблівасці, схіляцца перад ёю, як перад чымсьці адвечным і назаўсёды застылым. І вядома ж нельга зводзіць нацыянальную форму фільма толькі да чыста знешніх атрыбутаў: касцюмаў, розных этнаграфічных дэталяў або ўвядзення ў карціну песні на беларускай мове. Гутарка ідзе не аб тым, што ляжыць на паверхні, а пра глыбокае даследаванне нацыянальнага характару, а значыцца душы народа. Гутарка ідзе аб неабходнасці больш цесных сувязей нашага кінамастацтва з нацыянальнай культурай, адлюстраванні на экране вобразаў беларускай класікі і сучаснай літаратуры, больш шырокім прыцягненні да стварэння фільмаў беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў і акцёраў. Рэальнае адлюстраванне ў мастацтве тых ці іншых своеасаблівых нацыянальных рысаў у характары народа ёсць умова праўдзівага паказу жыцця, аб чым нельга забываць, думаючы аб стане і перспектывах развіцця беларускага кінамастацтва.

Будучыня нашай кінематаграфіі ў прытоку новых маладых сіл. Кожны год уліваюцца ў наш калектыў новыя рэжысёры, аператары, мастакі і іншыя маладыя спецыялісты, што скончылі кінематаграфічныя навучальныя ўстановы. Абнаўленне творчага калектыву — натуральны, заканамерны працэс.

Каму, як не маладым, перш за ўсё думаць пра сённяшні і заўтрашні дзень кінематографа!

Партыя заклікае нас праяўляць творчую патрабавальнасць у рабоце, быць заўсёды на ўзроўні новых ідэйных і эстэтычных запатрабаванняў народа, увасабляць на экране маральныя ідэалы нашага грамадства, няспынна павышаць сваё мастацкае майстэрства.

Напярэдадні XXIV з'езда КПСС беларускія кінематаграфісты з яшчэ большай адказнасцю ўсведамляюць свой абавязак перад партыяй і народам і выказваюць сваю рашучасць дзейсна ўдзельнічаць сваёй натхнёнай творчасцю ў вялікай барацьбе за камунізм.

# МІНУТЫ, ДНІ, ГАДЫ...

## Заслужанаму артысту БССР М. ЦУРБАКОВУ — 60 гадоў



...Ішоў 1930 год. Малады слесар Мікалай Цурбакоў спыніўся каля аб'явы, якая паведамляла аб стварэнні ў Гомелі ТРАМа. Ён рызыкнуў зайсці да кіраўніка новага тэатра Еўсцігнея Міровіча... І — узняўся на падмосткі сцэны.

Першая работа Цурбакова — роля камсамольца Шурупа ў спектаклі «Першая перамога» па п'есе, якая расказвала пра жыццё рабочых «Гомсельмаша» і была напісана самімі ўдзельнікамі трупы. Малады артыст спадабаўся гледачам. Паступова ў Мікалая Іосіфавіча ўмацоўвалася жаданне прысвяціць жыццё прафесійнай сцэне. Як гэта часта бывала тады, юнак быў энтузіястам трамаўскага руху. Пасля Гомеля — ТРАМ у Горкім.

**— Запрашэнне ў гэты тэатр вызначыла мой лёс,— расказвае М. Цурбакоў. — Тады шэфамі горкаўскага ТРАМа былі вахтангаўцы. Кожны год мы на месяц выязджалі ў Маскву. Тут мы атрымлівалі высокакваліфікаваныя кансультацыі, рыхтавалі спектаклі, а потым паказвалі іх у клубах маскоўскіх прадпрыемстваў. Працавалі з намі Захава, Шчукін, Мансурава, Гаруноў, Антакольскі і іншыя выдатныя рэжысёры і акцёры...**

Мабыць, кожны тэатрал разумее, як гэта важна — на пачатку артыстычнага шляху сустрэць добразычлівых і патрабавальных настаўнікаў, мець перад сабой жывы прыклад служэння мастацтву апантаных творчасцю людзей, такіх, як славуты Е. Міровіч і вучні Яўг. Вахтангава. Нешта ў хлопцу з «Гомсельмаша» заставалася ад трамаўскіх звычаяў і манеры ігры, а штосьці істотнае ўзбагачала яго ўжо ва ўмовах маладзёжнага тэатра, які ўбіраў ў сябе тэорыю і практычны вопыт «дарослай» сцэны, прынцыпы МХАТа і «сістэмы Станіслаўскага». Што Мікалай Іосіфавіч умее вучыцца, могуць засведчыць яго сённяшнія партнёры па сцэне: акцёр надзвычай арганічны, чулы да аўтарскага слова і рэжысёрскага «бачання», ён і ў самых адказных выступленнях у ролі У. І. Леніна, і ў эпізодах дае прыклад таго, што такое «жыццё чалавечага духу», як гэта разумеў Станіслаўскі. І ніколі не цешыць сябе надзеяй і ўпэўненасцю, быццам сёння дасягнуў мэты і яму далей няма чаго рабіць. Паглыбленне, паглыбленне... Так назваў бы я яго метад працы і ў рэпетыцыйны перыяд, і ў спектаклях.

Так было і тады, у Горкім і ў Маскве.

Жыла ў юначым сэрцы любоў да той краіны, дзе рос, дзе праходзіла юнацтва і куды праз некалькі гадоў вярнуўся Мікалай Іосіфавіч. Яго запрасілі ў Беларускі тэатр юнага гледача, які ў тую пару ўзначальваў Е. Міровіч. Потым былі тэатры ў Пінску і Магілёве.

З самага пачатку службы ў нашым Гомельскім абласным тэатры Цурбакоў — вядучы артыст трупы. Яго аўтарытэт грунтуецца на сапраўдным творчым капітале.

**Ролі для нас, акцёраў — гэта этапы жыцця. Калі не кожная з іх, дык такія з рэпертуару Цурбакова, як незабыўны Несцерка або Пустарэвіч, Пытляваны («Пяюць жаваранкі») або Пётр Громаў («Угрум-рака»), Карп Маеўскі («Глыбокая плынь») ці Хлопаў («Рэвізор»), варта лічыць вяхамі творчай біяграфіі. Магу сказаць, як партнёр па сцэне, што заўсёды з добрым пачуццём зайздрасці адчуваю, як натуральна ў выкананні ролі Цурбаковым з'яўляюцца патрэбныя ў гэтым спектаклі гэтага драматурга самыя дакладныя фарбы — «горкаўскія», «шэкспіраўскія», «астроўскія». У «Паўлінцы» ж ён быў вельмі «купалаўскім» Пустарэвічам, а ў Пытляваным — «крапівоўскім».**

**У трох спектаклях нашага тэатра Мікалай Іосіфавіч выступаў ў ролі У. І. Леніна — «Крамлёўскія куранты», «Імем рэвалюцыі», «Кветкі жывыя»... Нам, яго калегам, радасна назіраць, з якой творчай самааддачай ставіцца артыст да такой адказнай работы, імкнецца шліфаваць знойдзенае, паглыбляе рысы, ужо адкрытыя ім у адпаведнасці са сваёй артыстычнай індывідуальнасцю, шукае гармонію ўнутранага і знешняга малюнку...**

Жыццё Мікалая Іосіфавіча — у тэатры, і яго захапенні таксама звязаны з ім. Артыст шмат часу аддае жывапісу, скульптуры. Ён аформіў каля дзесяці спектакляў на прафесійнай сцэне: «Узнятая цаліна», «На бойкім месцы» і іншыя. Мікалая Іосіфавіча добра ведаюць і любяць гледачы розных гарадоў Беларусі. Ён першым у нашай гомельскай трупе быў удастоены высокага звання заслужанага артыста рэспублікі, двойчы выбіраўся дэпутатам Гомельскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных, за вялікую шэфскую работу сярод воінаў Савецкай Арміі адзначан загадам міністра абароны СССР і ўзнагароджан значком выдатніка ваенна-шэфскай работы. Ведаюць яго і ў калгасах, куды ён часта выязджае не толькі з трупай, але і як лектар, кансультант мастацкай самадзейнасці.

Цяпер, калі Мікалаю Іосіфавічу спаўняецца 60 гадоў, ён поўны сіл і творчай энергіі. Мы ўпэўнены, што яшчэ не раз сустрэнемся з героямі Цурбакова — шматграннымі, цікавымі людзьмі, партрэты якіх так шчодра і выразна лепіць артыст. А мы, акцёры Гомельскага тэатра, хочам пажадаць нашаму юбіляру шмат шчаслівых, доўгіх гадоў, дзёрзкіх парыванняў і ўласцівага яму творчага неспакою!

**Пётр ФІЛІПАЎ,**
**заслужаны артыст БССР.**

## Аляксандру ЛАЗНЯВОМУ— 60 гадоў



Споўнілася 60 гадоў рускаму пісьменніку Аляксандру Лазнявому. З гэтай нагоды праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру прывітанне, у якім гаворыцца:

*«Паважаны Аляксандр Мікітавіч!*

*Горача віншуем Вас з 60-годдзем з дня нараджэння.*

*Перш чым стаць літаратарам, Вы прайшлі значны і складаны жыццёвы шлях — разам з энтузіястамі першых пяцігодак прымалі ўдзел у будаўніцтве Харкаўскага трактарнага завода, славутай Магніткі.*

*У час Вялікай Айчыннай вайны Вы — камандзір узвода, а потым — ваенны журналіст.*

*Вашы вершы ўпершыню паявіліся ў 1948 г. ў зборніку ўральскіх паэтаў «Утро в горах» (Чэлябінск). З таго часу Вы вядзеце з чытачом актыўную паэтычную размову.*

*Многія Вашы вершы сталі песнямі, якія прайшлі выпрабаванне часам, не страцілі і сёння сваёй каштоўнасці.*

*Чытачы ведаюць Вас і як празаіка. Аповесць «Дорога — в горы», «Чукотские сказки» сведчаць аб добрых магчымасцях у новым для Вас жанры літаратуры.*

*Жадаем Вам новых творчых поспехаў, добрага здароўя, шчасця».*

**Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» далучаецца да гэтага цёплага віншавання.**

# ЁН ПІША ЦІШЫНЮ

## Выстаўка, прысвечаная 60-годдзю І. КАРАСЁВА

Жывапіс намнога папаўняе нашы часам неўсвядомленыя ўяўленні аб магутнасці прыгажосці, багацці чалавечай душы і прыроды.

Разглядаючы няхітрую карціну, тэма якой, скажам, вясновы ранак, хмурны асенні дзень або залата спелага збожжа, мы раптам нанава разумеем, што жыццё прыгожае не толькі ва ўзвышаных і гераічных справах, а і ў будзённым. І тады пасля сустрэчы з мастацтвам, набыўшы гэтае цудоўнае пачуццё абнаўлення, хочацца больш пільна ўглядзецца ў тое, што акружае, паўз што раней праходзіў абыякава.

З такімі думкамі я пакідаў юбілейную выстаўку твораў І. Карасёва, адкрытую ў выставачнай зале Саюза мастакоў Беларусі.

Кожны час нараджае свой пейзаж, у кожны час ёсць толькі яму ўласцівае ўяўленне аб прыродзе. Нашым мастакам таксама ўласцівы свой позірк на навакольную рэчаіснасць. Іх пейзажы маюць рысы, незнаёмыя пейзажу мінулага, па-свойму, выказваюць «чалавечую сутнасць прыроды».

Тэму любві да простай і будзённай прыроды, зразуметую як частку жыцця людзей, як вобраз роднай краіны, І. Карасёў трактуе паэтычна, эмацыянальна і маляўніча непасрэдна, жадаючы знайсці выразнасць у самой натуры і яе стане.

Здавалася б, што за сэнс глядзець на напісаныя маслам беластвольныя бярозкі, жытнёвыя палі, квітнеючыя вербы ці водную гладзь ракі, калі можаш сесці ў электрычку, паехаць куды-небудзь у Вязынку, Сялетчыкі, Гурнавічы ці на Бярэзіну і ўбачыць усё гэта наяве. Але справа ў тым, што І. Карасёў не толькі расказвае пра бярозку і вольху, пра цішыню лесу і песню жаваранка, ён расказвае пра ўсе тыя пачуцці, якія ахоплівалі яго, мастака. Глядач думае, што, пазіраючы на вясновыя палеткі з раскінутымі саўгаснымі домікамі («Вясновыя палеткі»). на цудоўныя купалаўскія мясціны («Салаўіная пара») ці рачную гладзь ракі з крутымі абрывамі («Бярэзіна»), ён проста пазнае іх. Але гэта не толькі так: глядач вучыцца па-новаму бачыць, па-новаму любіць усё гэта, ён вучыцца новым для сябе адносінам да роднай прыроды.

Лепшыя пейзажы І. Карасёва з надзвычай простымі сюжэтамі ўспрымаюцца як само жыццё толькі ў канцэнтраванай сутнасці, у нейкай квінтэсенцыі яго. Больш за ўсё пейзажыст любіць вясну. У вясне заўсёды тоіцца надзея—на добрае лета, на ўраджай, на шчасце, на цяпло, на ўдачу.

Мастака асабліва хвалюе матыў апошняга снегу («Першая зелень», «Павеяла вясной», «Снег растае», «Апошні снег», «Сакавіцкі дзень»). Відаць, яго цікавіць той асаблівы пераходны стан прыроды, калі нават паветра, напоўненае зыходзячым ад зямлі вільготным дыханнем, знаходзіцца ў лёгкім унутраным руху. Гэты пераходны стан ранняй вясновай прыроды вабіць мастака эмацыянальнасцю свайго непасрэднага лірызму.

Вось пейзаж «Блакітная вясна». Ласкава грэе вясновае сонца, а ад расталага снегу павявае сырой прахалодай. Усёззяе на сонцы — блакіт неба, зеляніна лісця, блакітныя цені на снезе. Тонкія ствалы дрэў у цэнтры карціны цягнуцца ўверх і празрыстасцю галінак узмацняюць лёгкасць пейзажу. Здаецца, усё ў ім рухаецца — і верхавінкі дрэў, і кавалкі талага снегу, і сілуэты ценяў. Гэты лёгкі рытм, жывое трапятанне жыцця перадаюць абуджэнне прыроды, ледзь бачнае, чутнае. І снег, і адталая зямля, і лясок, зацягнуты сінаватай смугой удалечыні, дадзены ў адным стане, у адзінстве святла і паветра. Карціна таму такая эмацыянальная, што яна будуецца не столькі на «пазнаванні» прадметаў і адзнак іх стану, колькі на адчуванні і перажыванні гэтага стану — вільготнасці, лёгкасці.

Рух, які перадаецца пераходамі колеру, параўнаннямі цёплых і халодных тонаў, характэрны і для такіх пейзажаў, як «Майскі дзень», «Ранак», «Вясновы вечар», «Асенні вечар». У іх матыў пералому дня вырашаецца як лірычная тэма ў вершах, як светлы акорд у мелодыі.

У І. Карасёва шмат «пейзажаў настрою», якія перадаюць не толькі перажыванні, але і лірычны роздум («Сакавіцкі дзень», «Бярозкі», «Салаўіная пара» і інш.). У гэтых работах адсутнічае жанравая трактоўка пейзажу, характэрная для класічных пейзажаў Саўрасава, Паленава. Яе І. Карасёў замяняе ў лепшых работах уласна пейзажнай эмацыянальнасцю. Так, эмацыянальны тон карціны «Вольха расцвітае», яе лірычнае гучанне, нягледзячы на, магчыма, залішнюю дэталізацыю, дробнасць форм, вызначаецца непасрэднасцю выразу «настрою» свежага вясновага дня. Ён ствараецца ўсім маляўнічым строем карціны з яе тонка перададзенымі зменамі ў асвятленні пярэдняга і задняга планаў, пераходамі тонаў.

Працяглая работа на натуры навучыла Карасёва сакрэтам пленэрнага жывапісу. Адзінства натуральнага асвятлення, відаць, наштурхнула яго на аб'яднанне колераў у агульнай танальнасці, работа на паветры прывяла да больш светлай палітры, да яе ачышчэння ад цяжкіх і брудных тонаў, характэрных для жывапісу 40—50 гадоў. У гэтым авалоданні танальным жывапісам мастак арганічна выкарыстоўвае ўрокі, узятыя ім з жывапісу Левітана, С. Герасімава, Бялыніцкага-Бірулі, Рамадзіна.

Талент пейзажыста мае свае грані. Чым больш мастак працуе, тым ярчэй яны ззяюць. У І. Карасёва ёсць свае прыхільнасці, сімпатыі, якія ён не ўтойвае, аддаючы перавагу вясне і восені, хаця піша, праўда, радзей, і іншыя поры года.

Мне здаецца, што, ствараючы свае карціны, І. Карасёў не толькі падкрэслівае цішыню і лірычны інтым прыгажосці Беларусі, яе палеткаў, пералескаў і лугоў. У лепшых яго пейзажах, наскрозь беларускіх, прыгожых і выразных, ёсць зерне, якое ўжо сёння можа вырасці ў больш абагулены манументальны вобраз.

Не ўсё аднолькава ўдалося І. Карасёву ў гэтай невялікай, старанна распрацаванай экспазіцыі. Як і ва ўсякага мастака, у яго побач з удалымі працамі мы бачым і менш удалыя. Так, некалькі сумнай атрымалася карціна «Вечар», напісаная ў даволі манатоннай цьмянай гаме. Некаторыя пейзажы, хоць і цікавыя па матывах, так і не сталі карцінамі.

Але цалкам выстаўка, адабраная строга і прадумана, атрымалася. Мастак нібы памаладзеў. Ад карціны да карціны, з году ў год яго жывапіс робіцца больш свежым, жыццерадасным, інтэнсіўным, складаным і яркім па тоне.

**Барыс КРЭПАК.**

# СТАГОДДЗЕ ПАРЫЖСКАЙ КАМУНЫ

**«Справа Камуны—гэта справа сацыяльнай рэвалюцыі, справа поўнага палітычнага і эканамічнага вызвалення працоўных, гэта справа ўсясветнага пралетарыяту. І ў гэтым сэнсе яна бяссмяротная».**

**Ул. І. ЛЕНІН.**

# ПАЭЗІЯ ПАКУТ І ПАЎСТАННЯЎ ПРАЛЕТАРЫЯТУ...

*У Парыжскай камуны былі не толькі свае дзеячы-рэвалюцыянеры, свае палітыкі і палкаводцы. У яе былі і свае песняры.*

*Рэвалюцыянерам, барыкадным байцом, непрымірымым ворагам капіталізму і трыбунам будучага камуністычнага грамадства да апошніх сваіх дзён быў паэт-пясеннік Эжэн Пацье. Гэта ён, уцалеўшы ад расправы рэакцыі ў майскі «крывавы тыдзень» і знаходзячыся ў падполлі, у чэрвені 1871 года стварыў гімн рэвалюцыйнага рабочага класа «Інтэрнацыянал». Жарэс пісаў у 1887 годзе ў некралогу, прысвечаным памяці свайго паплечніка па барацьбе: «Ён быў адным з самых таленавітых паэтаў, якія праславілі Парыжскую камуну, непараўнальным песняром пакут і паўстанняў пралетарыяту».*

*Побач з выдатнымі французскімі паэтамі-камунарамі — Клеманам, Шатленам, Рэмбо і іншымі, нашаму чытачу найменш вядома імя Лешамбадзі. А між тым П'ер Лешамбадзі (1806—1872) таксама папулярны паэт французскай рэвалюцыі 1848 года. Сваімі сатырычнымі байкамі ён актыўна змагаўся з ворагамі дэмакратыі, з буржуазнымі норавамі ў галіне палітыкі, культуры і маралі. Пасля манархічнага перавароту 2 снежня 1851 года Лешамбадзі падвяргаўся ганенню, а яго байкі былі забаронены. Нягледзячы на рэпрэсіі, ён адкрыта гаварыў і пісаў аб сваіх камуністычных перакананнях. У 1871 годзе, ужо будучы старым і хворым чалавекам, П'ер Лешамбадзі ў апошніх сваіх творах вітаў перамогу Парыжскай камуны.*

*Прапаную ўвазе чытачоў некалькі вершаў абодвух паэтаў у сваіх перакладах з французскай мовы.*

**Язэп СЕМЯЖОН.**

## Эжэн ПАЦЬЕ

## ДОН-КІХОТ

Праз стэп насустрач Дон-Кіхоту
Нявольных гналі на работу.
Высакародны рыцар з ходу
Пусціўся ў наступ, каб свабоду
Вярнуць рабам. Разбіў ахову
І ўжо з нявольнікаў аковы
Здымае. А саратнік Санча—
У крык: «Ох, рыцар мой з Ламанча,
Здымаць аковы! Гэта ж жах!
Пакіньце іх у кайданах!»

Як раззлуецца Дон-Кіхот:
«Ты, мілы мой, дурны, як бот.
Па-твоему вось гэты раб,
Што ў ланцугах паўзе, як рак,
Тып сацыяльна небяспечны!
Лухта! З яго бесчалавечна
Ліхая прагнасць капітала
І кроў, і сілу сасмактала.
А той — сваё: «Ах, рыцар, ах!
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Мы вызвалім, і без прынукі,
Вунь і таго раба навукі,
Што ўвесь свой век, як дрэваед,
У кнігах точыцца, а бед
Людскіх не ведае, пустэльня,
Бо галава ж яго — патэльня,
І схаластычны ў ёй гарох.
А Санча зноў і «ах» і «ох»:
«Што ж вы надумаліся! Жах!..
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Гэй, раб казармы, ты — свабодны!
Няхай жа ні мяшок паходны,
Ні твой мушкет, ні ківер твой
Не служаць болей галавой
Табе, сляпой прыладзе войнаў,
У нашым свеце неспакойным.
Ты будзь, салдацік алавяны,
Слугой адданым Марыяны».*
А Санча зноў канючыць: «Ах!
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Ты, раб царквы і цемрашалаў,
Кінь манастыр! Ці ж цемры мала!
Зрачыся сана і без страхаў
Пашлі да д'ябла ўсіх манахаў.
Перад народам урачыста
Стань ваяўнічым атэістам,
Даводзь, што цэрквы і сіноды
Прыдумаў для сваёй выгоды
Пан Капітал». А Санча: «Ах!
Пакіньце вязня ў кайданах!»

«Для Дульцынеі ж чорнакосай,
Што трапіла па волі лёсу
Да веліканаў-душагубаў,
Я патрабую волі шлюбу.
Чароўны вобраз дамы сэрца
У рашучы час і ў паняверцы
Я зберагаў цнатліва, строга».
А Санча зноў з перасцярогай:
«Ах, мой сеньёр! Не трэба, ах!
Пакіньце даму ў кайданах!»

Вялікі праўдалюб з Ламанча,
Не слухай баязліўца Санча!
Калі, сячы іх, басурманаў,
Злых чарадзеяў-веліканаў,
Сваёю бласлаўлёнай шпагай
І з доблеснай сваёй адвагай
Ратуй з няволі Дульцынею
І гэтым скончыш эпапею.
А Санча будзе енчыць: «Ах,
Пакіньце волю ў кайданах!»

* Марыяна — сімвал Францыі.

## ДА ГАДАВІНЫ 18 САКАВІКА 1871

На зло бядзе—усе на пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў, песняй,
шклянкай —
У гэты дзень вялікай гадавіны.

Рыхтуючы паўстанне, на зары
Парыж раскрыў, што вораг у засадах.
І па трывозе брук і ліхтары —
Усё пад лом, усё — на барыкадах.
Хто ацалеў, той і дасюль збярог
У памяці ўсю радасць і трывогі—
Якім ён быў той дзень і той Пралог
Нязнанай у гісторыі эпохі.

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

Адзіны выхад бачыў федэрат —
Прыкончыць змову з штабам
і палкамі,
І ён паўстаў,
і стаў каля гармат,
Каб бой пачаць не з голымі рукамі.
Урад уцёк з Парыжа ў палацу
Надвор'я, дзе не прыпякала жарам,
І абвясціў вайну. Мы —
«трыццаць су» —
Прынялі бой, гатовыя к ахвярам.

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

Са ўсіх саслоўяў блузных і плямён
Спяшаўся к нам народ, худы, убогі—
Дыктатары ў рыззі, чыіх імён
Не чулі мы да нашай перамогі.
Але адзначым — тут не без «але»,
Што пралетарыі на Сходзе гэтым —
Парламенце, стаялі на чале,
Кіруючы Цэнтральным Камітэтам.

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

З прылівам радаснага пачуцця
Парыж — у Ратушу, заняў трыбуну.
Вясёлы, неўгамонны, як дзіця,
Ён там пад песні абвясціў Камуну.
Світала, і салют апавясціў:
Буржуям крах! Разбілі іх апору.
На плошчах — гоман, гумар травесці.
Паэзія і Перамога — поруч!

На зло бядзе—усе на
пагулянкі!
Таварышы, сягоння мы павінны
З'яднацца марай сэрцаў,
песняй, шклянкай—
У гэты дзень вялікай
гадавіны.

Шчаслівы дзень! З-за непагадзі хмар
Ён зыркім сонцам і сваім гарэннем
Надзею нёс, і азараўся твар
Шахцёраў па глыбокім сутарэнні.
Свой першы запавет Парыж
здзяйсняў,
І сцяг, крылом абняўшы ўсю
планету, —
Чырвоны сцяг Камуны асяняў
Шлях перамогі ўсім народам свету.

На зло бядзе—усе на пагулянкі!
Таварышы, мы сёння ўсе павінны
З'яднацца марай сэрцаў, песняй,
шклянкай —
У гэты дзень вялікай гадавіны.

Парыж, 18 сакавіка 1887.

## Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# ВОЛЬНАСЦЬ І БРАЦТВА, ГЕНЕРАЛ!..

Чалавек нараджаецца двойчы: першы раз—фізічна, другі раз духоўна. Другі раз яго нараджае час. «Эпоха мае патрэбу ў волатах, эпоха нараджае іх...».

Той волат, пра якога пойдзе гутарка, быў народжаны сваёй эпохай. І калі прырода дала яму магутнае атлетычнае здароўе, калі фізічна ён быў, як сведчаць сучаснікі, складзены, як Апалон, то эпоха, са свайго боку, не пашкадавала для яго магутнага духу. Адно адпавядала другому. Эпоха знала, на каго рабіць стаўку, і яна не памылілася: выбраннік аказаўся дастойным яе. Ён ніколі не траціў прысутнасці духу. А ён быў не з тых, хто стаіць убаку ад вялікага жыцця, ад барацьбы, хто пазбягае выпрабаванняў і небяспек. У такім разе лёгка не траціць прысутнасць духу. Не, ён быў «чалавекам дзеяння». Так яго назваў Маркс. І ў сваёй «споведзі», у сваіх адказах на анкету дачок Маркса, сказаў, што вышэй за ўсе вартасці цэніць у мужчыне актыўнасць, што ўяўляе шчасце як палымянае пекла і што любімы занятак для яго — ісці супраць ветру. Гэта было сказана ў 1872 годзе. А раней, у 1863 годзе, ён сказаў сваім таварышам па паўстанні: «Узяўшы ў рукі зброю, мы павінны перамагчы, а калі хто-небудзь прымусіць нас яе скласці, то толькі разам з жыццём».

Нязменная прысутнасць духу, вялікая сіла волі — яго вызначальная якасць.

Другая яго характэрная рыса — гарманічнасць, шматграннасць. Ён быў не проста актыўным, дзейным чалавекам, але і чалавекам яснага практычнага розуму, чалавекам, які ведае, што ён робіць, ведае сваю справу. Ён быў не толькі рашучым, але і быў, па словах жонкі Маркса, «геніяльнай галавой і сумленнейшым чалавекам». Ён быў не толькі храбрым, але і быў чалавекам, які, па словах аднаго камунара, «выконвае свой абавязак». Ён быў мудрым у маладосці і маладым у старасці. Ён праявіў як бліжэйшы паплечнік Каліноўскага ў свае дваццаць сем гадоў цуды мудрасці, распарадчасці і рэвалюцыйна-ваеннай дзелавітасці. Ён разумеў, што нельга прыцягнуць сялян на бок паўстання, не надзяляючы іх зямлёй і не гаворачы з імі на іх мове, зарэкамендаваў сябе адразу як тонкі палітык. І ён у той жа час умеў смела павесці ў атаку касіньераў (г. зн. паўстанцаў, узброеных косамі), а ў адступленні разгарнуць са сваімі коннікамі выдатную тыральерскую лінію. А ў старым узросце ён заставаўся рамантыкам і паэтам і марыў пра тое, «як ён, выздаравеўшы, сядзе на каня і, праязджаючы праз Германію, дакажа цудоўным нямецкім грэтхен, што можа атрымліваць перамогі не толькі над ворагам».

Дэмакрат, — як ён гаварыў сам пра сябе,— па перакананні, па духу і па крыві, па сваім мінулым, па сваёй дзейнасці, ён разумеў мову беларускага мужыка і французскага пралетарыя, і ў той жа час ён знаходзіў агульную мову са сваімі вялікімі сучаснікамі — з Дэлеклюзам і Гюго, з Марксам і Энгельсам, з Лаўровым і Судзілоўскім, з Гершынскім і Жалябавым. Ён любіў жыццё, але яшчэ больш ён любіў людзей, яшчэ больш любіў праўду і свабоду. І ён быў другам усіх сяброў народа і чалавецтва, і быў ворагам усіх ворагаў роду чалавечага.

Ён мог жыць у нястачы, аскетычна адмаўляючы сабе ў самым неабходным, і ў той жа час, калі ў яго з'яўляліся сродкі, ён мог быць надзвычай шчодрым, жыццярадасным і мог гасцінна частаваць сваіх сяброў, жартуючы: «Трэба ўсё самае лепшае з'есці і выпіць, каб нічога буржуям не засталося».

Ён меў, па словах Энгельса, «упарты і хваравіта горды характар», ён быў суровым рыгарыстам, і ў той жа час, асабліва ў адносінах са сваімі таварышамі-аднадумцамі, праяўляў незвычайную чуласць, сардэчнасць і далікатнасць.

Яго двойчы прыгаворвалі да пакарання смерцю. Першы раз гэта зрабіў Мураўёў-вешацель, другі раз — версальскі суд. У студзені 1864 года ён быў цяжка паранены ў сутычцы з царскімі казакамі, і застаўся жыць толькі таму, што карнікі палічылі яго мёртвым. У 1865 годзе ён стаў у Парыжы ахвярай эпідэміі воспы, якая тады панавала ў Еўропе, і выжыў дзякуючы толькі той жа стойкасці духу (ён адмовіўся легчы ў перапоўненую бальніцу, дзе паміралі, як мухі, і змагаўся з хваробай дома ў ложку, харчуючыся адным цёплым чаем). Калі ён жыў у эміграцыі, на яго быў арганізаваны бандыцкі налёт. Але ён вынес і гэтае выпрабаванне. І ён памёр тады, калі прыйшоў яго смяротны час, ва ўзросце 72 гадоў. Ён заўсёды пакідаў апошнім поле бою, прыкрываючы баявых таварышаў. І жыццё ён пакідаў, як поле бою, адным з самых апошніх, выканаўшы да канца свой салдацкі і грамадзянскі абавязак.

Так, ён двойчы цярпеў паражэнне, у 1863—64 і ў 1871 гадах, дакладней, паўстанні, у якіх ён прымаў удзел, цярпелі паражэнне. Але пераможаным ён сябе не лічыў і такім са-

## П'ер ЛЕШАМБАДЗІ

## НАЧНІЦЫ І СОНЦА

*(Байка)*

У радавым сваім гняздзе-палацы
Кароль Пугач, не меўшы іншай
працы,
Збіраў пад раніцу каля дупла
Савет начніц. А ўсё ж яны святла,
Баяцца, як чорт ладану.

На сход
Зляцеўся ў момант з лесу і з балот,
Бы чорныя начныя здані,
Увесь злавесны клір яго ўладанняў:
Бяльматая Сава, сівы Бугай,

# Вясёлая трасянка

**Жарты, гумарэскі, пародыі, эпіграмы, шаржы**




У кожнага сваё на ўме... Мал. А. ЗАЎЯЛАВА.

Браты БАРОЎКІ

## ЖАРТАЎЛІВЫЯ ДЫЯЛОГІ

— П'янаму і мора па калена.
— Чаму ж ён тады ў лужыну меціць?

□

— Аднаму льецца, а другому нават не капае.
— Бо ён у домакіраўніцтве сваяка мае.

□

— Вось хутка і лета, любая. Выйграем па латарэйным білеце легкавушку — едзь, куды хочаш!
— А правы, даражэнькі?
— Дробязь! Я ўжо гатовы да здачы экзамена, ды і аўтаінспектар знаёмы ёсць.
— І куды ж мы паедзем, любы?
— Куды захочам, даражэнькая.
— А як мне часу не будзе?
— То й аднаму не сумна пракаціцца. Ты ж заўсёды ў думках са мной.
— У думках, можа, і з табой, а на сядзенні будзе іншая.
— Ты мне не верыш, любая?
— Веру, даражэнькі, але лепш будзе, мусіць, калі на правы здам я.
— Хай сабе і так.
— Давай у такім разе сюды свой шчаслівы білет.
— Дык я ж яго яшчэ не купіў!

□

— Таварыш дырэктар, час і на абед.
— Абед не Алітэт, у горы не пойдзе.
— Але ж мы ўжо другую гадзіну пацеем.
— А вы думалі, што калі новы дырэктар, то і мат лёгка даць?

□

— На тое і Юля, каб была чыстая кашуля.
— А навошта ж тады пральная машына?

□

— Для чаго ты столькі венікаў накупляў?
— Каб у хаце заўсёды парадак быў.
— Не цямлю нешта.
— Хіба ты не ведаеш, што новы венік чыста мяце?

□

— Усякая зязюлька пра сваё кукуе.
— Не кажы. Мая дык усё пра суседзяў: і тое ў іх ёсць, і гэта.

□

— Голай аўцы не абстрыжэш.
— А я пачакаю, пакуль абрасце.

□

— Да арла паляцела цяцера і трапіла цяцера арлу на вячэру.
— А што, ён халасцяк?

Іван БАРКОЎ

## ФРАЗЫ

*Ён быў прынцыповым кіраўніком да таго часу, пакуль хто-небудзь з яго саслужыўцаў не прапаноўваў пайсці абмыць яго прынцыповасць.*

●

*Ён баяўся ўсяго: нават прызнацца ў сваёй баязлівасці.*

●

*Плывец жыў з каменем за пазухай і не пайшоў на дно.*

●

*Плагіятар хоць і быў добрасумленны, а прозвішча аўтара не паставіў.*

●

*Бюракрата аднойчы напалохалі: занялі крэсла.*

Уладзімір САФРОНАЎ

## СУЦЕШЫЎ

*Байка*

Слон наступіў касому на вуха. Той заенчыў. Слон тады і кажа:

— Ну чаго ты, дурань, плачаш? Ці табе на скрыпцы іграць?

Ул. ШАПІРА

## МІКРАДУМКІ

Праглынуўшы труса, удаў на два тыдні станавіўся вегетарыянцам.

●

Зіма была халоднай, і ён, каб сагрэцца, спаліў за сабой усе масты.

Змітро БЯСПАЛЫ

## КАЛЕКТЫЎНАЕ АБМЕРКАВАННЕ

Даўні сябра галоўнага рэдактара прынёс апавяданне. Шэрае, доўгае.

Рэдактар прачытаў апавяданне і перадаў у аддзел літаратуры. Там яго пачыталі, пакрывіліся, але аўтару не вярнулі. Літаддзел вырашыў вынесці твор на абмеркаванне і калектыўна выказацца, што яго нельга друкаваць.

Першае слова трымаў рэдактар літаддзела. Сказаў ён вельмі коратка:

— Нечага ў гэтым творы не хапае...

Адразу ж пасля яго падаў голас старшы літработнік:

— У творы не хапае нечага такога...

Пасля слова ўзяў літработнік:

— Сапраўды ў творы не хапае нечага такога, каб...

Рэдактар іх не перабіваў. Выслухаўшы ўвесь літааддзел, ён узяў у рукі апавяданне, кінуў вокам на некалькі старонак машынапісу і лёгка, неяк бадзёра, з душэўнай цеплынёй загаварыў:

— Чытаў, чытаў і я апавяданне... У ім ёсць нешта такое, што варта...

Яму ў тон сказаў намеснік:

— Калі ўдумацца добра, сапраўды нешта ёсць такое, што можна было б...

Рэдактар літаддзела пачырванеў, глянуў на галоўнага, на намесніка і зусім другім голасам вымавіў:

— Безумоўна, ёсць у ім нешта такое, што варта было б...

Старшы літработнік утаропіўся на свайго непасрэднага начальніка, таксама пачырванеў і выказаўся:

— Сапраўды ў творы нешта ёсць такое, каб яго...

Літработнік, здаецца, і не пачырванеў. Ён смела адрэзаў:

— Я думаю, што твор варты таго, каб яго ў друк...

Галоўны рэдактар лёгка ўздыхнуў, неяк загадкава сам сабе ўсміхнуўся і падбіў бабкі:

— Значыць, калі усе за, будзем друкаваць.

Твор надрукавалі. На чарговай лятучцы абмяркоўвалі нумар часопіса з гэтым апавяданнем. Кожны, каму траплялася яно на вочы, крыху бянтэжыўся. Але пра яго ніхто не сказаў ні слова.

## ЯНКІ ВА В'ЕТНАМЕ

### КЕМЛІВАСЦЬ АСА

*— Пан палкоўнік, кажуць, што ў ДРВ з нашых збітых самалётаў робяць розныя сувеніры...*

*— Што вы прапануеце?*

*— Забараніць пастаўку ў ДРВ стратэгічнай сыравіны.*

### БЕЗ АГЛЯДКІ

*Сяржант падбягае да капітана:*

*— На нас напалі в'етконгаўцы!*

*— Колькі іх?*

*— Прабачце, не было калі азірнуцца, каб пералічыць.*

### «БАЯВЫ» НАСТРОЙ

*— В'етконгаўцы пайшлі ў атаку! — дакладвае сяржант камандзіру.*

*— А які ў салдат настрой?*

*— Здадзімся, але не адступім.*

### НЕ ТОЙ ЭФЕКТ

*— Сэр, трэба адмяніць загад аб выдачы віскі перад боем.*

*— Чаму? Гэта ж надае смеласці!*

*— Наадварот: у салдат пачынае дваіцца ў вачах, і яны ўцякаюць ад праціўніка.*

Пераклад з французскай П. САКОВІЧА.

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.



Рабства XX стагоддзя.




А. ФРОЛІХ

## СУПЕРСКЕПТЫК

Лакаматыў скорага поезда ўжо стаяў пад парай, калі да дзяжурнага па станцыі падышоў мужчына і ляпнуў яго па плячы.

— Маё прозвішча Швафэль, — сказаў ён, — я хацеў бы толькі запытаць, ці не запозніцца поезд.

— А чаму ён можа запазніцца?

— Ну, ці мала што можа здарыцца!

— Глупства! Што можа здарыцца?

Дзяжурны здзіўлена ўтаропіўся на гэра Швафеля.

— Можа ў топцы лакаматыва няма агню?

— Агонь там ёсць.

— А вы туды зазіралі?

— Не, я не зазіраў.

— Вось бачыце, — пераможна ўсклікнуў Швафэль, — відавочна, поезд усё ж адыдзе пазней.

— Поезд адыдзе дакладна па раскладзе! — упарта паўтарыў дзяжурны.

— Слухайце, — запярэчыў Швафэль, — вы ж самі сказалі, што не зазіралі ў топку, значыць вы таксама не можаце сказаць пэўна, ёсць там агонь ці няма.

— Для нагляду за топкай і катлом існуе цэлая брыгада!

— А можа яны не зазіралі ў топку?

— Ну, гэта ўжо занадта! — закрычаў дзяжурны. — Яны зазіралі. Акрамя таго, з трубы ідзе дым. Значыць, у топцы агонь ёсць!

— А можа, гэта дым яшчэ ўчарашні? — выказаў меркаванне Швафэль.

— Не-е-е! Гэта сённяшні!

— Але можа здарыцца што-небудзь другое, і поезд не адыдзе своечасова.

У дзяжурнага на лобе выступіў пот.

— Што павінна здарыцца? — прастагнаў ён. — Што, чорт вазьмі?!.

— Ну, напрыклад, у топцы няправільна гарыць агонь! У мяне дома ў печы таксама часам гарыць дрэнна, дык я падліваю туды бензіну...

Вочы дзяжурнага раптам загарэліся вар'яцкім агнём.

— О божа! — закрычаў ён, — я прапусціў час адпраўлення. Скоры павінен быў адысці яшчэ пяць мінут назад.

— Вось бачыце, — задаволена канстатаваў Швафэль, — я ж казаў, ці мала што можа здарыцца...

З нямецкай пераклаў М. НАВІЦКІ.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.